Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Весьці

## НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЮСТЫЦЫІ БЕЛАРУСКАЕ ССР

Зьмест.



№ 2—3

ЛЮТЫ—САКАВІК 1927 г.
1-ы год выданьня.

Менск

# Зьмест.

Стар.



## Старонка практыка.



## Растлумачэньні:



## Хроніка.

Пролетары усіх краін, злучайцеся!

# ВЕСЬЦІ

Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР

№ 2—3. Люты—Сакавік 1-ы год выданьня.

## ЖАНЧЫНА Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ.

*(Да міжнароднага жаночага дню).*

Дзесяць год таму назад, 8-га сакавіка, работніцы Ленінграду, змораныя цяжкай капіталістычнай эксплёатацыяй, недахватамі і маральнымі пераживаньнямі, выкліканымі стратай мужоў, бацькоў і братоў у імпэрыялістычнай вайне, канца каторай ня было відаць—вышлі на вуліцы, вышлі ўсьвядомленыя неабходнасьцю клясавай барацьбы, будучы поўны веры ў сілы пролетарыяту, у яго гістарычнай ролі ў барацьбе за вызваленьне чалавецтва і тым зрабілі пачатак лютаўскай рэвалюцыі, а потым і Кастрычніка.

Дзесяць год аддзяляюць нас ад гэтага гістарычнага дню. Дзесяць год цяжкай і ўпартай барацьбы за вызваленьне працоўнага народу. Барацьба гэта сапраўджалася частковымі паражэньнямі і слаўнымі перамогамі. Немагчыма ахапіць простым падлічэньнем вынікаў гэтай барацьбы. Яны настолькі аграмадны, настолькі абшырны і вялікі, што ня могуць укладвацца ў рамкі невялікага артыкулу,—гэта аграмадная і адказьнейшая задача выпадае на долю гісторыка.

Зараз, калі азірнуцца назад, на той цяжкі і няроўны шлях, які прывёў пролетарыят да слаўнай перамогі, дык неяк міма волі выплывае пачуцьцё нязьменнай павагі і да яго гэраізму.

Ні дапамога міжнароднай буржуазіі, у барацьбе рускіх капіталістых з рэвалюцыяй, ні інтэрвэнцыя імпэрыялістых, ні сьмертаноснае ўзброеньне, зробленае па апошняму слову тэхнікі, ні голад і ні разбурэньне не маглі зламаць волі пролетарыяту ў яго імкненьні да перамогі. Гэты стаіцызм і жалезная воля пролетарыяту ў значнай меры тлумачыцца тым матар'яльным і маральным падтрыманьнем, якое аказвалася работніцай і сялянкай, ня падаўшай духам у самыя цяжкія дні існавананьня савецкае ўлады. Працоўныя жанчыны нага ў ногу з мужчынай на самых небясьпечных і баявых вучастках грамадзянскай вайны і гаспадарчага будаўніцтва абаранялі заваёвы пролетарскай рэвалюцыі.

Гэтыя дзесяць кароткіх год барацьбы і будаўніцтва новага жыцьця па сваёй гістарычнай значнасьці раўняюцца стагодзьдзям. У гэтыя дзесяць год зроблена вельмі многа ў справе соцыялістыч-

*

нагаператварэньня грамады, зроблена болей, чым мы самі прадбачылі ў першыя дні рэвалюцыі. *„Паўтараста і дзьвесьце пяцьдзесят год таму назад“*,—кажа Ленін: *„абяцалі народам перадавыя правадыры вызваліць чалавецтва ад сярэдневяковых прывілеяў, ад няроўнасьці жанчыны, ад дзяржаўных пераваг таго або іншага вызнаньня, ад няроўнапраўя нацыянальнасьцяй. Абяцалі і ня выканалі. Не маглі выканаць, бо перашкодзіла „уважение“ к „священной“ прыватнай уласнасьці. У нашай пролетарскай рэвалюцыі гэтага праклятага „уважения“ да гэтага тры разы праклятага сярэдневякоўя і да гэтай „священной“ прыватнай уласнасьці ня было“*.

Перажыткі сярэдневякоўя і фэодальна-капіталістычнага ладу: абшарніцкае землеўладаньне, няроўнапраўе нярускіх нацыянальнасьцяй бяспраўе жанчыны ў сям'і і грамадзе, прывілеі дзяржаўнай рэлігіі застаюцца ў мінуўшчыне. Пытаньні: аграрнае, нацыянальнае, жаночае, рэлігійнае—разьвязаны з вычэрпваючай паўнатою нашым законадаўствам у першыя-ж дні Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У нас няма болей *„такой нізкасьці, гнюснасьці і подласьці, як бяспраўе альбо няпоўнапраўе жанчыны“*--кажа Уладзімір Ільліч. Роўнапраўе жанчыны, абарона яе правоў і інтарэсаў знаходзіць свой адбітак ва ўсім нашым законадаўстве. Па нашай Канстытуцыі жанчына разам з мужчынай заклікана да кіраваньня краінай і будаваньня новага жыцьця. Як у існуючым кодэксе аб шлюбе, сям'і і апецы, так і ў нова прынятым, на апошняй сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту—чырвонай ніткай праводзіцца абарона правоў і інтарэсаў жанчыны. Законам зацьверджаны роўныя правы супругаў, роўныя правы і абавязкі ў адносінах да дзяцей.

У галіне працоўнага законадаўства поўнасьцю забясьпечваюцца правы і інтарэсы і ахова працы жанчыны. Словам, ахова правоў і інтарэсаў жанчыны ва ўсім нашым законадаўстве складаюць яго выключную асаблівасьць.

У дзень 8-га сакавіка мы маем магчымасьць адзначыць шэраг дасягненьняў ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва. Мы ў гэтым годзе прарвалі рамкі даваеннага ўзроўню і ўвайшлі ў пэрыяд індустрыялізацыі краіны. Рэльефна вырысоўваюцца даныя аб перамозе соцыялістычных элемэнтаў у нашай экономіцы, павышэньне ўдзельнай вагі нашай прамысловасьці ў агульным размаху нашага гаспадарчага будаўніцтва, бязупыннае падзеньне прыватна-капіталістычнай долі ва ўсіх галінах прамысловасьці і гандлю. Асаблівае значэньне мае рост вытворчасьці сродкаў, вытворчасьці жыльлёвага і чыгуначнага будаўніцтва, электрыфікацыя краіны, шляхам пабудаваньня цэлага шэрагу раённых станцый, ідзе такім тэмпам, каторы пераконвае нас аб магчымасьці будаўніцтва соцыялізму.

Побач з гэтым мы маем дасягненьні ў галіне плянаваньня нашай гаспадаркі, зьмякчэньня таварнага голаду, заўладаньня хлебным рынкам, зьніжэньня цэн на прамысловыя тавары—характарызуючыя ўзмацненьне змычкі гораду з вёскай.

Рост актыўнасьці шырокіх працоўных мас, у тым ліку работніцы і сялянкі, і актыўны іх удзел у нашым будаўніцтве забясьпечвае перамогу ў барацьбе за будаўніцтва соцыялізму.

Мы павінны адзначыць асабліва вялізныя вынікі работы, якая праводзіцца нашай партыяй па ўцягненьню жаночых мас ва ўсе

галіны нашага будаўніцтва, у прыватнасьці, па выкананьню савецкага правасудзьдзя і правядзеньня цьвёрдых пачаткаў рэвалюцыйнай законнасьці.

Правядзеньне цьвёрдых пачаткаў рэвалюцыйнай законнасьці, якая замацоўвае нашы гаспадарчыя і культурныя дасягненьні, як відаць з дырэктыў нашай партыі, мае ня менш важнае значэньне, чым іншыя галіны нашага будаўніцтва, таму доля ўдзелу жанчыны на гэтым вучастку нашага гаспадарчага і культурнага фронту, павінна заняць належнае месца.

Лёзунг Уладзіміра Ільліча: „*Кожная кухарка павінна навучыцца кіраваць сваей дзяржавай*“, павінен знайсьці свой адбітак і ў рабоце органаў юстыцыі, як у адным з абаронцаў дыктатуры пролетарыяту.

Дзякуючы тым гістарычным умовам, у якіх праходзіла жыцьцё жанчыны, яна не магла заняць, у першыя гады рэвалюцыі, належнае месца ў працы органаў юстыцыі. Гэта акалічнасьць доўгі час перашкаджала масаваму ўцягненьню жанчыны ў работу судова-сьледчых органаў. У даны момант маюцца ўсе прадпасылкі да прыцягненьня работніцы і сялянкі да працы ў судзе, Пракуратуры і сьледчых органах.

Мяркуючы па тэй энэргічнай, умелай і вытрыманай дзейнасьці жанчын у якасьці нашых судзьдзяў, пракурораў і сьледчых, мы павінны канстатаваць, што жанчына ў гэтай працы бліскуча даказала свае здольнасьці. Мы маем зараз жанчын у шэрагах працаўнікоў юстыцыі: 5 судзьдзяў, 3 пракурораў, 9 сьледчых, 10 членаў калегіі абаронцаў і 3887 народных засядацеляў, якія надта добра спраўляюцца з сваімі абавязкамі.

Як відаць з прыведзеных даных, лік жанчын, працуючых у судовых органах, яшчэ вельмі нязначны, але дзякуючы зазначаным вышэй прычынам, якія перашкаджалі выкарыстаньню жаночай працы ў органах юстыцыі, прыведзеныя даныя трэба лічыць вялікім дасягненьнем. На бліжэйшы час пры непасрэднай дапамозе Жанаддзелаў трэба выкарыстаць усе магчымасьці для далейшага ўцягненьня жанчыны ў работу савецкай юстыцыі.

Калі мы ў дзень 8-га сакавіка адзначаем вялікія дасягненьні ў галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, калі мы адзначаем рост сеткі ўстаноў, якія вызваляюць жанчыну ад кухні і гаршка, то мы павінны адзначыць нашы дасягненьні ў галіне правядзеньня цьвёрдых прынцыпаў рэвалюцыйнай законнасьці.

„*Без рэвалюцыйнай законнасьці ня можа быць і культурнасьці*, кажа Уладзімер Ільліч. Ад бяспраўя і скажэньня палітыкі нашай партыі на мясцох ня менш мужчыны страдае работніца і сялянка. Пагэтаму мы пастараемся коратка затрымацца на гэтым вучастку нашага будаўніцтва. Колькаснае і якаснае ўзмацненьне судова-сьледчых органаў і органаў Пракуратуры за апошнія два гады мае сваім вынікам правільнае і адпавядаючае дырэктывам нашай партыі правядзеньне карнай палітыкі, прысьпяшэньне прахаджэньня спраў і зьнішчэньне судовай валакіты. Своечасовае і правільнае накіраваньне ўдару па тых правапарушальніках, злачынная дзейнасьць якіх прызнаецца ў кожны даны момант найбольш соцыяльна-небясьпечнай.

Дзейнасьць органаў юстыцыі ідзе па двух напрамках. У напрамку прафіляктычных мерапрыемстваў, калі злачынства яшчэ ня зроблена і ў напрамку рэпрэсыўных мерапрыемстваў, калі злачынства ўжо мае месца. Мерам папераджальнага характару мы прыдаем асабліва важнае значэньне: злачынствы лягчэй папярэджваць, чым змагацца з адбыўшыміся. Галіна прафіляктыкі досыць шырокая; яна ахоплівае компэтэнцыю шэрагу наркаматаў. Пералічэньне ўсіх відаў яе—не ўваходзіць у нашу задачу. Мы затрымаемся на тых відах прафіляктыкі, якая ўваходзіць непасрэдна ў межы дзейнасьці органаў юстыцыі.

Адным з мэтадаў прафіляктыкі зьяўляецца прапаганда нашага права і падняцьце праўных ведаў працоўных. Для гэтага рабоце нашых органаў па папулярызацыі савецкага законадаўства сярод работніцкіх і сялянскіх мас мы прыдаем выключнае значэньне. Тысяча дакладаў і лекцый, прачытаных нашымі судзьдзямі і пракурорамі на рабочых і сялянскіх сходах характарызуюць нашы дасягненьні.

Вельмі важнае значэньне прыдаецца рабоце Пракуратуры па нагляду за дзейнасьцю адміністрацыйных органаў улады, дзе могучыя мецъ месца правапарушэньні ня маюць такой агалоскі, як крымінальныя злачынствы, аб‘ектам якіх зьяўляецца ў большасьці выпадкаў, непасрэднае асабовае і маемаснае дабро грамадзян. Парушэньне-ж законаў у галіне адміністрацыйнай дзейнасьці не зачэплівае, у большасьці выпадкаў, непасрэдна інтарэсаў працоўных; вынікі такіх парушэньняў могуць адбіцца на інтарэсах грамадзян пазьней у менш рэзкай форме, чым злачынствы крымінальнага характару.

Выключная па сваёй важнасьці пароблена праца па аздараўленьню сьледчага апарату. Маюцца вялікія дасягненьні ў галіне барацьбы з службовымі злачынствамі і ў прыватнасьці з растратамі. Вядзецца энэргічная барацьба па лініі рэпрэсый за зьніжэньне цэн на прадукты фабрычна-заводзкай вытворчасьці.

У дзень 8-га сакавіка мы з гонарам можам заявіць, што ў той час, як нашы браты ў Заходняй Беларусі пастаўлены ў выключныя ўмовы бяспраўя і жабрацтва, перажываючы нячуваныя жорсткасьці фашысцкага тэрору,—працоўныя БССР ў абставінах цьвёрдага праўнага савецкага рэжыму і рэвалюцыйнай законнасьці, якія абараняюць правы і інтарэсы працоўных мас,—свабодна будуюць сваё новае жыцьцё ў кірунку да камуністычнай грамады.

8-га сакавіка—у міжнародны жаночы дзень—падрахуем вынікі ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва, падлічым нашы дасягненьні і недахопы, выявім выдатную ролю жанчыны ў нашым будаўніцтве, набяром новы кадр працоўных жанчын для найбольш слабых вучасткаў фронту нашага будаўніцтва і з новай адвагаю і з новай энэргіяй пойдзем наперад пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі па шляху будаўніцтва соцыялізму.

*Г. Нямытых.*

# ОСНОВНЫЕ ПРОБЛЕМЫ ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВА БССР.

Современное состояние нашего законодательства ставит перед законодательными и законоподготовительными органами БССР ряд проблем, требующих неотложного разрешения. Чтобы выявить современное состояние законодательства, следует остановиться на его развитии, оттенив в нем ряд своеобразных моментов, наложивших сильный отпечаток на действующее в настоящее время законодательство.

## I.

История законодательства БССР с момента об'явления самостоятельности и независимости БССР (1 января 1919 г.) может быть разделена на три главных периода, которые определяются следующими датами: 1-ое января 1919 г., 24 января 1922 г., 13—17 июня 1923 г. (по настоящее время.).

1. В первые годы существования советской власти законодательство БССР переживает период рецепции (заимствования) законодательства РСФСР. Рецепция про ходит двумя путями. В одних случаях правительство БССР в соответствующем акте предлагает руководствоваться в той или иной области управления законами РСФСР. Так, пунктом 10-ым „Манифеста Временного Советского Рабоче-Крестьянского Правительства“ от 1-го января 1919 г. распространено на территорию БССР все трудовое законодательство РСФСР. В „Конституции ССР Белоруссии“, принятой 2-м С'ездом Советов в декабре 1920 г., с'езд постановляет „в отношении уездных с'ездов советов, их исполкомов и отделов, а также по остальным вопросам советского строительства ССР Белоруссии руководствоваться Конституцией (РСФСР) и постановлениями 7-го Всероссийского С'езда Советов“.

В других же случаях, когда законодатель молчит, судебная и административная практика фактически проводит в жизнь декреты РСФСР, и законодателю остается лишь в последующих законах признать действие законов РСФСР путем ссылки на эти законы.

Так, в постановлении СНК БССР от 2-го марта 1923 г. „о порядке регистрации актах рождений и смерти“ *) имеется ссылка на изданный РСФСР „Кодекс законов об актах гражданского состояния“ формально не рецепированный, но фактически действующий на территории БССР.

Если в данном случае не было формальных оснований к применению на территории БССР закона РСФСР, то в других случаях было некоторое основание к фактической рецепции в том, что согласно союзному договору между БССР и РСФСР от 16/I—1921 г. некоторые наркоматы признаны об'единенными, причем эти Наркоматы входят в состав СНК РСФСР и имеют на территории БССР своих уполномоченных. Правительство БССР не урегулировало вопроса о порядке вступления в силу на территории БССР декретов РСФСР, касающихся отраслей управления об'единенных Наркоматов.

*) Собр Узак. БССР за 1923 г. № 5, ст. 46.

2. Декретом Президиума ЦИК БССР от 24 января 1922 г. опубликованный первой статьей в 1-м номере „Собр. Узак. Рабоче-Крестьянского Правительства ССР Белоруссии“ начинается новая эпоха в развитии законодательства БССР. Закон 24 января устанавливает, что законодательные акты ВЦИК, его Президиума и СНК РСФСР, а равно постановления необ‘единенных наркоматов и других центральных учреждений РСФСР получают силу в Белоруссии лишь после подтверждения их центральной властью БССР. Проф. В Н. Дурденевский вполне основательно заявляет, что „этим законом Правительство Белоруссии ставит кардинальный вопрос о границах союзной нормативной деятельности и успевает отстоять свою суверенную позицию“*).

Правда, жизнь и некоторые последующие законы РСФСР в области об‘единенного управления внесли кое какие коррективы в закон 24 января. Законы РСФСР, касающиеся налогов и сборов, согласно декрета ВЦИК и СНК РСФСР от 27/IV—1922 г., вступают в силу на территории союзных республик без специального подтверждения правительствами союзных республик; в целом ряде законов РСФСР определенно указывается, что они распространяются на территорию союзных республик. Эти коррективы однако не нарушают общего характера данного периода развития законодательства БССР, а изданные сейчас же за законом 24 января постановления о порядке рассмотрения, опубликования и вступления в силу законов БССР еще больше подчеркивают новый период в развитии законодательства БССР, который характеризуется, в отличие от первого периода, более точным определением круга норм, действующих на территории БССР.

3. Новый период в развитии законодательства БССР наступает в связи с образованием Союза ССР и созданием в июле 1923 г. центральных органов власти Союза ССР.

1-го августа 1923 г. Президиум ЦИК БССР в декрете „о силе для БССР декретов и постановлений Правительства Союза“ отменяет действие декрета 24 января и признает не имеющими силы на территории БССР декреты и постановления ВЦИК, утвержденные после 13 июля 1923 г. и постановления СНК и СТО РСФСР необ‘единенных наркоматов, утвержденные после 17 июля того же года. Вместе с тем, этот декрет признает обязательность на территории БССР всех декретов и постановлений правительства СССР за исключением подпадающих под действие ст. 59 Конституции СССР (опротестованных).

С этого момента вопрос о нормативных актах, действующих на территории БССР надо считать вполне разрешенными. С момента сформирования высших органов власти Союза (13 и 17 июля 1923 г.) на территории БССР получают силу закона нормативные акты, издаваемые законодательными органами БССР и СССР. Законодательная компетенция Союза и союзных республик строго определена основными законами Союза и каждой из этих республик; ими же установлены взаимоотношения между Союзом и союзными республиками, в том числе и БССР, в области законодательства.

Действующее в настоящее время законодательство состоит в большей части из законодательных актов последнего периода, но оно включает в себе большое количество актов второго и даже первого периода.

*) В. Н. Дурденевский „Конституционное строительство ССР Белоруссии“ (Советское Право“ № 1 за 1924 г., стр. 108).

II.

Изложенное не дает однако полного представления о состоянии нашего законодательства, ибо сделанный нами вывод можно отнести лишь к одной части территории БССР, именно к БССР в границах 1923 г. Между тем в марте 1924 г. и 1-го января 1927 г. перешли в состав БССР от РСФСР территории с преобладающим белорусским населением. На каждой из присоединенных к БССР территорий естественно действовало до момента присоединения законодательство РСФСР. Остается, следовательно, разобраться в вопросе о состоянии законодательства на присоединенных территориях.

1. При присоединении Витебщины*) Правительство БССР не ставило вопроса об унификации законодательства во всей его широте. Длительному и глубокому обсуждению, как на Чрезвычайном VI С'езде Советов, так и органами центральной и местной власти и самими трудящимися подвергался вопрос об унификации лишь земельного законодательства. В докладе „о расширении границ БССР и задачах советского строительства“ председатель ЦИК, тов. Червяков, отметил существенное различие земельных кодексов РСФСР и БССР, заключающееся в отсутствии начал общинного землепользования в Кодексе БССР, и поставил вопрос этот на обсуждение С'езда, указав, что по его мнению „нужно провести по всей территории Белоруссии одинаковый земельный закон, чтобы при его помощи регулировать порядок пользования крестьянством землей. Иначе мы создадим такую путаницу, которая может вредно отразиться на настроении крестьянства и создать трения в отношении крестьянства к Советской власти“.

В результате, в резолюции по докладу тов. Червякова, С'езд наметил одной из главных задач „проведение по всей территории закона о землепользовании с такими изменениями, которые наилучшим образом отвечают особенностям земельного вопроса в Белоруссии“. После длительного изучения вопроса Президиум ЦИК БССР во исполнение постановления 3-й Сессии ЦИК БССР VI-го созыва утвердил новый текст земельного кодекса и принял постановление „о введении в действие с 1-го апреля 1925 г. *единого* земельного кодекса на *всей* территории БССР“. Совет Народных Комиссаров БССР специальным постановлением (Собр. Узак. за 1925 г. № 20, ст. 186) разрешил вопрос о порядке окончания спорных земельных и землеустроительных работ, которые начаты производством при действии Земельного Кодекса РСФСР, изд. 1922 г. и БССР изд. 1923 г.

Что же касается остального законодательства, то вопрос об унификации его в каждой отдельной отрасли управления разрешался не законодательными органами, а очевидно, соответствующими наркоматами. В частности, в отношении уголовного и гражданского законодательства наше мнение подтверждается рядом циркуляров НКЮ БССР, адресованных „всем судебным органам отходящих к БССР частей РСФСР“. (Собр. Узак. БССР за 1925 г. № 3).

Таким образом, следует признать, что на территории Витебщины действует законодательство БССР. Однако, исходя из того, что закон обратной силы не имеет, целый ряд юридических фактов, имевших

*) Так мы условно будем называть территорию, присоединенную к БССР в 1924 г. Фактически эта территория охватывает не только б. Витебскую губернию, но части б. Могилевской и Смоленской губ.

место до присоединения Витебщины, должен разрешаться на осно вании законов РСФСР, в частности, вопросы купли-продажи домов права застройки, установления прав на промышленные предприятия муниципализации и т. д.

2. При присоединении Гомельщины Правительство БССР поставило вопрос об унификации *всего* законодательства и разрешило его в принципе кардинальным образом *) . В настоящий момент на территорию Гомельщины распространены следующие законы БССР: Положения о городских, сельских и местечковых советах, об окружных, районных с'ездах советов и их исполкомах; все законы, касающиеся выборов в советы и на с'езды советов в 1927 г., Земельный Кодекс, Исправительно-Трудовой Кодекс, Положение о судоустройстве БССР, Положение о Государственном Нотариате и все законы БССР, принятые до 31 декабря 1926 г., но опубликованные в 1927 г. Кроме того, законы БССР, принятые после 31 декабря 1926 г. естественно преобретают силу на территории Гомельщины на одинаковых со всей остальной территорией БССР основаниях. В остальном же действует законодательство РСФСР, имевшее силу на территории РСФСР до 31-го декабря 1926 г. включительно.

III.

Анализ современного состояния нашего законодательства приводит нас, таким образом, к несомненному выводу, что на территории БССР в границах 1927 года, благодаря двукратному расширению ее территории, не существует в настоящее время единого законодательства. Мы имеем право говорить о двух и отчасти даже о трех законодательствах. Если же иметь в виду только основное законодательство, т. е. законы, изданные законодательными органами БССР, то и здесь мы находим ряд моментов, которые отрицательно влияют на возможность ознакомления с ними и их применения. Из тысячи слишком законодательных актов, которые изданы Правительством БССР за период с 1920 по 1926 год большая часть устарела. Так, из законов 1920 и 1921 года остались действующими до настоящего момента лишь до 10-ти законов; из 162 законов, изданных в 1922 г. утратили силу 139 законов, из 104 законов 1923 г.—утратили силу 77 законов, а из 134 законов 1924 г.—утратили силу 57. Таким образом из 400 законов, изданных за 3 года (1922—24 г.) 273 закона или 68 проц. являются недействующими **).

Да и в действующих законах имеется весьма много устаревших мест. Необходимо внести в эти законы целый ряд изменений, если не в порядке законодательном, то в порядке кодификационном, ибо за годы деятельности Правительства БССР в области советского и хозяйственного строительства проведено административно-хозяйственное районирование, перераспределены административно-хозяйственные функции, в связи с чем упразднен ряд органов и созданы новые. Так, упразднены уезды и волости, вместо которых созданы округа и районы и соответственно расширены права окружных и рай-

*) Подробно этот вопрос разобран мною в ст. „Об унификации законодательства", помещенной в 1-м номере „Весьці НКЮ".

**) Конечно для 1925 г. и особенно для 1926 г. процент сильно уменьшается, но и там он все же не мал.

онных исполнительных комитетов (сравнительно с уездными и волостными исполкомами). Не существует в настоящее время таких упоминаемых в законах 1922-23 годов органов, как секция нацменьшинств при Наркомпросе, Управление кинематографией при ГОРОНО, самого ГОРОНО, ЦУТОРФ'а, НКвоена БССР, Центрастатбюро и т. д. Издан ряд кодексов и отдельных постановлений, отменявших те законы, на которые имеются ссылки в разных декретах и постановлениях 1922, 1923 и 1924 г. г. Наконец, в ряде законов предыдущих годов внесены в законодательном порядке частичные изменения, разбросанные по разным номерам „Собр. Законов" и трудно поддающиеся систематизации.

С неопровержимой убедительностью жизнь ставит перед Правительством БССР основной задачей в области законодательства на ближайший период—инкорпорацию (систематизацию) всего законодательства БССР.—Пусть эта задача очень трудна. Возможно, что нам придется не помещать в „Собрании действующего законодательства", которое получится в результате систематизации, много законов, которые, устарев в основном, сохраняют в себе отдельные нормы, действующие в настоящее время. Несомненно также придется отнести в область истории ряд законов, создавших новую эпоху в истории нашего государства. Все же работа по инкорпорации законодательства должна быть проведена, ибо в результате ее: 1) законодательство станет доступнее широким массам трудящихся *); 2) благодаря облегчению знакомства с законами и их применения усилится правовой порядок и укрепится революционная законность; 3) ясны станут пробелы в нашем законодательстве, его недочеты и противоречия, что является первым толчком к исправлению законодательства.

Параллельно с этим *должна вестись работа по унификации законодательства, действующего на территории БССР.* Эта работа, которая в настоящее время ведется в некоторых наркоматах усиленным темпом, должна быть поставлена перед всеми Наркоматами БССР.

Наконец, задача, осуществление которой должно быть расчитано на более длительный промежуток времени, но к чему следует уже приступить,—является *кодификация законодательства в тех частях, которые еще не скодифицированы.* Следует приступить к приведению в систему наших законов, относящихся к той или иной отрасли права, об'единив все разрозненные законы данной области, согласовав их между собою и восполнив пробелы.

Мы можем с определенностью утверждать, что жизнь дает нам эту возможность и даже требует проведения этой работы. Констатировано Правительствами Союза и союзных республик замедление ремпа роста нашего хозяйства, вызванное переходом к нормальному, не основанному на довоенных рессурсах росту, стабилизация если не

---

*) Эта задача поставлена перед Правительством Союза и союзных республик III-м С'ездом Советов Союза ССР в мае 1925 г. в той части резолюции по советскому строительству, которая говорит об укреплении революционной законности.

системы, то принципов управления, привели к некоторой стабилизации нашего законодательства *).

В первую очередь следует заняться об'единением законодательства по народному просвещению, жилищного и административного. В дальнейшем следует поставить вопрос о ревизии некоторых действующих кодексов, как Гражданский Кодекс, Уголовно-Процессуальный и др.

В постановлении по докладу НКЮ „об основных задачах НКЮ на 1926—27 год“ от 14 апреля 1926 года Совет Народных Комиссаров, „стремясь к изданию законов в доступной для трудящихся форме поручает Наркомюсту продолжить работу по систематизации советского законодательства и дальнейшему его уточнению (устранению противоречий и пробелов), в соответствии с развитием хозяйственной жизни страны, причем первоочередной задачей в этой области считать подготовку и издание систематического сборника законов и собрание кодексов, действующих в БССР.“ (Соб. Зак. БССР-за 26 г.)

В этом постановлении содержится часть проблем, нами поставленных. К настоящему времени эта работа в некоторой части выполнена. Составлен в хронологическом порядке сборник действующих законов БССР за 1920—1924 г. ' г., скодифицированы некоторые кодексы. Однако, для того, чтобы работа была полностью закончена, к ней должно быть привлечено внимание всех наших наркоматов и остальных законоподготовительных учреждений.

Ряд требований должен быть пред'явлен и к текущему законодательству.

В этой области мы прежде всего замечаем обилие законопроектов, которые в процессе их прохождения признаются излишними той или другой инстанцней и умирают, не успевши родиться. Это об'ясняется отчасти тем, что органы, пользующиеся законодательной инициативой, проявляют излишнюю „ведомственность“, не замечая, что предлагаемый ими проект, если и полезен с точки зрения „чистых принципов“ деятельности их ведомства, далеко не полезен, излишен и иногда даже вреден с точки зрения общегосударственных интересов, или же не может быть проведен в жизнь. Этого можно в большинстве случаев избегнуть, если предварительно согласовывать такие проекты с местными органами власти, являющимися часто непосредственными исполнителями законов и во всяком случае проводящими их в жизнь. В советском государстве совершенно

---

*) Характеризуя в заключительной речи на сессии ВЦИК принятый ею Кодекс законов о браке, семье и опеке тов. Калинин говорит между прочим следующее: „Самой характерной чертой, которая выявилась на сессии, было желание подойти к вопросу как можно осторожнее. Новый закон не является всецело новым, отрицающим наше старое законодательство. Нет, он делает только незначительный ш г вперед. И этот то незначительный шаг вперед, сделанный законопроектом, встречал значительное сопротивление внутри народных масс при оценке этого проекта, и на самой сессии. Что это значит? Что подчеркивает собой этот факт? мне кажется, этот факт подчеркивает собою то, что наступает время некоторой стабилизации закона, что наступает время когда каждый новый законопроект, каждый новый закон, выпускаемый нашими законодательными органами, должен опираться на предыдущее законодательство, должен опираться на то, что намечает жизнь, и сами законодательные органы при проведении новых законов всякое новшество принимают очень осторожно. С моей точки зрения несомненно, такими чертами характеризуется наступивший переход к более спокойной законодательной работе“.

слиты законодательная и исполнительная власти. Надо это слияние провести глубже, к корню законодательства, именно, к зарождению закона, к 1-й стадии его—законодательной инициативе и каждый проект согласовывать с исполнителями—местными органами власти. На необходимость такого согласования уже давно обращено внимание, но все же в жизнь это проводится лишь в отдельных случаях и не ведомствами, вносящими законопроект, а вышестоящими органами. Другой „порядок согласования“, передача проектов на обсуждение трудящихся, постепенно проводится в жизнь. Остается лишь отметить положительные результаты такого обсуждения, как это было, например, с „Кодексом закона о браке, семье и опеке“.

Второй не менее важной задачей в отношении текущего законодательства является редакционная сторона закона. Советские законы, издаваемые в интересах трудящихся, должны быть по изложению доступны трудящимся; законы наши, имеющие целью укрепление революционной законности, должны быть изложены так, чтобы они не подавали поводов к „толкованию“ их вкривь и вкось. Между тем, мы часто грешим против таких казалось-бы понятных вещей. Даже законы, чрезвычайно долго обсуждаемые и обрабатываемые, как например, „Положение о государственных преступлениях“ изданное Союзом ССР, страдает многими редакционными погрешностями. Слова тов. Калинина по поводу этого „Положения“. когда оно было проектом, сохраняет отчасти свое значение и сейчас *)

Перед законоподготовительными органами следует твердо поставить требование точности, ясности, понятности формулировок и глубокой редакционной проработки закона.

Весьма сложным является вопрос об издании ведомствами инструкций „в развитие закона“. Инструкции эти, „развивая“ закон, часто создают целый ряд новых норм, не оправдываемых самим законом, или повторяя закон, искажают его. Наконец, само количество их, сыплющихся как из рога изобилия беспощадно на головы граждан, заставляют нас поставить вопрос о необходимости проведения мер к ограничению „инструкционного дождя“. На этом вопросе мы остановимся подробнее; сейчас же мы его лишь ставим в „порядок дня“.

* * *

Поставленными нами проблемами отнюдь не исчерпывается сложный вопрос законодательства. Это—вопрос длительной и глубокой проработки. Но основные проблемы, намеченные нами в настоящей статье, требует разрешения в ближайшее время.

*Гавзе.*

---

*) В статье от 9 января 1927 г. „к предстоящей сессии ЦИК Союза“, помещенной в „Известия ЦИК“, тов Калинин говорит по поводу проекта „Положения о государственных преступлениях“ следующее: „мне кажется слишком небрежными плохо стилистически отделанными формулировки статей. В таких законах мысль законодателя должна быть облечена в сжатых и ярких формулировках. Мы мало обращаем внимания на стиль, а между тем совершенство формы значительно облегчает понимание содержания“.

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ.

У зьвязку з разьвіцьцём сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і гандлю, патрэбна перапрацоўка Грамадзянскага Кодэксу для прыстасаваньня яго да сучасных умоў. Зьмяшчаючы артыкул тав. Макуні, „Некалькі думак аб Грамадзянскім праве“ у дыскусыйным парадку, рэдакцыйная калегія часопісі зьвяртаецца да ўсіх чытачоў працаўнікоў у галіне Юстыцыі (у тым ліку і працаўнікоў зямельных камісій, юрысконсультаў устаноў і прадпрыемстваў) з прапановай выказаць свае думкі як аб агульных зьменах нашага Грамадзянскага Кодэксу, так і аб зьменах паасобных артыкулаў яго. Усе матар'ялы будуць скарыстаны рэдакцыйнай калегіяй шляхам надрукаваньня, прысланых артыкулаў, у часопісі, або шляхам зьмяшчэньня агляду прапануемых зьмен.

**Рэдакцыйная Калегія.**

## НЕКАЛЬКІ ДУМАК АБ ГРАМАДЗЯНСКІМ ПРАВЕ.

Наша грамадзянскае права ў сучасны момант перажывае вельмі цікавы працэс асабістае камэрсыялізацыі—прыстасаваньня да патрэбаў гандлёва-гаспадарчага звароту, які быў выклікан да жыцьця навеламі СССР пры НЭП'е. Наш Грамадзянскі Кодэкс шляхам дапаўненьня яго навеламі ператвараецца ў Кодэкс гаспадарчага права. Нашыя дзяржаўныя прадпрыемствы, якія зьяўляюцца асабістай формай кіраваньня дзяржаўнай маемасьцю, асабістым відам будаўніцтва ў СССР, у якім камандныя вышыні—чыгункі, буйныя прадпрыемствы прамысловасьці і гандлю, капальні і г. д., –знаходзяцца ва ўладаньні рабочых і сялян, не здавальняюцца рамкамі Г. К., які быў складзен у пачатку НЭП'у: да іх павінны быць прыстасаваны некалькі іншыя нормы права.

Напэўна, у Г. К. ёсьць 1 артыкул, які кажа не аб тым, што ўсякае права неабходна разглядаць з пункту погляду ўзгодненасьці яго з соцыяльна гаспадарчым прызначэньнем. Але-ж грамадзянскі зварот, які ўсе больш і больш разьвіваецца, нездавальняючыся агульным прыстасаваньнем арт. 1-га, вымагае для юрыдычнага яго рэгуляваньня ўвядзеньня ў нашае законадаўства новых інстытутаў права.

Напрыклад, у нас заўважваецца шырокае разьвіцьцё камісійных узаемаадносін: сындыкаты, пайгандлі, саюзы коопэрацыі—уся сетка, якая праводзіць прадукцыю прамысловасьці да спажыўцоў, ёсьць вялізарны камісійны апарат. Паміж тым Г. К. да гэтага часу ня ведаў дагавору камісіі. Толькі ў апошні час усе саюзныя рэспублікі ўвялі адпаведны разьдзел у свае грамадзянскія кодэксы.

Здавалася-б прасьцей за ўсе рэцэніраваць гэты інстытут з эўрапейскага права, напрыклад, увясьці ў наш Г. К. у гэтых адносінах, нормы проэкту італьянскага гандлёвага кодэксу (рэд. В.

Віваінтэ), або ажывіць дарэвалюцыйны расейскі закон за 10 красавіка 1912 г., як падобнае робіцца пры правадзейнічаньні ў лімітрофных краінах, б. частках Расейскай Імпэрыі (рэцэпцыя Гр. Укладу 1905 г.). Але-ж у гэтым выпадку выступае прырода нашых камісіянэраў, камісіянэраў публічнага права, якія маюць свае спэцыфічныя рысы, і як растлумачэньні Н. К. Ю. РСФСР і НКУГ СССР і рашэньні АК СПА і ВС РСФСР, якія ўпяршыню далі асновы гэтага дагавору ў нашым праве, таксама і адпаведныя навелы БССР, РСФСР і УССР аб дагаворы камісіі прымаюць пад увагу прыроду гэтых юрыдычных асоб, і ў канчатковым выніку нормы нашых законаў аб дагаворы камісіі значна адрозьніваюцца ад аналёгічных палажэньняў буржуазнага права.

Наогул юрыдычная прырода нашых трэстаў, сындыкатаў і іншых ня мае ніякай падобнасьці да юрыдычных асоб буржуазных старон, якія маюць аднолькавую назву. Напрыклад, згодна Г. К. і дэкрэтаў аб трэстах, трэсты з моманту рэгістрацыі зьяўляюцца юрыдычнымі асобамі, якія ня маюць сувязі з дзяржаўным скарбам. Але ж, калі зьвярнуць увагу арт. 5-га дэкрэту аб трэстах за 10/IV—1923 г., СНГ мае права выняць і перасунуць у іншае прадпрыемства ўсякую частку асноўнага капіталу, а таксама і зваротнага (тыповы статут Беларускіх трэстаў). Якая-ж гэта паасобная ад дзяржаўнага скарбу юрыдычная асоба?

З пункту гледжаньня буржуазнага і расейскага дарэвалюцыйнага права, гэта ёсьць суцэльны „нонсенс“: трэст зьяўляецца паасобнай юрыдычнай асобай, і ў той самы час орган рэгуляваньня прамысловасьці загадвае яго маемасьцю.

Але-ж тут адчыняецца сапраўдны сэнс і сацыяльна-гаспадарчае адзначэньне трэсту, як асабістай формы кіраваньня прамысловасьці з боку дзяржавы; некаторая частка дзяржаўнай маемасьці адмяжоўваецца для вольнага звароту на рынку, але-ж пад плянавым кіраваньнем рэгулюючага органу прамысловасьці, каторы можа ў кожны момант знайсьці мэтазгодным перакідваньне гэтае маемасьці і скарыстаньне яе ў іншым парадку. У сувязі з гэтым я лічу правільным высунутае ў папярэднім артыкуле № 1 часопісі „Промышленность и право“, які выдаецца пры ВСНГ СССР, пад загалоўкам: „О назревших проблемах“—палажэньне аб зьмене некаторых артыкулаў дагаворнага права, пры прыстасаваньні іх да ўзаемаадносінаў паміж трэстаў і іншых дзяржаўных прадпрыемстваў. У грамадзянскім законадаўстве буржуазных краін асновы дагаворнага права згуртоваюцца на сталым антаганізьме старон: дагавор як быццам часовае замірэньне паміж старон, якія заўсёды знаходзяцца ў варожасьці.

Падыходзіць з гэтага боку да дагаворных узаемаадносін і паміж нашымі дзяржаўнымі органамі нельга: тут у якасьці асновы трэба ўзяць прынцып салідарнасьці а не варожасьці, з гэтай прычыны аўтар вышэй паказанага артыкулу прапануе ўзаконіць палажэньне аб дагаворнай дзейнасьці нашых дзяржаўных органаў: старана, якая чакае ад другой выкананьня дагавору, не павінна абмяжоўвацца бязьдзейным чаканьнем, але павінна напамінаць контрагэнту аб тэрміну і неабходнасьці выкананьня абавязаннасьці. Прапанова вельмі правільная і адпавядаючая прыродзе нашых дзяржаўных прадпрыемстваў. Такім чынам, наша права прыймае больш дынамічнасьці і выцякае з думак аб агульнай эканоміі сродкаў і папярэджаньні дарэмнай траты сіл і матар'яльных каштоўнасьцяй.

Аднак, каб ухіліцца ад небясьпекі надмернага ўмяшаньня рэгулюючых установў ва ўзаемаадносіны старон і пераходу да мінулых прынцыпаў главкізму, што парушае палажэньне арт. 31 дэкрэту аб трэстах аб адказнасьці праўленьня трэсту за гаспадарчае вядзеньне справы, неабходна моцна абмежаваць ужываньне гэтага прынцыпу толькі выключнымі выпадкамі.

Таксама-ж зьяўляецца неабходным перагляд патрабаваньня выкананьня арт. 137 Г. К. у бок зьмякчэньня фармалізму гэтага артыкулу, і законадаўства Украіны, якое вызваліла дзяржаўныя органы ад абавязковага натарыяльнага засьведчаньня іх зьдзелак, дзейнічала ў гэтым напрамку вельмі пасьлядоўна. Ва ўсякім выпадку прадпрыемствы таго-ж самага ведамства павінны вызваляцца ад ахоўваньня гэтага правіла і ні ў якім выпадку не павінны падлягаць натарыяльнаму засьведчаньню гэнэральныя дагаворы паміж трэстаў і сындыкатаў, іх камісыянэраў,

Неабходна таксама пераглядзець палажэньне Г. К. аб няўстойцы ў дагаворах паміж дзяржаўных прадпрыемстваў, хоць практыка А. К. дала шмат прэцэдэнтаў у гэтым напрамку, асабліва-ж адносна прыстасаваньня так званай штрафной няўстойкі, але-ж гэтыя палажэньні патрэбна ўключыць у Г. К.

У сучасны момант ідзе вялікая праца перагляду прамысловага права, выяўляюцца ўзаемаадносіны паміж ВСНГ і трэстаў і іх закладаў, трэстаў і сындыкатаў і г. д. (Т. П. Г. № 285 за 10/XII—1926 г. камісія Рухімовіча). І мне здаецца, што было-б своечасова пераглядзець адначасна з гэтым і палажэньні Г. К. рэспублікі ў мэтах дапасаваньня іх да сапраўднай прыроды нашых дзяржпрадпрыемстваў, як формы кіраваньня дзяржаўнай прамысловасьцю.

*Макуня.*

## РОЛЯ СУДУ, ЯК ОРГАНУ КАСАЦЫЙНАГА РАЗГЛЕДЖАНЬНЯ

Касацыйныя інстанцыі пры вырашэньні спраў, павінны адначасна з касацыйным разгледжаньнем, даваць абаснаваныя паказаньні па поваду правільнага разуменьня і прыстасаваньня закону ў нашай рэчавістасьці.

Хоць гэтыя паказаньні і абавязковы толькі для гэтай справы, па якой яны адбыліся, але на практыцы значэньне іх вялікае, як жывы прыклад таго або іншага тлумачэньня і прыстасаваньня закону ў падобным выпадку.

Правільна і досыць даволі поўна выкладзеная касацыйная пастанова мае вялікае значэньне ў судовай практыцы. Паміж тым, практыка паказвае, што законы ня поўны, іншы раз супярэчны або ня ясны, што адзін і той-жа жыцьцёвы выпадак можа быць падведзен пад розныя тлумачэньні законаў, у залежнасьці ад таго, як высьветліць яго. У грамадзянскіх спрэчках нармальным зьяўляецца такое становішча, што абедзьве стораны добрасумленна лічаць сябе правымі, прыдаючы аднаму і таму-ж выпадку або закону розныя тлумачэньні і сэнс.

У сілу прыведзеных меркаваньняў, касацыйныя інстанцыі, пры сучасных умовах дзейнасьці судовых установ, не выстарчальнай падрыхтаванасьці судзьдзяў, ня рэдка адсутнічаньне прадстаўніка Пракурорскага нагляду на мясцох, а часта юрыдычнай дапамогі, набываюць першай важнасьці значэньня, як акумулятара судовага вопыту, які павінен служыць школай савецкага права і зьяўляцца тым юрыдычным рулём, які накіроўвае дзейнасьць народных судоў па правільнаму рэчышчу рэвалюцыйнай законнасьці па компасу адзінай судовай палітыкі, у адпаведнасьці з задачамі рабоча-сялянскага ўраду.

У сувязі з тым, што функцыі касацыйнага разгледжаньня зьдзейсьніваюцца роўналежна з Найвышэйшым Судом таксама і Акруговымі Судамі, то трэба прызнаць, што дзейнасьць апошніх у ўшмат якіх выпадках яшчэ не дасягнула сваё актуальнасьці. Неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на адзінства судовай практыкі і строгае захаваньне прынцыпаў правядзеньня адзінства судовай палітыкі; пры гэтым нялішня ўспомніць паказальныя словы ЛЕНІНА па поваду неабходнасьці ўстанаўленьня адзінай цьвёрдай законнасьці, каб ня было законнасьці калускай, побач з законнасьцю казанскай, што паміж іншым, назіраецца ў нашай касацыйнай практыцы, дзе па аднолькавых справах выносяцца рознагалосныя растлумачэньні аднаго і таго-ж закону. Выходзячы з гэтага павінна быць зьвернута вялікая ўвага на тую акалічнасьць, каб касацыйнае разгледжаньне асабліва пры наяўнасьці, як паказана вышэй, двух для гэтага інстанцый, адпавядала-б наступным асноўным умовам:

1. Дзеля таго, што ўся падрыхточая работа судовых спраў вядзецца сьледчым апаратам, ад правільнасьці і паўнаты каторай залежыць далейшы посьпех руху справы ў судовых інстанцыях, Пракуратуры прыходзіцца і прыдзецца прымаць немалы ўдзел у гэтай падрыхтоўчай рабоце, строга падбіраючы працаўнікоў зазначанай кваліфікацыі.

2. Дзеля пасьпяховай дзейнасьці членаў Акруговага або Найвышэйшага Суду па касацыйнай калегіі лік спраў, якія падрыхтоўваюцца для дакладу і вырашэньня ў калегіі, не павінна быць асабліва ш м а т, бо дзейнасьць касацыйнага Суду можа быць пасьпяховай толькі пры ўмове не абцяжэньня яго членаў цяжкай бязупыннай работай. Член, які дакладвае касацыйнай інстанцыі, павінен мець поўную мажлівасьць добра падрыхтавацца да кожнай справы, вывучыць усебакова паднятыя ім пытаньні, аднавіць у сваёй памяці ранейшыя рашэньні і вывады навукі і, нарэшце, матывіраваць рашэньні з належнаю яснасьцю, паўнатою і дакладнасьцю.

3. Растлумачэньні касацыйных калегій павінны быць ва ўсіх выпадках аднастайнымі, бо супярэчнасьць іх будзе ня толькі хістаць цьвёрдасьць грамадзянскага звароту, але і савецкіх законаў і самы аўтарытэт улады.

4. Усякага роду тлумачэньні законаў павінны быць строга узгоднены з асноўнымі прынцыпамі судовай палітыкі.

5. Рэвізійны парадак пры касацыйным разгледжаньні павінен быць вычэрпаючы праведзен ва ўсёй яго паўнаце.

6. Касацыйная пастанова, як сродак інструктаваньня народных судоў, павінна быць падрабязна юрыдычна абаснавана.

*А. Варашылаў.*

# ВЫНІКІ БАРАЦЬБЫ З РАСТРАТАМІ

З пачатку кампаніі па барацьбе з растратамі, з жніўня 1925 г. па кастрычнік 1926 г. прайшло 14 месяцаў, і мы маем у сучасны момант мажлівасьць падвесьці некаторыя падлікі вынікаў гэтай барацьбы.

У пачатку кампаніі па барацьбе з гэтым злом калі-ні-калі адзначалася тэндэнцыя сярод некаторых кіраўнікоў гаспадарчых і гандлёвых устаноў і прадпрыемстваў абмяжоўвацца ў адносінах да растратчыкаў мерамі, так сказаць, хатняга ўплыву. Нежаданьне ўзбуджаць крымінальнае прасьледваньне супроць асоб, выяўленых у растраце, матывіравалася: нязначнасьцю сумы растраты, магчымасьцю яе пагашэньня растратчыкам шляхам штомесячнага ўтрыманьня пэўнай сумы з яго пэнсіі, або з прычыны асаблівых заслуг растратчыка перад установай, растрату ў якой ен зрабіў. Назіраліся і такія выпадкі, калі меры рэпрэсыі зводзіліся да перакідкі вінаватага з аднаго прадпрыемства ў другое ўнутры аднаго і таго-ж ведамства або гаспадарчай організацыі; мелі месца выпадкі прад'яўленьня к растратчыкам грамадзянскіх іскаў у судзе грамадзянскім. Але, дзякуючы шэрагу мерапрыемстваў, якія праведзены як па партыйнай, так і па савецкай лініі, якія знайшлі свой адбітак і ў нашым друку, з першых-жа дзён кампаніі гэтыя ненармальныя зьявішчы былі лёгка выжыты.

За час кампаніі праведзена ў кожнай акрузе шэраг паказальных працэсаў, галоўным чынам, па тых справах, па якіх выявілася найбольшая злосьлівасьць растрат. Да такога роду спраў могуць адносіцца, калі растраты зроблены ў мэтах лёгкага абагачэньня, калі яны сапраўджаліся іншымі злачынствамі, як та: падлогамі, безгаспадарнасьцю, злоўжываньнем, перавышэньнем або бязьдзеяньнем улады і, нарэшце, калі ў растратах прыймалі ўдзел некалькі чалавек пры злачыннай бязьдзейнасьці службовых асоб, адказных за схованасьць матар'яльных каштоўнасьцяй устаноў або прадпрыемстваў.

За паказаны час накіравана па Рэспубліцы спраў аб растратах з адданьнем суду—у Акруговыя Суды 670, у народныя суды—1462, накіравана на прыпыненьне—518 спраў, усяго накіравана 2650 спраў. Па суме растрат справы, якія прайшлі цераз сьледчыя органы, распадаюцца:

| | |
|---|---|
| да 15 руб. . . . . | 201 справа |
| ад 15 „ да 50 руб. . . | 372 „ |
| ад 50 „ да 200 „ . . | 803 „ |
| ад 200 „ да 1000 „ . . | 777 „ |
| ад 1000 „ да 5000 „ . . | 280 „ |
| звыш 5000 „ . . . . | 46 „ |

Як відаць з прыведзенай табліцы пераважная маса спраў прыпадае на параўнаўча дробныя сумы растрат: да 200 руб.—803 справы, з 200 да 1000 руб.—777 спраў, па-больш буйных растратах—ад 1000 да 5000 руб. і звыш 5000 руб. узьнікла 326 спраў. Першая катэгорыя ў большай сваёй частцы напэўна адносіцца аб растрат у нізавой коопэрацыйнай сетцы, другая катэгорыя адносіцца да растрат больш кваліфікаваных, якія учынены асобамі, наданымі асаблівым давер'ем, і ва ўстановах, якія ўладаюць буйнымі зваротнымі капіталамі.

Па ўзьнікшых за 5 месяцаў жнівень—сьнежань 1925 г. справах (у тым ліку і прыпыненых)—па Рэспубліцы сума растрат вылічаецца 613.209 руб. За першы квартал (студзень—сакавік) 1926 год—469.258 руб., за другі квартал (красавік—чэрвень)—486.477 руб. і за трэці квартал (ліпень—верасень)—263.331 руб. Усяго за час кампаніі—1.832.275 руб. З гэтай сумы арыентыравачна патрэбна выключыць 50 проц. сумы растрат па справах, якія накіраваны на прыпыненьне і па справах, сьледзтва па якіх зацягнулася і растраты па якіх улічваюцца некалькі раз; трэба выключыць таксама сумы растрат у разьмеры 145264 руб. па тых 404 справах, якія заставаліся ня 1-е жніўня 1925 г.—да пачатку кампаніі.

Такім чынам, у канчатковым выніку мы атрымоўваем: 1.832.275 руб. (50 проц.—916.137 р. 50 к.—145.264)=770.873 р. 50 к. Сума даволі значная, але тыя мерапрыемствы, якія праводзяцца нашай партыяй і Савецкай уладаю па барацьбе з гэтым злом, упэўняюць у тым, што гэтая значная сума застаецца ў мінулым, і ў будучым мы такімі лічбамі даваць малюнкі пры падвядзеньні вынікаў па барацьбе з гэтым відам службовых злачынстваў ня будзем.

Такія лічбавыя вынікі чатырнаццаці месячнага вучоту органамі юстыцыі сумы растрат, якія выявіліся па пройдзенных цераз іх справах. Натуральна напрошваецца пытаньне, якія-ж вынікі гэтай кампаніі? і ў якім напрамку ідзе крывая руху спраў па гэтаму злачынству? На гэта пытаньне магчым адказ таксама моваю лічбаў. Да пачатку кампаніі на 1-е жніўня 1925 г. было падлічана 404 справы аб растратах на суму 145264 рублі, ня лічачы растраты іншых матар'яльных каштоўнасьцяй, на 1-е студзеня 1926 г. заставалася ў срававодстве спраў—405 на суму 116515 руб., на 1-е красавіка—446 спраў на суму 236043 руб., на 1-е ліпеня—383 справы на суму 190650 р. На 1-е кастрычніка 387 спраў на суму 234716 руб.

Такім чынам, мы бачым, што колькасьць спраў некалькі скарацілася, але сума растрат ідзе па крывой уверх, так сказаць, колькасьць ператвараецца ў якасьць. Адсюль відаць, што дробныя растраты скарачаюцца; растраты-же на буйныя сумы маюць тэндэнцыю да росту. Так, на 1-е студзеня 1926 г. спраў па растратах на суму ад 200 да 1000 руб. лічылася 85, ад 1000 да 5000 руб.—27 спраў, на 1-е кастрычніка спраў першай катэгорыі заставалася ў справаводстве сьледчых—98 і апошняй—40; рост гэтай катэгорыі спраў напэўна мае месца.

Апошнія даныя кажуць за тое, што барацьба з растратамі ні ў якім разе ня можа лічыцца закончанай; яна павінна быць паглыблена і прадоўжана. Мерапрыемствы па барацьбе з растратамі павінны быць увязаны з правадзімай кампаніяй па барацьбе з растратамі за рэжым эканоміі. Зусім ясна, што ўсе дасягненьні ў галіне барацьбы за рэжым эканоміі зьвядутся да нуля, калі тэмп растрат у бліжэйшы час ня будзе скарочан; немажліва эканоміць там, дзе народнае дабро сотнямі тысяч перакачваецца ў бяздонныя кішэні растратчыкаў.

Найбольшая колькасьць растрат да гэтага часу наглядаецца, галоўным чынам, у Менскай, Барысаўскай, Віцебскай, Бабруйскай і часткова Магілеўскай акругах. Так, па Менскай акрузе сума штомесячных растрат хістаецца ад 60 да 92 тыс. р., па Барысаўскай акрузе ў першым паўгодзьдзі мінулага году ад 80 да 86 тыс. рублеу, і ў 3 квартале назіраецца рэзкае падзеньне крывой з 80 тысяч да 7 тысяч у месяц, па Віцебскай акрузе ад 8 да 25 тысяч рублёў, па Барысаўскай акрузе сума растрат з месяца ў месяц ідзе на павышэньне: у студзені сума растрат складала 8 тысяч руб.,

согласно постановления СНК СССР от 21-го января 1926 года должны храниться в местном Коммунбанке, а где его нет—в Госбанке.

Таким образом мы видим, что наряду с децентрализацией фондов на Комитеты Содействия возлагается регулирование и финансирование не только строительства по линии рабочей жилищной кооперации, но вообще всего рабочего жилищного строительства.

В последнее время постановлением ЦИК и СНК СССР от 31-го декабря 1926 года установлен еще один источник для усиления фонда на рабочее жилстроительство,—это надбавка к взносам на социальное страхование и отчисления от этих взносов. Все учреждения, предприятия, хозяйства и лица, производящие взносы по социальному страхованию, уплачивают надбавку к этим взносам в размере от 0,75 проц. до 1,6 проц., выплаченной заработной платы (в зависимости от тарифа взносов на социальнос страхование). Эта надбавка, взимаемая органами Социального страхования одновременно со страховыми взносами, целиком поступает в фонд рабочего жилстроительства. Помимо указанной надбавки органы Соцстраха производят на нужды рабочего жилстроительства отчисления от поступаемых страховых взносов в размере 1/2 проц. со всей суммы заработной платы, по которым страховые взносы уплочены. Упомянутая надбавка и отчисления вводятся с 1-го октября 1926 года (дополнителвно будет издана инструкция НКТ и НКФ СССР по применению этого постановления).

Порядок организации, состав, об'ем деятельности и права жилищной кооперации всех видов (жилищно-арендной, строительной рабоче и обще-гражданской) подробно регулируются общесоюзным декретом от 19-го августа 1924 года о жилищной кооперации. В соответствии с этим декретом ЭКОСО БССР утвердило в январе 1925 года типовые уставы жилищных кооперативов всех видов, их союзов и, наконец, устав Белжилсоюза. Уставы Союзов утверждаются ЭКОСО, а уставы первичных жилкооперативов регистрируются в окружных союзах Жилкооперации, а где их нет—в местных Комитетах Содействия жилищно-рабочей кооперации. Необходимо отметить, что согласно позднейшим постановлениям ЦИК и СНК СССР от 14-го августа 1925 года членами рабочих жилстроительных коопе-

## ПРЫЁМ ЗАЯЎ НАРСУДАМІ І ЎЗБУДЖЕНЬНЕ КРЫМІНАЛЬНАГА ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЯ.

З асаблівай асьцярогай патрэбна нарсудзьзям падыходзіць да пытаньня ўзбуджэньня крымінальнага прасьледаваньня па справах прыватнага абвінавачваньня, складаючыя пераважную катэгорыю спраў, і якія знаходзяцца ў вядзеньні народных судоў.

Між тым, пытаньню прыёму заяў вышэйпаказанага характару і перэтварэньню іх у крымінальныя справы не ўдзяляецца даволі ўвагі, прыём іх праводзіцца, мэханічна нарсудзьдзямі (а месцамі і сэкратарамі), якія накладваюць штампаўзорныя рэзолюцыі: „завесьці справу“.

У парадку выкананьня падобнай рэзолюцыі ўносяцца адпаведныя запісі ў настольныя рэестры і альфабэты, траціцца час і сродкі на завядзеньне спраў, рассылаюцца позвы, адрываюцца ад сваіх працоўных заняткаў абвінавачваемыя, сьведкі і іншыя асобы і судовыя пасяджэньні заграмаджаюцца разгледжаньнем спраў, у якіх няма абсалютна ніякіх прымет крымінальна-карнага дзеяньня і няўхільна заканчываючыхся апраўдальнымі прыгаварамі.

Бо даволі было-б мінімальнай увагі і прадуманасьці народнага судзьдзі ў момант прыёму падобнага заяўленьня, для таго, каб адразу ўгледзець у ёй адсутнасьць злачынства, адмовіць у падняцьці крымінальнага прасьледаваньня і не прыводзіць у рух складную і грамоздкую машыну суду.

ративов могут быть не только рабочие и служащие государственных профессиональных, партийных, кооперативных учреждений и предприятий, но и лица, работающие по найму у частных лиц и их об'единений, а равно безработные рабочие и служащие, и инвалиды войны и труда.

Все новое жилищное строительство, проводимое кооперацией, как рабочей, так обще-гражданской, государственными предприятиями, а равно и частное строительство, производится до сих пор *на праве застройки* или достройки. Срок владения постройками устанавливается договорами застройки в пределах: до 60-ти лет для каменных строений и до 40 лет для деревянных и других; после истечения этого срока постройки передаются городским советам с возмещением застройщикам стоимости построек. В последнее время в целях большего стимулирования кооперативного жилстроительства, ЦИК и СНК СССР издано 21-го декабря 1926 года постановление, предоставляющее жилищно-строительным кооперативным товариществам как рабочим, так и обще-гражданским, кроме существующего срочного права владения по договорам застройки, еще и *право собственности* на возводимые строения: эти товарищества вправе получать земельные участки для возведения, восстановления или достройки на них строений *по своему выбору—либо на срок по договорам на право застройки, либо в бессрочное пользование*; строения возводимые на участках земли, предоставленных этим товариществам в бессрочное пользование, принадлежат им на праве собственности. Кроме того на местные исполкомы возложена обязанность по требованию рабочих жилстройкооперативов, заменять заключенные уже с ними до издания этого постановления договора о праве застройки земельных участков договорами о предоставлении этим товариществам (только рабочим тов-м) тех же земельных участков в бессрочное пользование; с момента заключения таких договоров, строения на этих участках признаются принадлежающими рабочим жилтовариществам на праве собственности.

*Г. Чернявский.*

*(Окончание следует.)*

---

Падобных зьявішч, бяспрэчна, ня было-б, калі нарсудзьдзі выконвалі патрабаваньні артыкулу 233 КПБ аб вынясеньні пастаноў аб пераданьні суду, што само па сабе абавязала-б нарсудзьдзяў адносіцца з большай увагай да паказаных спраў. Нарсудзьдзі ўхіляюцца, аднак, ад вынясеньня зазначных пастаноў нібы з прычыны вялікай нагрузкі, ня лічачыся з тым, што самі-ж дапамагаюць гэтай нагрузцы, заводзячы справы там, дзе патрэбна адмовіць у падняцьці крымінальнага прасьледаваня (арт. 95 КПК).

Невыстарчальна наладжана таксама пытаньне аб чарговасьці назначэньня спраў да слуханьня. У большасьці выпадкаў гэтай справай ведаюць сэкратары нарсудоў, якія кіруюцца невядома якімі меркаванямі, азначаючы чарговасьць назначэньня тае або іншай справы, чым выклікаюць вельмі часта шматлікавыя нараканьні.

Толькі там, дзе народныя судзьдзі самі вызначаюць чарговасьць назначэньня спраў да слуханьня, няма падобных нараканьняў і захоўваўюцца паказаньні НКЮ аб назначэньні спраў у парадку чарговасьці.

(КАНЕЦ БУДЗЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ)

*Уладаўскі.*

# Старонка практыка.

## НЕАБХОДНА ПЕРАГЛЯДЗЕЦЬ.

*(Аб дысцыплінарных пакараньнях, якія накладаюцца на рабочых і служачых).*

У законе аб асновах судаводзтва Саюзу ССР і саюзных рэспублік маецца ўказаньне аб тым, што „парадак дысцыплінарных пакараньняў, якія накладаюцца на службовых асоб, устанаўліваецца асаблівым законадаўствам саюзных рэспублік“ (арт. 23),

Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў БССР выдана на гэтай падставе пастанова „аб дысцыплінарных пакараньнях“, якія накладаюцца на службовых асоб дзяржаўных і прыроўненых да іх установаў і прадпрыёмстваў.

Пастанова гэта ўстанаўляе наступныя пакараньні, якія могуць накладацца ў адміністрацыйным парадку: а) заўвага, б) выгавар, в) перамяшчэньне на другую роўную, або перавод на ніжэйшую пасаду і г) звальненьне з пасады.

Пакараньне ў відзе перамяшчэньня на другую роўную або перавод на ніжэйшую пасаду зусім супярэчыць дзейнічаючаму законадаўству аб працы. Арт. 36 КЗАП проста кажа: „наймальнік ня можа патрабаваць ад найміта работы, якая не адносіцца да таго роду дзейнасьці, на якую апошні наняты“. Калі ў прадпрыемстве часова няма работы, для якой запрошан працоўны, наймальніку даецца права перавесьці яго на другую працу, якая адпавядае яго кваліфікацыі. Пры адмове працоўнага ад выкананьня гэтага наймальнік мае права паводле арт. 89 зволіць яго з выдачай выхадной дапамогі.

Такім чынам, КЗАП пэўна ўстанаўляе, што наймальнік ня мае права бяз згоды самога працоўнага перавесьці на другую роўную, або ніжэйшую пасаду. Гэта палажэньне зьяўляецца зусім правільным і няўхільна выцякаючым з самой прыроды нашага працоўнага законадаўства, якое ўстанаўляе дабрахвотны наём для працоўных, а зусім не працоўную павіннасьць. Між тым, устанаўленьне дысцыплінарнай кары ў відзе перамяшчэньня на другую роўную або ніжэйшую пасаду зусім адмяняе гэта прынцыповае палажэньне.

Нядобра таксама абстаіць справа і з устаноўленым дысцыплінарным пакараньнем у відзе звальненьня з пасады. КЗАП (арт. 47), як вядома, пэўна ўстанаўляе, *у якіх выпадках* можа ўжывацца звальненьне. Само сабою зразумела, што гэта азначэньне мае надзвычайна важнае значэньне для працоўных. Між тым у пастанове, аб якой ідзе гутарка, гэты момант зусім выпушчан, што дае права зацікаўленым асобам тлумачыць яго, як дапушчаючае звальненьне зусім незалежна ад арт. 47 КЗАП. Такім чынам пастановай Цэнтральнага Выка-

нэўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Беларусі аказаўся адмененым адзін з найбольш важных артыкулаў КЗАП, які гарантуе працоўных ад усякага самавольства пры пазбаўленьні работы, гэта значыць, у пытаньні, якое мае для працоўных найбольшае значэньне.

14-га кастрычніка 1926 г. НКПБ выдаў абежнік „аб налажэньні адністрацыйных пакараньняў на рабочых і служачых дзяржаўных установ і прадпрыёмстваў“ (Бюлетэнь СНКБ № 13 за 1926 год), якім дзеяньне паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНКБ за 10/VII—1925 г. аб дысцыплінарных пакараньнях, якія накладаюцца *на службовых асоб*, зусім няправільна распаўсюдзіў таксама *на ўсіх рабочых* дзяржаўных прадпрыёмстваў. Гэтым ён яшчэ больш усугубіў палажэньне, распаўсюдзіўшы маючыя ў пастанове ЦВК і СНКБ вельмі важныя выняткі з КЗАП на аграмадную большасьць працоўных.

І пастанова за 10/VII—25 г. і абежнік НКПБ за 14 кастрычніка 1926 г. ня толькі нездавальняльны, але і зусім не патрэбны. Па існуючаму працоўнаму законадаўству пытаньні аб адміністрацыйных пакараньнях поўнасьцю і ўпаўне здавальняюча вырашаюцца правіламі ўнутранага распарадку і прыкладаемай да іх табельлю аб пакараньнях, якія павінны абавязкова мецца ва ўсіх установах і прадпрыёмствах, у тым ліку і дзяржаўных. Адміністрацыйныя пакараньні, якія ўстанаўляюцца правіламі ўнутранага распарадку, знаходзяцца ў поўнай адпаведнасьці з дзейнічаючым законадаўствам аб працы, даючы ў той-жа час неабходныя правы адміністрацыі, з аднаго боку, і гарантыі працоўным, з другога боку.

Няліпіне ўказаць, што іменна ў гэтым напрамку вырашана гэта пытаньне і ў РСФСР. Пастановай за 26 лістапада 1926 году НКП РСФСР ўстанавіў прыкладную табель пакараньняў, за парушэньне працоўнай дысцыпліны ў дзяржаўных установах і ў кіраўнічым апараце трэстаў, сындыкатаў і акцыянэрных таварыствах з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу. Устаноўленая РСФСР прыкладная табель пакараньняў можа зьмяняцца ў адпаведнасьці з асаблівасьцямі данай установы па згодзе адміністрацыі з адпаведным прафэсіянальным саюзам і падлягае зацьвярджэньню інспэкцыяй працы, гэта значыць праводзіцца ў жыцьцё ў парадку, які ўстаноўлен для правіл унутранага распарадку. Няма чаго і казаць, што прыкладная табель пакараньняў, якая ўстаноўлена НКП РСФСР, саўпадае з табельлю пакараньняў звычайна ўжываемай саюзамі, не зьмяшчае пакараньняў, якія супярэчаць КЗАП і дазваляе звальненьне ў строгай адпаведнасьці з КЗАП.

З усяго сказанага мы робім наступны вывад: Пастанова за 10/VII—г., роўна, як і цыркуляр НКПБ за 14/X—26 г., неабходна адмяніць, а замест іх выдаць прыкладныя правілы ўнутранага распарадку, прадугледжаныя арт. 53 КЗАП, паколькі такія да гэтага часу ня выданы (маюцца толькі прыкладныя правілы, якія распрацаваны ў ЦСПС, абавязковы толькі для профсаюзаў.

*Н. Юдзін.*

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ РАБОЧЫМ КРЭДЫТАВАНЬНІ.

У № 253 „Савецкай Беларусі“ за 5 лістапада 1926 году апублікавана пастанова Эканамічнай Нарады аб крэдытаваньні рабочых і служачых. Пунктам 7-м гэтай пастановы Народнаму Камісарыяту Працы даручаецца „пераглядзець законапалажэньне аб выліках за рабочае крэдытаваньне пры звальненьні з працы“ (прыраўняць дробна-крамны крэдыт да авансу“).

Гэтае пытаньне зьяўляецца вельмі паважным і паднята своечасова. Аб значэньні крэдытаваньня многа гаварыць ня трэба, і кожнаму зразумела як патрэбна крэдытаваньне рабочаму і служачаму, які з сваёй заработнай платы звычайна можа толькі жывіцца, але ў большасьці выпадкаў ня можа набываць без дапамогі крэдыту вопратку для сваёй сям'і. З другога боку, і коопэрацыя ня можа рызыкаваць сваімі сродкамі, і дае крэдытаваньне рабочым і служачым толькі пад умовай забясьпекі своечаснай выплаты за адпушчаныя тавары. Гэтая забясьпека на практыцы звычайна ажыцьцяўляецца шляхам выдачы адміністрацыяй установы або прадпрыемства, дзе працуе асоба, якая крэдытуецца, вэксалю, абавязнасьці ці парукі. Усе гэтыя спосабы гарантыі па сутнасьці зьяўляюцца незаконнымі па наступных прычынах.

Кожны адміністратар (Народны Камісар, загадчык установы, дырэктар трэсту і г. д.) мае права распараджацца адпушчанымі яму сродкамі толькі ў азначаных межах: ён можа выплачваць заработную плату, купляць канцэлярскія прылады, апал, неабходную сырызну і інш. Але ніякімі законамі, інструкцыямі, статутамі яму ня дана права выплачваць з дзяржаўных крэдытаў ці гаспадарчых сум, за купленую рабочым ці служачым вопратку або рэчы хатняга ўжытку. А тым часам выдачу абавязнасьці ці вэксалю няможна разглядаць як простую фармальнасьць, бо ў выпадку нявыплаты доўгу за крэдытаваньне рабочым ці служачым, зразумела, павінна выплаціць адміністрацыя, якая паручылася за сваіх служачых. У канчатковым выпадку забясьпека магла-б выяўляцца ў форме абавязнасьці адміністрацыі затрымліваць пры кожнай чарговай выдачы заработнай платы пэўную суму ў лік доўгу за крэдытаваньне. Але і гэты спосаб зьяўляецца рэчавістым толькі да таго часу, пакуль на гэта згаджаецца даўжнік для таго, што ўсякія вылікі з заработнай платы, не прадугледжаныя законам, могуць рабіцца толькі са згоды рабочага і служачага або на падставе выканальнага ліста.

Мы лічым, што ўсякае паручыцельства з боку адміністрацыі за даўгі рабочых і служачых па крэдытаваньню трэба адхіліць. На адміністрацыю можна ўскласьці абавязак вылічваць адзначаную суму з заработнай платы для перадачы кооперацыі, пры чым законам павінна быць устаноўлена, што рабочы ці служачы, які выказаў сваю згоду на гэтакае вылічэньне, упасьледку ўжо ня мае права адмаўляцца ад выліку ўмоўленай сумы да поўнай выплаты доўгу за крэдытаваньне.

Апроч гэтага трэба ўстанавіць ў законе крымінальную адказнасьць для асоб, якія, атрымаўшы рабочае крэдытаваньне і будучы звольнены з пасады, будуць хаваць ад коопэрацыі сваё новае месца жыхарства і адхіляцца ад уплаты доўгу.

*С. Рахманін.*

# АБ АБСКАРДЖВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ СУДУ, ВЫНЕСЕНАЙ У ПАРАДКУ 185 арт. ГПК.

У судовай практыцы ўзьнікае надзвычайна цікавае пытаньне аб магчымасьці абскарджваньня вынесенай у парадку 185 арт. ГПК пастановы суду аб талкаваньні і растлумачэньні свайго рашэньня.

Калі мы зьвернемся да арт. 235 ГПК, то мы ўбачым, што касацыйная скарга можа быць падана толькі на рашэньне суду. Паколькі-ж тлумачэньне рашэньня не зьяўляецца новым рашэньнем, то значыцца на падставе дакладнага сэнсу арт. 235 ГПК мы павінны прыйсьці да таго вываду, што на тлумачэньне рашэньня ў парадку арт. 185 ГПК ня можа быць падана касацыйная скарга.

Але на растлумачэньне судом свайго рашэньня можа быць падана асобамі, прымаючымі ўдзел у справе, прыватная скарга.

Дзеля таго, што, паводле арт.249 ГПК прыватныя скаргі могуць падавацца толькі ў выпадках, спэцыяльна прадугледжаных ГПК, а магчымасьць-жа падачы прыватнай скаргі на тлумачэньне судом свайго рашэньня ГПК не прадугледжана, то прыходзіцца адзначыць, што на растлумачэньне рашэньня нельга прынесьці таксама і прыватную скаргу.

Напэўна, у выпадках яўна няправільнага тлумачэньня судом свайго рашэньня, яно можа быць апратэставана Пракуратурай на прадмет адмены яго ва ўстаноўленым для таго парадку.

Аднак, маючы на ўвазе, што інстытут абскарджваньня рашэньняў і пастаноў суду ў парадку нагляду не натолькі гібкі, як інстытут абскарджваньня пастаноў у прыватным парадку, між тым нарсуды растлумачваючы свае рашэньні ў парадку арт. 155 ГПК, нярэдка выпраўляюць і нават зьмяняюць гэтакія, а значыцца маючым дачыненьне да справы асобам, павінна быць дана мажлівасьць абскардзіць гэтае растлумачэньне рашэньня ў прыватным парадку, то сама сабою напрошваецца думка аб неабходнасьці і своечасовасьці зьяўленьня законадаўчай навелы, якая-б дала права падаць удзельнічаючым у справе асобам прыватную скаргу на няправільнае растлумачэньне судом свайго рашэньня.

Тут лічу неабходным адзначыць, што інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства зямельным камісіям аб парадку вядзеньня ўсіх зямельных спраў, за 11 сьнежня 1925 г. ў сваім арт. 155 дае старанам права абскарджваць пастанову зямельнай камісіі аб растлумачэньні свайго рашэньня ў агульным парадку, г. зн. на працягу двохтыднёвага тэрміну.

*Д. Гарцман.*

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ артык. 103 КРЫМІНАЛЬНАГА КОДЭКСУ.

У сыстэме нашага Крымінальнага Кодэксу артыкул 103, які прадугледжвае самаўпраўства, зьмешчан у другім падзеле II разьдзелу „Дзяржаўныя злачынствы“ і аднесен да злачынстваў супроць парадку кіраваньня, але на мой погляд належала-б аднесьці самаўпраўства да злачынстваў, па якіх справы пачынаюцца толькі па скаргах пацярпеўшых і могуць спыняцца замірэньнем старон, а арт. 103 К. К. можна было-б з поўным посьпехам уключыць у лік артыкулаў, паказаных у арт. 10 Грамадзянскага Працэсуяльнага Кодэксу.

Колькасьць спраў у народным судзе па арт. 103 К. К. займае ў процантавых суадносінах далёка не апошняе месца; вельмі часта гэтыя справы падымаюцца па мізэрных прычынах, але спыняць іх на распарадчым пасяджэньні немэтазгодна і часта немагчыма з прычыны таго, што з іх выцякаюць грамадзянскія іскі, або грамадзянскі іск падаецца пры самым парушэньні крымінальнага прасьледваньня.

Звычайна, калі грамадзянін, прыцягнуты да адказнасьці за самаўпраўства, узнае аб гэтым і пачынае баяцца вынікаў судовай справы, ён стараецца ўвайсьці ў перагаворы з пацярпеўшым і ўладзіць узьнікшы паміж іх канфлікт; у большасьці выпадкаў яны заміраюцца, ня ведаючы, што арт. 103 К. К. не дапушчае замірэньня. Справа ў тым, што амаль не заўсёды грамадзяне, а таксама грамадзкія і дзяржаўныя ўстановы, атрымаўшы да суду грамадзянскае здавальненьне па справах, паднятых па арт. 103 К. К., ня маюць ахвоты цягацца далей з прычыны таго, што яны зусім не зацікаўлены ў пакараньні прыцягнутага. Тыя асобы, якія ведаюць закон, заяўляюць аб спыненьні справы паводле арт. 4-га Крым.-Працэс. Кодэксу, па адсутнасьці грамадзянскай зацікаўленасьці, а асобы, якія закону ня ведаюць, не зьяўляюцца па позве на суд, лічачы, што калі яны ня зьявяцца, то справа бяз іх будзе спынена.

Такім чынам судзьдзі часта прыходзіцца адкладаць справы, што выклікае збытачную валакіту; неабходна лішні раз рабіць адзнакі па настольнаму рэестру, друкаваць сьпісы, назначаць разгляд справы, пісаць і рассылаць павесткі; пры гэтым многія адрасаты не знаходзяцца па ранейшых адрасох—або пакінулі кватэру з прычыны замірэньня, або зусім выехалі з гораду. Усё гэта трэба паўтараць у трэці і чацьверты раз, пакуль суд ня спыніць справу па арт. 4 К. П. К., як страціўшую грамадзкае значэньне. На такую непрадукцыйную работу траціцца шмат працы і часу, у які судзьдзя мог-бы зрабіць па вучастку вельмі многа карыснага і аддаць свае сілы грамадзкай працы, у якой адчуваецца вялікая патрэба.

Дзяржава наогул ня мае інтарэсу ў справах, пачынаемых па арт. 103 К. К., і адносіць самаўпраўства да злачынстваў супроць парадку кіраваньня няма здавальняючых падстаў.

Народны Судзьдзя 1-га вучастку
Віцебскай акругі *В. Сарак.*

# Растлумачэньні.

## Каким законом следует руководствоваться при разрешении вопросов из области брачного, семейного и опекунского права, возникших после 1-го января 1927 года на территории Гомельского и Речицкого округов

На этих днях в Отдел Законодательных Предположений Н. К. Ю. поступил первый запрос из вновь присоединяемых к БССР территорий.

Окружным Судом запрашивается *на основании каких законов должны обсуждаться правоотношения в области брачного, семейного и опекунского права, возникшие после 1-го января 1927 года.*

В своем ответе Отдел Законодательных Предположений сообщает следующее:

Поставленный вопрос должен быть разрешен на основании норм, изложенных в постановлении ЦИК и СНК БССР от 30-го декабря 1926 г. о силе законов РСФСР и БССР для территории бывших Гомельского и Речицкого уездов, присоединенных к БССР из состава Гомельской губернии РСФСР. (С. З. БССР 1927 г. № 1, ст. 1).

Пункт первый указанного постановления дает общую норму о том, что после 1-го января 1927 года на территории Гомельского и Речицкого округов продолжают свое дествие только те из законодательных актов РСФСР, которые вступили в силу до 1-го января текущего года.

В ноябре 1926 года ВЦИК'ом РСФСР был принят кодекс законов о браке, семье и опеке, но в действие этот кодекс вступает только с 1-го января 1927 года. Поэтому и в силу пункта 1-го вышеуказанного постановления о силе законов новый брачный кодекс РСФСР *не может быть распространен на территории Гомельского и Речицкого округов.* На территории этих округов до 1-го марта этого года, т. е. до момента вступления в силу кодекса законов о браке, семье и опеке, принятого IV сессией ЦИК БССР, сохраняют свою силу соответствующие старые законы, т. е. *„кодекс законов об актах гражданского состояния, брачном, семейном и опекунском праве“*, издания 1918 года с изменениями 1920 и 1921 г. г.

На основании этих законов 1918, 1920 и 1921 г. г. и должны обсуждаться все взаимоотношения в области брачного, семейного и опекунского права, возникшие на территории Гомельского и Речицкого округов до 1-го марта 1927 года *).

*) Общее указание по вопросу о том, какими законами РСФСР или БССР следует руководствоваться в присоединенных округах, дает статья т. Гавзе „об унификации законодательства БССР и РСФСР для присоединяемой к БССР территории, помещенная в 1 м номере часопісі“—РЭДАКЦЫЯ.

## О применении ст. 38 основных начал Уголовного Законодательства в новой редакции и Уголовного Кодекса РСФСР изд. 1926 г. на территории Гомельского и Речицкого округов.

На запрос Гомельского Окружного Исполнительного Комитета Отделом Законодательных Предположений Н. К. Ю. БССР раз'яснено:

1) На основании примечания к ст. 38 основных начал уголовного законодательства в редакции постановления ЦИК и СНК СССР от 10 декабря 1926 г. указанный в этой статье срок, по отбытии которого допускается условно-досрочное освобождение—одна треть назначенной приговором меры социальной защиты,—является лишь минимальным и в порядке законодательства союзных республик может быть повышен. Поэтому, коль скоро в той или иной союзной республике установлен для условно-досрочного освобождения более высокий срок, чем указанный в новой редакции ст. 38 основных начал, он должен сохранять свою силу и впредь, пока законодательным актом союзной республики не будет изменен.

По действовавшим в бывшей Гомельской губернии к 1 января 1927 года законам РСФСР, подлежащим применению на территории Гомельского и Речицкого округов и ныне (Собр. Зак. БССР 1927 г. № 1, ст. 1), условно-досрочное освобождение может иметь место по отбытии не менее половины назначенного приговором срока лишения свободы или принудительных работ. Это правило, согласно вышеуказанному и должно применяться в настоящее время.

Согласно постановлению ЦИК и СНК БССР от 30 декабря 1926 г. (Собр. Зак. БССР 27 г. № 1, ст. 1) для территории Гомельского и Речицкого округов имеют силу только те законы РСФСР, которые уже действовали на ней к 1 января 1927 года. Уголовный Кодекс РСФСР издания 1926 г. введен в действие лишь с 1 января 1927 г., а потому этот Кодекс и вводной к нему закон не имеют силы для указанных округов.

## Нарміраваньне забудоўкі.

Як можна бачыць з адносіны Аршанскага Выканаўчага Камітэту, Багушэўскі раённы выканаўчы камітэт выдаў у 1924—25 г. г. некаторым прыватным асобам дазвол на пабудоўлю гандлёвых памяшканьняў на Рыначнай плошчы; на падставе гэтых дазволаў гандлёвыя памяшканьні былі пабудаваны, але раённы выканаўчы камітэт ніякіх умоў з забудоўшчыкамі не зрабіў і забудоўшчыкі карыстаюцца пляцамі пад памяшканьнямі бяз усякай платы.

Па гэтаму поваду Аддзел Законадаўчых Проэктаў даў наступнае растлумачэньне:

Пасьля выданьня закону аб праве забудоўкі, які ўвайшоў у склад Грамадзянскага Кодэксу (арт. арт. 71—84), усе ўзаемаадносіны па забудоўцы рэгулююцца нормамі, якія выкладзены ў Г. К.

Згодна гэтым правілам адзіным спосабам устанаўленьня права забудоўкі зьяўляецца заключэньне дагавору, таму вышэйпаказаныя дазволы Багушэўскага выканаўчага камітэту, як выдадзеныя без захаваньня правілаў, выкладзеных у 71—84 арт. Грамадзянскага Кодэксу, трэба прызнаць ня маючымі сілы.

Значыцца, забудоўшчыкі гандлёвых памяшканьняў, каторыя былі пабудаваны на падставе гэтых дазволаў, павінны зрабіць дагаворы на асновах 71—84 арт. арт. Г. К.

Калі-ж яны адмовяцца заключыць паасобныя дагаворы, органы, каторыя распараджаюцца зямлёю, маюць права заявіць у судзе іск аб зносе забудаваных памяшканьняў.

# Некаторыя дырэктыўныя паказаньні Аддзелу Судабудаўніцтва і нагляду НКЮ БССР, дадзеныя судовым органам у таварыскіх лістох.

## АБ ПАРАДКУ ПРЫЁМУ НАРСУДАМІ ЗАЯЎ АД ГРАМАДЗЯН.

Заўважана, што шмат у якіх участках нарсуду сэкратар ведае прыёмам заяў.

Паводле 92 і 94 арт. арт. КПК і арт. 77 ГПК прыём заяў ад грамадзян, як правіла, павінен рабіцца непасрэдна народным судзьдзёю, а не сэкратаром нарсуду. Пры чым сэкратару суду, паводле арт. 77 ГПК, па закону даецца толькі права занясеньня, па даручэньню народнага судзьдзі, славесных заяўленьняў у пратакол, каторы прачытваецца заяўніку і падпісваецца народным судзьдзёй і сэкратаром.

Практыка прадастаўленьня прыёму заяў сэкратару нарсуду адасабляе нарсудзьдзю ад непасрэдных зносін з працоўнымі і можа стварыць у вядомых выпадках надмерную валакіту па справе як, напрыкл., у выпадках няправільных ці няпоўных паказаньняў, якія даны сэкратаром заяўніку, што, у канчатковым выніку, можа няпрыемна адбіцца на аўтарытэце народнага суду.

Дзеля гэтага Аддзел Судабудаўніцтва і нагляду растлумачвае, што прыём заяў ад грамадзян, прынамсі, у межах прыняцьця іскавых заяў і скаргаў (арт. арт. 92 і 94 КПК і 77 ГПК), як правіла, павінен рабіцца непасрэдна народным судзьдзёю і, што адступленьне ад гэтага правіла можа дапускацца толькі ў выключных выпадках, як, напрыклад, у выпадку адсутнічаньня нарсудзьдзі і г. д., аднак, і ў гэтых выпадках прыём заяў сэкратаром павінен насіць фактычны, а не юрыдычны характар, г., зн. рабіцца не канчаткова, а толькі для дакладу народнаму судзьдзі і перадачы яму заяў на разгледжаньне.

## АБ АБ'ЕМЕ ПРАЎ АКРСУДУ ДАВАЦЬ РАСТЛУМАЧЭНЬНІ ПА ЗАПЫТАНЬНЯХ НАРСУДЗЬДЗЯЎ.

З дадзеных аднаго з Акрсудоў прыватных растлумачэньняў угледжваецца, што Акруговым Судом даюцца паказаньні па справах, якія знаходзяцца ў справавядзеньні нарсуду і якія яшчэ ня выраšаны апошнім.

Дзеля гэтага Аддзел Судабудаўніцтва і нагляду дае наступнае растлумачэньне: Акруговаму Суду трэба мець на ўвазе, што прыватныя растлумачэньні народным судом па іх запытаньнях могуць давацца ў мэтах інструктаваньня нарсудзьдзяў толькі ў тым выпадку, калі запытаньнем нарсудзьдзі не праcьледуецца мэта выраšэньня знаходзячайся ў яго справавядзеньні якой-небудзь справы і атрыманьня гатовага адказу на пытаньне, якое выцякае з гэтае справы, бо такім парадкам можна, у некаторай меры, ня толькі прадвырашыць рашэньне нарсуду па данай справе, але і зацягнуць вырашэньне самай справы, што супярэчыла-б патрабаваньням арт. 2 КПК, паводле якога суду забараняецца прыпыняць рашэньне па прычыне адсутнічаньня непаўнаты, няяснасьці ці супярэчаньня закону, і арт. 4 КПК, які ставіць у абавязак суду за недахопам узаконеньняў і распараджэньняў дзеля рашэньня якой-небудзь справы вырашаць яе, кіруючыся агульнымі асновамі Савецкага законадаўства і агульнай палітыкай Рабоча-Сялянскага Ўраду.

Апроч таго, трэба мець на ўвазе, што згодна растлумачэньня Найвышэйшага Суду БССР за 7 красавіка 1926 г. за № 125 ц. 24 на імя Менскага Акруговага Суду, Акруговыя Суды могуць даваць растлумачэньні падведамственым

ім нарсудом толькі па тых пытаньнях бягучай працы, якія вырашаны дзеючым законадаўствам, але, або няправільна разумеюцца, або невядомы нарсудзьдзям па якім-небудзь прычынам.

Што-ж тычыцца запытаньняў, якія зьвязаны з тлумачэньнем закону, то гэтакія павінны падавацца Акруговымі Судамі на вырашэньне Пленуму Найвышэйшага Суду.

## Практыка Асобае Калегії Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

5. Віцебская акруговая зямельная камісія прасіла растлумачыць, ці могуць данадзяляцца зямлёй грамадзяне, якія атрымалі ў парадку савецкага земляўпарадкаваньня зямлю, але менш мінімальнае нормы.

Разглядзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым паседжаньні 15 сьнежня 1926 г., Асобая Калегія журналам сваім № 21 растлумачыла:

„Гаспадаркі, якія пры земляўпарадкаваньні не атрымалі мінімальнае нормы, карыстаюцца ў якасьці малазямельных правам на данадзяленьне іх з запаснага фонду ў парадку ўстаноўленай артыкулам 10 Зям. Код. чаргі. Таксама такім-жа правам карыстаюцца і гаспадаркі, якія атрымалі мінімальную норму на 4 працоўных адзінкі, калі па мясцовых умовах прадстаўляецца магчымасьць далейшага іх данадзяленьня з падлічваньнем усіх адзінак гаспадаркі, дзеля таго, што гаспадаркі, якія былі арганізованы ў парадку земляўпарадкаваньня пры Савецкай уладзе, не падлягаюць толькі абрэзцы, а не данадзяленьню па сэнсу пунктаў 1 і 5 пастановы Савету Народных Камісараў за 6 чэрвеня 1925 г. аб парадку ўжываньня норм працоўнага землякарыстаньня.“

6. Магілёўская акруговая зямельная камісія прасіла растлумачыць наступнае пытаньне:

„Удава выйшла замуж у другую вёску, а карыстаецца зямлёй у вёсцы свайго першага мужа. Ці мае яна права на гэтую зямлю, калі другіх членаў двара ад першага мужа не пазасталося, а ў вёсцы робіцца земляўпарадкаваньне.“

Разглядзеўшы гэтае пытакьне ў распарадчым паседжаньні 30 ліпеня 1926 г., Асобая Калегія журналам № 12 у разьвіцьце арт. 17 Зям. Код. растлумачыла:

„Права працоўнага землякарыстаньня ня мае тэрміну. Спынена яно можа быць толькі на падставах, якія вызначаны ў законе. Ні выхад замуж, ні земляўпарадкаваньне, ні выезд з вёскі не зьяўляюцца падставамі для пазбаўленьня права карыстацца зямлёю, калі член двара пяройдзе ў новы двор, дык ён траціць права на маёмасьць, у тым ліку і на зямлю папярэдняга двара ў карысьць пазастаўшыхся ў ім членаў; а ў тым выпадку, калі ўсе члены аднаго двара пераходзяць у другі, яны могуць прадаўжаць карыстацца маёмасьцю і зямлёй абодвых двароў. Да такіх аб'яднаўшыхся двароў дапасоўваюцца на агульных падставах правілы аб нормах. З параўнаньня арт. 11 і 41—43 Зям. Код. відаць, што нельга быць членам двух зямельных грамад па карыстаньню палявымі ўжыткамі, але гэта ня значыць, што нельга карыстацца полем на абшары некалькіх зямельных грамад, уваходзячы ў склад членаў аднае з іх. Дзеля гэтага правядзеньне ў вобчастве земляўпарадкаваньня не дае права на пазбаўленьне зямлі, якою раней земляўпарадкаваньня карысталася грамадзянка іншага зямельнага вобчаства, калі разам усё землякарыстаньне яе двара не перавышае максімальнае нормы.“

7. Калінінская акруговая Зямельная камісія прасіла растлумачыць, што азначае ў 20 арт. Зям. Код. выраз „у асобым парадку“ і ці можна лічыць перасяліўшымся двор, калі некаторыя з яго членаў пазастануцца на месцы.

Асобая Калегія, разглядзеўшы гэтыя пытаньні растлумачыла: „У арт. 20 Зям. Код. выраз „у асобым парадку“ адзначае парадак адводу зямлі, які прадугледжаны правіламі аб перасяленьні. У тых выпадках, калі перасяляецца частка сялянскага двара, зямля як і раней знаходзіцца ў бестэрміновым карыстаньні тых членаў двара, якія пазастаюцца на месцы“.

8. У практыцы Асобая Калегіі ўзьнікла наступнае пытаньне:

„У якім парадку можа быць адабрана лясьніцтвам з працоўнага карыстаньня зямля сельска-гаспадарчага прызначэньня, калі яна разьмешчана ў граніцах лясной дачы і неабходна лясьніцтву дзеля правільнага вядзеньня ў дачы лясной гаспадаркі“.

Разглядзеўшы гэтае пытаньне, Асобая Калегія растлумачыла:

„Адабраньне зямлі працоўнага карыстаньня для дзяржаўных патрэб, у тым ліку і дзеля вядзеньня лясной гаспадаркі, робіцца на падставе арт. 21 Зям. Код. ў парадку земляўпарадкаваньня з захаваньнем арт. 2 таго-ж кодексу.

9. Каралінская раённая зямельная камісія прасіла растлумачыць наступнае пытаньне:

„Ці маюць паасобныя гаспадаркі права на продаж будынкаў на месцы з перадачай у карыстаньне пакупніка і сядзібнага вучастку, на якім знаходзіцца прадаваемы будынак“.

Асобая Калегія, разглядзеўшы гэтае пытаньне, растлумачыла:

„Працоўны землякарыстальнік мае права бяз усякай рэгістрацыі дагавору прадаваць належныя да яго на падставе 24 арт. Зям. Код. быдынкі толькі на знос. Продаж уласьнікам будынкаў, якія непасрэдна зьвязаны з сельскай гаспадаркай і разьмешчаны на зямлі працоўнага карыстаньня, не на знос, а дзеля скарыстаньня на месцы, дапушчаецца толькі асобам, якім зямельнымі органамі адведзены будуць сядзібныя вучасткі, на якіх гэтыя будынкі знаходзяцца, прычым дагаворы аб продажы будынкаў падлягаюць рэгістрацыі Раённага Выканаўчага Камітэту. Продаж будынкаў з застаўленьнем іх на месцы асобам, якія не атрымалі ў належным парадку права карыстацца сядзібай пад будынкамі, дае вынікі, якія прадугледжаны арт. 26 Зям. Код. (абежнік НКЮ і НКЗ за 19 кастрычніка 1925 г. № 53).

# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА, АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС АД 1/Х—1926 г. да 1/1 1927 Г.

*А. Пастановы Ураду СССР.*

1. Савецкае будаўніцтва.

1) Пастановай ЦВК СССР 28/IX—1926 г. (З. З. № 66, арт. арт. 500—501) зацьверджана новая інструкцыя аб выбарах у Саветы. Гэтая інструкцыя адрозьніваецца ад ранейшай пашыраным складам выбарчых камісій, узмацненьнем уцягненьня ў саветы шырокіх працоўных мас і пашырэньнем кругу асоб, пазбаўленых выбарчых праў, з мэтай аховы Саветаў ад праніканьня ў іх эксплёататарскіх элемэнтаў.

2. Землякарыстаньне.

2) Пастановаю ЦВК і СНК СССР за 10 верасьня 1926 году (З. З. № 61, арт. 455) устаноўлены ільготы сялянам па земляўпарадкаваньню і перасяленьню. Гаспадаркі працоўных землякарыстальнікаў і іх аб'яднаньняў, якія перасяляюцца і расьсяляюцца ў парадку правіл аб земляўпарадкаваньні і перасяленьні на новыя месцы, звальняюцца ад выплаты сельска-гаспадарчага падатку ў працягу 5-ці гадоў, калі ўпарадкаваньне гаспадаркі вымагае мэліорацыйных работ. Гэтыя гаспадаркі карыстаюцца такой-жа ільготай у працягу 3-х гадоў, калі ўпарадкаваньне на новых мясцох вымагае распрацоўкі дзірваноў, або ўводзяцца палепшаныя формы землякарыстаньня. Калі пры перасяленьні і расьсяленьні патрабуецца толькі пабудаваньне будынкаў, ільгота даецца на працягу аднаго году. Для перавозкі працоўных землякарыстальнікаў, якія перасяляюцца і расьсяляюцца на новыя месцы членаў іх сем'яў і іх маемасьці устанаўляецца ільготны тарыф.

Выдаткі па земляўпарадкаваньню бяднейшых сялян прымаюцца на кошт дзяржаўнага скарбу. Для выкананьня земляўпарадчых работ прызнана неабходным устанавіць доўгатэрміновы крэдыт.

3. Праца.

3) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 1-Х—1926 г. (З. З. № 68, арт. 520) устаноўлен парадак пасылкі на работу і зьняцьця з работы працаўнікоў, якія зьяўляюцца адказнымі за маёмасьць, якая страхуецца ў парадку гарантыйнага страхаваньня. У сувязі з асобнымі умовамі службы гэтых работнікаў устаноўлен парадак найму іх праз біржу працы, або праз атэстацыйна-канфліктныя камісіі, якія ствараюцца пры мясцовых органах народных камісарыятаў працы.

4) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 15 кастрычніка 1926 году (З. З. № 71, арт. 543) зацьверджаны асноўныя палажэньні аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай коопэрацыі і працоўных арцелях. Гэтыя палажэньні устанаўляюць для вучняў шэраг ільгот у параўнаньні з нормамі Кодэксу Законаў аб працы. У дагаворы паміж прымаючым і вучнем, які абавязкова павінен быць пісаным, прадугледжваюцца прадмет і тэрмін навучаньня, абавязкі прымаючага і вучня, працоўны дзень вучня і яго ўзнагарода і працяжнасьць водпуску. Дагавор можа быць раскіданы да зыходу тэрміну толькі ў выпадку страты вучнем праца-

здольнасьці на тэрмін больш 2-х месяцаў, у выпадку няздольнасьці вучня да навучаньня, значнага скарачэньня вытворчасьці прадпрыемства, рэзкага пагоршаньня матар'яльнага становішча ўласьніка прадпрыемства і ў выпадку ўчыненьня вучнем учынкаў, якія згодна дагавору зьяўляюцца падставаю для разрыву яго. У працягу першага году вучань атрымоўвае заработную плату у натуральнай, грашовай або мяшанай форме, а пачынаючы з другога году заработная плата ня можа быць ніжэй вызначанага для данай мясцовасьці дзяржаўнага мінімуму, пры чым ня менш 25 проц. павінна выдавацца грашыма. Працяжнасьць працоўнага часу ўстаноўлена ў 8 гадзін, а для асоб да 16-ці гадоў у сельскіх і да 18-ці гадоў у гарадзкіх мясцовасьцях—у 6 гадзін. Мінімальны ўзрост вучня—14 гадоў, а ў сельскіх мясцовасьцях—12 гадоў. Штогод даецца водпуск ня менш аднаго месяца. Сацыяльнае страхаваньне вучняў абавязкова ў гарадзкіх мясцовасьцях і толькі для вучняў, якія атрымоўваюць апроч харчоў і памяшканьня іншую ўзнагароду. Лік вучняў ня можа перавышаць двух на аднаго навучаючага, а ў арцельных майстэрнях ня можа перавышаць ліку працуючых членаў арцелі. Спрэчкі паміж навучаючымі і вучнямі вырашаюцца ў судовым парадку, або ў асобных прымірыцельных камісіях. З гэтымі асноўнымі палажэньнямі павінна быць узгоджана законадаўства саюзных рэпублік.

## 4. Крымінальнае права.

5) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 10 сьнежня 1926 году зьменена рэдакцыя арт. 38 асноў крымінальнага законадаўства СССР і саюзных рэспублік. („Изв. ЦИК СССР" № 303 за 31/XII—1926 г.). Гэтая пастанова ўстанаўляе мінімальны тэрмін, па адбыцьці якога да асоб, прысуджаных да тэрміновых мер сацыяльнай абароны, можа ўжывацца ўмоўна-датэрміновае звальненьне. Гэты тэрмін, замест паловы агульнага тэрміну вызначанай судом меры сацыяльнай абароны, які існаваў раней, цяпер вызначан у адну трэцюю частку агульнага тэрміну, але ён можа павялічвацца законадаўствам саюзных рэспублік. Парадак ужываньня умоўна-датэрміновага звальненьня ўстанаўляецца: законадаўствам СССР адносна асоб, асуджаных судовымі ўстановамі СССР, і законадаўствам саюзных рэспублік адносна асоб, асуджаных судовымі ўстановамі гэтых рэспублік. Згодна ранейшай рэдакцыі арт. 38, умоўна-датэрміновае звальненьне ўжывалася толькі судом.

## 5. Фінансы.

6) Пастанова СНК СССР за 16 лістапада 1926 году аб рэарганізацыі фінансавага кантролю (З. З. № 76, арт. 608) устанаўляе асновы гэтай рэарганізацыі. Наступны дакумэнтальны кантроль выкананьня дзяржаўнага бюджэту, як асноўная форма рэвізійнай работы, скасоўваецца. У якасьці асноўнай сыстэмы ўводзіцца плянавая і пазаплянавая фактычная рэвізія фінансавых і гаспадарчых апэрацый па выкананьню бюджэту. Установы, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, абавязаны абслугоўваць свае фінансавыя і гаспадарчыя апэрацыі ўстаноўленымі дакумэнтамі і захоўваць іх у асобным парадку. На выкладзеных у гэтай пастанове асновах павінны быць рэарганізаваны агульна саюзныя рэспубліканскія мясцовыя органы фінансавага кантролю.

7) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 1 кастрычніка 1926 г. зацьверджана палажэньне аб знадворным падаткавым наглядзе (З. З. № 67, арт. арт. 504—505). Замест фінансавай інспэкцыі і агэнтуры ўводзіцца інспэкцыя па простых падатках і інспэкцыя па пасрэдных падатках. НКФ СССР зьдзяйсьняе агульнае кіраваньне і кантроль над чыннасьцю знадворнага падатковага нагляду цераз народныя камісарыяты фінансаў саюзных

бюджэце, абавязаны абслугоўваць рэспублікі. Назначэньне, перамяшчэньне і звальненьне падатковых інспэктароў і іх памоцнікаў робіцца загадчыкамі фінансавых аддзелаў ня ніжэй акруговых з наступным зацьвярджэньнем Народнага Камісара Фінансаў саюзнай рэспублікі. Падаткавыя інспэктары даюць справаздачы адпаведным выканаўчым камітэтам. У палажэньні пералічаны правы і абавязкі інспэктароў, іх памоцнікаў і агэнтаў.

8) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 15 кастр. 1926 г. зацьверджана палажэньне аб прыбытковым падатку з дзяржаўных прадпрыемстваў, коопэрацыйных арганізацый і акцыянэрных таварыстваў (паявых таварыстваў) з удзелам дзяржаўнага і коопэрацыйнага капіталу (З. З. № 68, арт. арт. 523—524). Гэтае палажэньне ўводзіцца на адмену законаў 20/VI і 9/X—1923 году і дапаўняе палажэньне аб прыбытковым падатку за 24 верасьня 1926 году. Вышэй памянёныя юрыдычныя асобы, апроч тых, чысты прыбытак якіх не перавышае 1500 рублёў на год абкладаюцца паводле чыстага прыбытку, атрыманага імі ад усіх прыбытковых крыніц за апэрацыйны год, папярэдні абкладному; падатак вызначаецца велічынёю ў 8 проц. ад сумы чыстага прыбытку.

У палажэньні падрабязна выкладзен парадак вызначэньня падатковага прыбытку і пералічаны сумы, якія недалічаюцца да валавога прыбытку, і выдаткі, якія павінны вылічвацца з валавога прыбытку. Вылічэньне падпадаючага пад абкладаньне падаткам чыстага прыбытку і сумы належачага акладу падатку робіцца кіраўніцтвам абкладаемае юрыдычнае асобы; апошняя не пазьней трох месяцаў ад дню сканчэньня апэрацыйнага году павінна падаць у падатковую камісію баланс і і справаздачу, а пасьля канчатковага зацьвярджэньня балянсу павінна ў двух-тыднёвы тэрмін падаць канчаткова зацьверджаны балянс і справаздачу. За непадачу, або несваечасовую падачу справаздачаў і балянсаў юрыдычныя асобы падпадаюць пад штраф да 300 рублёў.

## *Б. Пастановы Ураду БССР.*

### 1. Савецкае будаўніцтва.

1) У зьвязку з пастановай Прэзыдыуму Усерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту за 6/XII—1926 г. аб расфарміраваньні Гомельскай губэрні і аб перадачы Рэчыцкага і Гомельскага паветаў, як тэрыторыі з пераважна беларускім насельніцтвам, у склад БССР, Урадам БССР выдан шэраг пастаноў: 1) пастанова ЦВК за 8/XII—1926 году аб далучэньні да БССР Речыцкага і Гомельскага паветаў са складу быўшай Гомельскай губэрні (З. З. 1926 г., № 50, арт. 186); 2) пастанова ЦВК і СНК за 8/XII—1926 г. аб далучэньні да БССР Рэчыцкага і Гомельскага паветаў са складу быўшай Гомельскай губэрні (З. З. 1926 г. № 60, арт. 187); 3) пастанова ЦВК і СНК за 27/XII аб кіраўніцтве Гомельскай акругай („Савецкая Беларусь“ № 296—29/XII—1926 г.); 4) пастанова ЦВК і СНК за 30/XII—1926 г. аб сіле законаў РСФСР і БССР для тэрыторыі быўшых Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, далучаных да БССР са складу Гомельскай губэрні РСФСР („Савецкая Беларусь“ № 5 за 7/I—1927 г.); 5) пастанова ЦВК і СНК за 3/I—1927 г. аб увядзеньні ў дзеяньне на тэрыторыі Гомельскай і Рэчыцкай акруг палажэньня аб судабудаўніцтве БССР („Сав. Беларусь“ № 5—7/I—27 г.).

Для ўстанаўленьня межаў паміж БССР і РСФСР, а таксама для вырашэньня ўсіх пытаньняў, зьвязаных з далучэньнем да БССР новай тэрыторыі выбрана парытэтная камісія з прадстаўнікоў РСФСР

і БССР пры старшыні, назначаным Прэзыдыумам ЦВК СССР; пастановы парытэтнай камісіі зацьвярджаюцца Прэзыдыумамі Цэнтральных Выкан. Камітэтаў БССР і РСФСР; праца камісіі павінна быць скончана ў месячны тэрмін. Усе законы РСФСР, існуючыя на тэрыторыі далучаных паветаў да 1-га студзеня 1927 году, маюць сілу надалей. Законы, якія выданы Урадам БССР пасьля 31-га сьнежня 1926 году, набываюць сілу на гэтай тэрыторыі на агульных падставах, а выданыя раней 31/XII—1926 г., хоць бы ўвайшоўшыя ў сілу пасьля 31/XII—1926 г., набываюць сілу на тэрыторыі далучаных паветаў на падставе спэцыяльнае ў кожным паасобным выпадку пастановы законадаўчых органаў БССР. Гомельскі і Рэчыцкі паветы ператвораны ў акругі з наданьнем існуючым павятовым выканаўчым камітэтам правоў акрвыканкомаў; таксама ўсе валасныя выканаўчыя камітэты ператвораны ў райвыканкомы. Гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы працуюць далей бяз ніякіх зьмен.

2) Пастановай ЦВК за 18/XII—1926 году аб устанаўленьні норм прадстаўніцтва пры выбарах у гарадзкія саветы ў 1927 годзе („Сав. Беларусь“ № 290—21/XII—26 г.) устаноўлены гэтыя нормы ў залежнасьці ад колькасьці насельніцтва ў тым ці іншым горадзе. Гэтая пастанова выклікана арт. 7 палажэньня аб гарадзкіх саветах, паводле якога нормы прадстаўніцтва ўстанаўляюцца ЦВК для кожнага гораду паасобна. Згодна новага закону для гарадоў з насельніцтвам ад 3000 да 5000 чалавек выбіраецца адзін дэпутат на 30 выбаршчыкаў, далей з павялічэньнем колькасьці насельніцтва норма прадстаўніцтва зьніжаецца, і ў гарадох з насельніцтвам звыш 50000 чалавек выбіраецца адзін дэпутат на 150 выбаршчыкаў.

## 2. Землякарыстаньне.

3) Пастановай ЦВК і СНК за 4/IX—26 году аб дапаўненьні арт. 60 Зямельнага Кодэксу (З. З. 1926 год, № 40, арт. 150) зямельным вобчаствам дана права здаваць пад забудоўку зямельныя вучасткі агульнага карыстаньня, якія знаходзяцца ў яго веданьні. Пастанова выдана з мэтаю заахвочваньня забудоўкі:

4) Пастановай СНК за 11/X—1926 году зацьверджана палажэньне аб дзяржаўна-грамадзкім насенным натуральным фондзе БССР (З. З. 1926 г., № 45, арт. 168). Мэтаю ўтварэньня гэтага фонду зьяўляецца забесьпячэньне пасеўным матар'ялам незаможнага сялянства, насенная дапамога новым гаспадаркам, расьсяленцам і пацярпеўшым ад неўраджаю і іншых стыхійных нешчасьцяў, а таксама палепшаньне сялянскага пасеўнага матар'ялу. Насенны фонд утвараецца з спэцыяльнага асыгнаваньня Ураду і з сродкаў і насенных запасаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і грамадзка-насенных пасеваў. За насенныя пазыкі спаганяецца 12 проц. гадавых; пазычка павінна быць аддадзена кожным плацельшчыкам пазычкі не пазьней 15-га сьнежня, за кожны прапушчаны месяц налічаецца пеня ў разьмеры 1 проц.

Захаваньне насенных запасаў ускладаецца на камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, агульнае кіраваньне справаю—на Цэнтральны Камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, а вышэйшы кантроль—на Народны Камісарыят Земляробства і на яго мясцовыя органы.

## 3. Грамадзянскі працэс.

5) Пастанова ЦВК і СНК за 18/IX—1926 году аб дапаўненьні Грамадзянскага Працэсуяльнага Кодэксу разьдзелам 27-а (З.З. 1926 год № 39, арт. 143) выдана з мэтаю ўзгадненьня з артыкулам 37 палажэньня аб дзяржаўных пра-

цоўных ашчадных касах, які прадугледжвае асобны парадак па аднаўленьні праў па згубленых дакумэнтах на адказчыка. Новы закон устанаўляе парадак пазыўного справавядзеньня, згодна якога асоба, згубіўшая дакумэнт на паказчыка, можа прасіць народны суд аб прызнаньні дакумэнту на паказчыка страціўшым сілу. Народны судзьдзя, прызнаўшы на падставе пададзеных довадаў факт згубы дакумэнтаў, выносіць пастанову аб позьве ў суд праз публікацыю трымаўцы дакумэнту і аб забароне абавязаным па дакумэнтах асобам рабіць выплаты па гэтаму дакумэнту. Калі па зыходу трох месяцаў ня будзе пададзена ў суд заява, трымаўцы згубленага дакумэнту, народны судзьдзя выносіць пастанову аб прызнаньні ўсіх правоў па згубленаму дакумэнту страчанымі і аб тым, што асоба, выдаўшая згублены дакумэнт, павінна выдаць зьяўніку новы дакумэнт замест згубленага.

6) Пастанова ЦВК і СНК за 18/IX—1526 г. аб дапаўненьні Грамадзянскага Працэсуяльнага Кодэксу артыкулам 203 а—в (З. З. 1926 г. № 40, арт. 144) папаўняе прабел у законе ў адносінах да парадку абскарджаньня і выкананьня рашэньняў арбітражных камісій пры таварных і фондавых біржах. Рашэньні біржавых арбітражных камісій могуць быць абскарджаны ў касацыйным парадку ў Найвышэйшы Суд па справах, прадугледжаных артыкуламі 23 і 24 ГПК, і ў Акруговы Суд па іншых справах; калі рашэньне будзе скасавана, то справа перадаецтся на новы разгляд у біржавую абітражную камісію ў новым складзе. Рашэньні АК выконваюцца ў прымусовым парадку паводле правіл, устаноўленых для рашэньняў пасрэдніцкіх судоў; калі скарга на рашэньне АК будзе пакінута бяз вынікаў, то выканальны ліст выдаецца народным судом, які ў такіх выпадках ня можа правяраць рашэньні ў парадку арт. 202 ГПК і адмаўляецца ад выдачы выканальнага ліста.

7) Пастанова ЦВК і СНК за 18/IX—1926 г. аб зьмене арт. 254 Грамадзянскага Працэсуяльнага Кодэксу і аб дапаўненьні апошняга артыкуламі 254-а і 254-б (З. З. 1926 г., № 40, арт. 145) дае права Пракурору Рэспублікі і яго памоцніку пры Найвышэйшым Судзе вытрабоўваць з кожнага суду Рэспублікі для перагляду ў парадку нагляду кожную справу, рашэньне па якой увайшло ў законную сілу, і права прыпыняць выкананьне рашэньня па гэтай справе да канца перагляду. Акруговыя Пракуроры маюць права вытрабаваць кожную справу для разгляду ў парадку нагляду з Акруговага Суду і з народных судоў свае акругі; калі трэба прыпыніць выкананьне рашэньня па вытрабаванай справе, Акруговы Пракурор хадайнічае аб тым перад Пракурорам Рэспублікі. Калі будуць выяўлены ў рашэньні асабліва значныя парушэньні законаў, або відавочнае парушэньне інтарэсаў дзяржавы ці працоўных, то справа ўносіцца на разгляд у парадку нагляду ў Грамадзянскую Калегію Найвышэйшага Суду; рашэньні апошняй могуць быць апратэставаны Пракурорам Рэспублікі або яго памочнікам пры Найвышэйшым Судзе ў Пленум Найвышэйшага Суду. Паднімаць справавядзеньне ў парадку нагляду можна толькі на працягу году з дню ўваходу рашэньня ў законную сілу.

## 4. Крымінальнае права.

8) Пастановай ЦВК і СНК за 18/IX—1926 г. Крымінальны Кодэкс дапоўнен ўвагаю да арт. 34 і зьменена ўвага да арт. 35 (З. З. 1926 г. № 40, арт. 146). Пастанова выдана з мэтаю ўзгадненьня Крымінальнага Кодэксу БССР з пастановай ЦВК і СНК СССР за 5/III—1926 г. аб дапаўненьні і аб зьмене арт. арт. 18 і 19 галоўных асноў крымінальнага заканадаўства СССР і саюзных рэспублік адносна парадку адбываньня вайскоўцамі пазбаўленьня волі і прымусовых работ па прыгавару суду. Паводле

новай пастановы чырвонаармейцы і вайскоўцы са складу малодшых начальнікаў, прысуджаныя да пазбаўленьня волі на тэрмін ня больш аднаго году бяз строгага адасабленьня, накіроўваюцца ў штрафныя часьці, а прысуджаныя ня больш як на два месяцы трымаюцца ў штрафных часьцях у парадку устаноўленым для дысцыплінарных арыштаў. Прымусовыя работы без пазбаўленьня волі ў адносінах да тых-жа асоб замяняюцца пазбаўленьнем волі на час роўны аднэй шостай належачага да ўжываньня тэрміну прамусовых работ.

9) Пастанова ЦВК і СНК за 16/X—1926 г. аб зьмене арт. 79 Крымінальнага Кодэксу (З. З. 1926 году № 43, арт. 163) выдана на падставе дырэктыўнай пастановы ЦВК СССР аб пераглядзе пытаньняў аб адказнасьці за няплату падаткаў. Няплата падаткаў у першы раз выклікае штраф у суме ня больш падвойнага разьмеру належачых выплат, або прымусовыя работы на тэрмін да трох месяцаў. Паўторная нявыплата падаткаў—пазбаўленьне волі на тэрмін да аднаго году або штраф ня больш трайнога разьмеру належачых выплат. Адмаўленьне паасобных грамадзян ад выкананьня павіннасьцяй, або ад правядзеньня работ, маючых агульна-дзяржаўнае значэньне, выклікае ў першы раз—штраф у суме ня больш 100 рублёў, або прымусовыя работы на тэрмін да аднаго месяца, а ў другі раз—пазбаўленьне волі на тэрмін да аднаго году, або штраф у суме ня больш 500 рублёў.

10) Пастанова ЦВК і СНК за 13/XI—1926 г. аб зьмене арт. 176 Крымінальнага Кодэксу (З. З. 1926 год № 46, арт. 172) выдана з прычыны неабходнасьці ўзмацненьня барацьбы з хуліганствам праз узмацненьне рэпрэсыі і ўстанаўленьне адказнасьці за хуліганства ва ўсіх выпадках у судовым парадку. У законе азначана паняцьце хуліганства—свавольныя ўчынкі, зьвязаныя з відавочнаю зьнявагаю грамадзянства або асобы. Хуліганства выклікае ў першы раз—пазбаўленьне волі на тэрмін да 6 месяцаў, а калі яно зроблена паўторна—да трох год.

## 5. Камунальная гаспадарка.

11) Пастанова ЦВК і СНК за 23/X—1926 г. аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох БССР (З. З. 1926 г. № 44, арт. 165) выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 4/VI—1926 г. аб кватэрнай плаце і мерах для ўпарадкаваньня карыстаньня кватэрамі ў гарадзкіх паселішчах. Кватэрная плата для рабочых і служачых устаноўлена ў суме кошту эксплёатацыі і нармальнае амартызацыі жылішч (1 р. 70 коп. за 1 кв. саж. для Менску і ня больш 1 р. 60 к. для іншых гарадоў), пры чым гэтая сума ўстанаўляецца для асоб, зарабляючых 100—125 р. на месяц. Для асоб, зарабляючых менш 100 р., робяцца паступовыя скідкі ад 10 проц. да 85 проц., а для зарабляючых больш 125 руб. робіцца адпаведная надбаўка. Да рабочых і служачых прыроўніваюцца пэнсыянэры, безработныя, знаходзячыеся на сацыяльным забесьпячэньні, вучні, атрымоўваючыя стыпэндыю, і сем'і чырвонаармейцаў. Для асоб вольных прафэсій максімальная стаўка ўстаноўлена 5 р. за 1 кв. саж., а для саматужнікаў і рамесьнікаў у залежнасьці ад колькасьці наёмных рабочых і даходаў - ад 1 р. да 6 р. за 1 кв. саж. Для асоб непрацоўных катэгорый кватэрная плата ўстаноўлена ад 6 р. да 15 р. Лішкі жылой плошчы большыя за 2 кв. саж. аплачваюцца ў падвойным разьмеры, апроч хворых, патрабуючых адасабленьня, адказных працаўнікоў, спэцыялістых і навуковых работнікаў, якія аплачваюць дадатковую плошчу на агульных падставах. Новая кватэрная плата ўведзена з 1-га лістапада 1926 г.

12) Пастановай ЦВК і СНК за 18/XII—1926 г. („Сав. Беларусь" № 297—30/XII—1926 г.) спыняецца з 1-га красавіка 1927 г. разгляд у

Цэнтральным Выканаўчым Камітэце і Савеце Народных Камісараў усіх хадайніцтваў грамадзян аб дэнацыяналізацыі (дэмуніцыпалізацыі) будынкаў, якія былі нацыяналізаваны (муніцыпалізаваны) да 1-га студзеня 1926 году на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 25/VII 1924 году.

### 6. Фінансы.

13) Пастановай СНК за 29/XI—1926 г. зацьверджаны правілы правядзеньня арышту і продажу з публічных таргоў маемасьці за няплату падаткаў (З. З. 1926 год, № 49, арт. 183). Гэтая пастанова выклікана неабходнасьцю папоўніць прабел у законе і ўпарадкаваць правядзеньне спаганяньня падаткаў. Маемасьць нядоімшчыка павінна апісвацца ў прысутнасьці нядоімшчыка ці яго прадстаўніка і прадстаўніка домакіраўніцтва, або прадстаўніка міліцыі і двух сьведкаў. Арышт маемасьці робіцца паводле загаду падатковай інспэкцыі ці райвыканкому, па належнасьці, падатковым агэнтам або членам сельсавету; гэтымі самымі асобамі прадаецца маемасьць з захаваньнем умоў, запісаных у палажэньні, якое падробна ўстанаўляе парадак складаньня опісу, перадачы апісанай маемасьці на захаваньне, разьмер выдаткаў на опіс, арышт і продаж маемасьці і інш., парадак публікацыі аб таргох і правядзеньня апошніх. Далей, у палажэньні пералічваюцца асобы, якія ня могуць браць удзел у таргох, выкладаецца парадак выплаты кошту купленай маемасьці, асобныя ўмовы правядзеньня таргоў на будынкі, вынікі прызнаньня таргоў неадбыўшыміся, або несапраўднымі і г. д.

### 7. Ахова здароўя.

14) Пастановай СНК за 14/IX—1926 г. зацьверджана палажэньне аб профэсіянальнай рабоце мэдыцынскага пэрсаналу і аб змаганьні з незаконным лячэньнем (З.З. 1926 год, № 45, арт. 169). Выданьне пастановы выклікана неабходнасьцю ўстанавіць межы праў мэдыцынскай і фармацэўтычнай работы асоб мэдыцынскага пэрсаналу і адказнасьць за лячэньне асобамі, ня маючымі на гэта права. Паводле пастановы, права мэдыцынскае і фармацэўтычнае работы, у межах свае спэцыяльнасьці, карыстаюцца дактары, зубныя дактары, фэльчары, акушоркі, фармацэўты і мэдыцынскія сёстры, якія павінны атрымаць з аддзелу аховы здароўя рэгістрацыйнае пасьведчаньне; незарэгістраваныя асобы ня могуць прымацца ні на якую службу, ня маюць права публікаваць аб прапанове свае працы і выпісваць рэцэпты на водпуск лякарстваў з аптэк. Заняцьце лячэньнем асобамі, якія ня маюць мэдыцынскае асьветы, прыцягваецца да адказнасьці паводле арт. 187 Крымінальнага Кодэксу, а ў выпадку сьмерці хворага ў выніку лячэньня—паводле 2-й часьці 147 і 2 ч. 154 арт. арт. Крым. Код.

15) Пастановай СНК за 16/XII—1926 г. зацьверджаны правілы аб вырабе лякарстваў і аб гандлі мэдыкамэнтамі (З. З. 1926 г. № 51, арт. 190). Выданьне гэтага закону выклікалася тым, што адпаведныя законы 1922 году застарэлі і зьявіліся нездавальняючымі. Паводле новай пастановы выраблять, захоўваць і выдаваць лякарствы маюць права толькі аптэкі, адчыненыя ва ўстаноўленым парадку. Лякарствы ў запечатаванай лябараторнай або аптэчнай упакоўцы, якімі шырока карыстаюцца ў хатнім ужытку, могуць выдавацца пачатковымі копэратывамі, а таксама магазынамі санітарыі і гігіены; апошнім забараняецца называць сябе аптэчнымі магазынамі. Права гуртавога гандлю мэдыкамэнтамі можа давацца Народным Камісарыятам Аховы Здароўя дзяржаўным прадрыемствам.

*С. Рахманін.*

# Хроніка.

## ЗАКОНАДАЎЧАЯ ХРОНІКА.

### Пераапрацоўка КПК.

Аддзелам Законадаўчых Проэктаў Н. К. Ю. распрацован і накіроўваецца ў Калегію Н. К. Ю. на разгледжаньне проэкт Крымінальна-Процэсуяльнага Кодэксу БССР. Работа Аддзелу зводзілася галоўным чынам да таго, каб узгодніць дзеючыя асноўныя нормы КПК з асновамі судавядзеньня Саюзу ССР і саюзных рэспублік. Найбольш істотныя зьмены ў гэтым напрамку ў параўнаньні з дзеючым КПК заключаюцца ў наступным. Выключаны з КПК ўсе нормы, якія спэцыяльна тычацца справядзеньня ў вайсковых трыбуналах, бо асновамі крымінальнага судавядзеньня і палажэньнем аб вайсковых трыбуналах за 20-га жніўня 1926 году трыбуналы гэтыя зусім выключаны з веданьня агульных судовых арганаў і ім, а роўна вайсковай пракуратуры, вайсковым сьледчым і органам дазнаньня толькі прадпісваецца кіравацца пры справавядзеньні крымінальна-процэсуяльнымі законамі саюзных рэспублік, за выключэньнем, зразумела, тых выпадкаў, для каторых у Палажэньні аб Вайсковых Трыбуналах маюцца спэцыяльныя процэсуяльныя нормы, як, напрыклад, аб падсуднасьці вайсковым трыбуналам, аб абавязковасьці вядзеньня сьледзтва па тэй або іншай справе і г. д. Наадмен пазбаўленьня волі, як меры прасячэньня, дапускаецца толькі даручыцельства профэсіянальных і іншых рабочых, сялянскіх і грамадзкіх арганізацый, не дапускаецца ні асабістае, ні маемаснае даручыцельства паасобных асоб, ні маемаснае даручыцельства арганізацый, а роўна грашовы або маемасны залог. Пры новым разгледжаньні справы, пераданай з касацыйнай інстанцыі, узмацненьне меры сацыяльнай забароны супроць назначанай адмененым прыгаварам дапускаецца толькі ў выпадку, калі прыгавар быў апратэстован Пракуратурай, тады як па дзеючаму К. П. К. такое ўзмацненьне дапушчана наогул ва ўсіх тых выпадках, калі прыгавар адменен не па матывах, зазначаных у скарзе, асуджанага.

З другіх зьменаў істотна зьменены нормы, якія зьмяшчаюцца ў дзейнічаючых арт. КПК., у сэнсе скарачэньня і ўдакладненьня аб'ёму прыстасаваньня яго. Проэктам не прадугледжана спыненьне справы па нямэтазгоднасьці справавядзеньня яе, спыненьне ж справы па малазначнасьці дзеяньня дапускаецца толькі пры абавязковай умове адсутнічаньня або нікчэмнасьці шкодных вынікаў гэтага дзеяньня.

### Законапроэкт аб апублікаваньні і часе ўступленьня ў сілу законаў і распараджэньняў.

Аддзелам Законадаўчых Проэктаў Н. К. Ю. распрацован і накірован у законадаўчыя органы проэкт закону аб апублікаваньні і часе ўступленьня ў сілу законаў і распараджэньняў Ураду БССР, а таксама распараджэньняў ведамстваў БССР. У проэкце гэтым, які складзен у адмену застарэў-

шага закону за 24-І—1922 году ўстанаўляецца, што законы і распараджэньні ЦВК, СНК і Эканамічнае Нарады публікуюцца, за выключэньнем тых, каторыя не падлягаюць апублікаваньню, ў газэце „Савецкая Беларусь“ і ў „Зборніку Законаў і распараджэньняў Рабоча-Сялянскага Ураду БССР“, а распараджэньні Народных Камісарыятаў, рэгулюючыя тыя або іншыя публічна-праўныя адносіны, за такім-жа выключэньнем,—у „Бюлетэні СНК БССР“, прычым распараджэньні Наркаматаў публікуюцца таксама ў „Зборніку Законаў і распараджэньняў“, калі яны выданы па даручэньню законадаўчых органаў у разьвіцьцё іх законаў.

Згодна проэкту ўсе паказаныя законы і распараджэньні, калі не паказан у іх іншы тэрмін або ня ўводзяцца яны па тэлеграфу або радыё-тэлеграфу, уступаюць у сілу на ўсёй тэрыторыі БССР праз 10 дзён пасьля апублікаваньня іх ў памянёных афіцыйных выданьнях. У гэтай апошняй адносіне законапроэк істотна адрозьніваецца ад аналёгічных законаў як Саюзу ССР, так і іншых саюзных рэспублік, у каторых час уступленьня ў сілу законаў і распараджэньняў у тэй або іншай мясцовасьці становіцца ў залежнасьць ад часу атрыманьня ў належачых выканкомах адпаведнага нумару афіцыйнага выданьня, дзе яны апублікованы. Час уступленьня ў сілу законаў і распараджэньняў, якія ўводзяцца по тэлеграфу або радыё-тэлеграфу, абумаўляецца па проэкту часам атрыманьня тэлеграмы або радыё-тэлеграмы Акруговымі Выканаўчымі Камітэтамі, а не падлягаючых апублікаваньню,—часам атрыманьня іх установамі, каторым яны паведамляюцца.

## Аб выданьні зборніку дзейнічаючых законаў БССР.

Аддзелам Законадаўчых Проэктаў Н. К. Ю. ў ліку чарговых задач бягучага году намечана выданьне зборніку дзейнічаючых законаў БССР. Ужо падрыхтован матар'ял для зборніку за 3 гады,—1922, 1923 і 1924 г. г. і зараз праводзіцца падрыхтоўка законадаўчага матар'ялу за 1925 і 1926 г. г. Уся гэта работа ўзгадняецца Аддзелам з ведамствамі. З прычыны таго, што да паловы 1925 году законы БССР выдаваліся толькі на расейскай мове, яны перакладаюцца на беларускую мову. Пасьля падрыхтоўкі ўсяго законадаўчага матар'ялу, ён будзе сыстэматызаван і выдан у відзе некалькіх кніжак па розных галінах права.

## Зьмена падсуднасьці спраў аб разьдзелах маемасьці двара без зямлі.

18-га лютага ў Калегіі НКЮ разглядалася пытаньне аб узгадненьні пастаноў артыкулаў 79 і 84 Зямельнага Кодэксу.

На падставе артыкулу 79 Зям. Код. іскі аб разьдзелах зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні сялянскага двара, а таксама іскі працоўных землякарыстальнікаў аб разьдзеле іншай агульнай маемасьці, калі яны прад'яўляюцца разам з хадайніцтвам аб разьдзеле зямлі, падсудны зямельным камісіям. *Іскі-ж аб разьдзеле аднае маемасьці двара* (будынкаў, жывога і мёртвага інвэнтару і інш.) *без зямлі—падсудны народнаму суду.*

У тым-жа зямельным кодэксе маецца артыкул 84, на падставе каторага член двара пры выхадзе з гаспадаркі, якую ня можна падзяліць, мае права атрымаць грашмі або натурай тую частку маемасьці, каторая яму належыць. *Пры гэтым спрэчкі аб кошце маемасьці падсудны толькі зямельным камісіям.*

Такім чынам, іскі аднаго і тагож роду падсудны *народным судом* (2 ч. 79 арт.) *і зямельным камісіям* (84 арт.) *у залежнасьці ад таго, ці падлягае зямля гаспадаркі падзелу, ці не.*

Такую адзнаку для разьмежаваньня падсуднасьці спраў нельга

прызнаць здавальняючым, асабліва цяпер, калі сямейныя разьдзелы прыпынены.

На нязручнасьць такога парадку зьвярнулі увагу як Найвышэйшы Суд БССР, так і Народны Камісарыят Земляробства і паўстала пытаньне аб узгадненьні вышэйпаказаных артыкулаў Зямельнага Кодэксу.

Аддзел Законадаўчых Проэктаў Н. К. Ю. пасьля абмеркаваньня гэтага пытаньня распрацаваў проэкт пастановы ЦВК і СНК аб зьмене арт. 79 Зямельнага Кодэксу і аб выданьні гэтага артыкулу ў наступнай рэдакцыі: „іскі членаў двара аб падзеле зямлі, якая знаходзіцца ў яго карыстаньні, а таксама маемасьці, каторая належыць двару (будынкаў, інвэнтару, ураджаю і інш.), *падсудны зямельным камісіям.*“

Калегія Н. К. Ю. згадзілася з вышэйвыкладзеным проэктам і пастанавіла прадставіць яго ў С. Н. К.

Матывамі для гэтага зьяўляецца тое, што з пункту гледжаньня судовай палітыкі пажадана, каб усе справы аб разьдзелах маемасьці двара былі падсудны аднаму і таму-ж суду.

Пры выбары суду, у веданьне якога неабходна перадаць усе вышэйпаказаныя справы, Н. К. Ю. спыніўся на зямельнай камісіі таму, што цяпер, калі работы па земляўпарадкаваньню яшчэ ня скончаны, зямельным камісіям, лягчэй, чым народным судом, праводзіць у рашэньнях аб падзелах маемасьці двара агульную зямельную палітыку, і ў часткова сьці па барацьбе з разьдзеламі, якія заўсёды робяць сялянскія гаспадаркі занядалымі.

## У камісіі законадаўчых проэктаў пры Савеце Народных Камісараў БССР.

I.

За час з мінулай заметкі ў Камісію Законадаўчых Проэктаў паступіў шэраг новых законапроэктаў.

Інстытут Беларускае Культуры ўнёс у КЗП два проэкты пастаноў Савету Народных Камісараў па пытаньні аб згрупаваньні ў БССР архіваў, якія тычацца мінулага Беларусі, неабходны для вывучэньня яе гісторыі і знаходзяцца па-за межамі нашае Рэспублікі. У лік гэтых архіваў уваходзіць вядомая „Літоўская Мэтрыка“—каштоўны архіўны фонд б. канцэлярыі вялікага князя Літоўска-Беларускага, які цяпер захоўваецца ў Маскве ў б. архіве Міністэрства Юстыцыі.

Практыка ўжываньня на працягу $1^1/_2$ года палажэньня „Аб парадку выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне“ паказала неабходнасьць унясеньня ў гэтае палажэньне значных зьмен. Апроч таго, зьявілася патрэба ўстанавіць пэўны парадак, якім кіраваліся-б пры выданьні абавязковых пастаноў гарадзкія саветы. Гэта прымусіла Народны Камісарыят Унутраных Спраў распрацаваць і падаць у КЗП проэкт палажэньня „Аб выданьні акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі акруговых і неакруговых гарадоў БССР абавязковых пастаноў і аб накладаньні за іх парушэньні ўзысканьняў у адміністрацыйным парадку“. Каб даць магчымасьць органам, якіх гэты проэкт непасрэдна тычыцца, узяць удзел у яго абгаварэньні, Камісія Законадаўчых Проэктаў пастанавіла паслаць проэкт на заключэньне ўсіх акруговых выканаўчых камітэтаў і аднаго з раённых выканаўчых камітэтаў кожнае акругі.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў унёс у КЗП таксама проэкт новага палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох і мястэчках БССР. Пераапрацоўка гэтага палажэньня зьяўляецца вынікам

вывучэньня яго асобай камісіяй пры Эканамічнай Нарадзе.

З унесеных НКУС проэктаў трэба адзначыць яшчэ проэкт пастановы ЦВК і СНК БССР аб льготах і перавагах супрацоўнікам міліцыі і крымінальнага вышуку. НКУС распрацаваў гэты проэкт, лічачы справядлівым, каб працаўнікі міліцыі і крымінальнага вышуку, якія пры выкананьні сваіх абавязкаў часта рызыкуюць сваім жыцьцём і здароўем і ў экстрэных выпадках без асобнай за гэта платы павінны працаваць звышвурочна, мелі некаторыя льготы і перавагі ў галінах сельска-гаспадарчай, народнае асьветы і жыллёвай.

У зьвязку з далучэньнем да БССР тэрыторыі Гомельскай і Рэчыцкай акруг, у КЗП паступілі проэкты пастаноў Ураду аб пашырэньні на гэтую тэрыторыю Папраўна Працоўнага і Зямельнага Кодэксаў БССР, законаў БССР аб рэгістрацыі спажывецкіх таварыстваў і іх саюзаў, а таксама пастановы аб парадку ліквідацыі ў межах паказаных акруг тых земляўпарадчых і спрэчных зямельных спраў, якія пачаліся да пашырэньня на гэтыя акругі Зямельнага Кодэксу БССР. Проэкт пашырэньня на тэрыторыю Гомельскай і Рэчыцкай акруг Папраўна-Працоўнага Кодэксу ўжо разгледжаны КЗП.

У КЗП паступіла яшчэ некалькі дробных проэктаў законаў БССР і некалькі проэктаў законаў Саюзу ССР. Найбольш значны з апошніх—проэкт закону аб маемасных правах мясцовых саветаў—КЗП ўжо разгледзіла.

З раней унесеных проэктаў КЗП пераапрацавала і прыняла ўнесены НКУС проэкт палажэньня аб адміністрацыйных аддзелах акруговых выканаўчых камітэтаў. Згодна з проэктам КЗП адміністрацыйны аддзел падзяляецца на агульны пададдзел, на адпаведныя аддзяленьні якога ўскладаецца запіс актаў грамадзянскага стану, чужаземныя справы ў акрузе і адміністрацыйны нагляд, на пададдзел міліцыі і на пададдзел крымінальнага вышуку.

Прынят з некаторымі зьменамі ўнесены НКЮ проэкт новай рэдакцыі артыкул 108 Крымінальна-Процэсуальнага Кодэксу. Паводле новай рэдакцыі зьменшыцца пералік злачынстваў, па якіх абавязкова папярэдняе сьледзтва.

Прынят таксама проэкт пастановы СНК аб урэгуляваньні дзейнасьці выдавецтваў, якія знаходзяцца пры дзяржаўных установах і прадпрыемствах БССР. Згодна з гэтым проэктам выдавецтвы пры дзяржаўных установах павінны існаваць на гаспадарчым разрахунку, выдавецтвы пры дзяржаўных прадпрыемствах павінны мець уласныя каштарысы, якія выдзяляюцца з каштарысаў адпаведных прадпрыемстваў, як самастойныя іх часткі.

Проэкт закону аб падняцьці кваліфікацыі асоб, якія канчаюць вышэйшыя школы, які ўнесены Народным Камісарыятам Асьветы, КЗП пастанавіла перадаць на разгляд Дзяржаўнае Плянавае Камісіі, каб увязаць мерапрыемствы па падняцьці кваліфікацыі з сыстэмаю і плянамі народнае асьветы, якія разглядаюцца Дзяржпляням.

Проэкт пастановы ЦВК і СНК БССР аб цэнтральным і акруговых коопэрацыйных саветах, які ўнёс НКЮ, пасланы Камісіяй Заканадаўчых Проэктаў на заключэньне акруговых выканаўчых камітэтаў. Адначасна даручана Цэнтральнаму Коопэрацыйнаму Савету распрацаваць і падаць у КЗП проэкт статуту ЦКС.

У зьвязку з ліквідацыяй Цэнтральнага Кіраўніцтва Працоўнымі Колектывамі і ўзлажэньнем яго абавязкаў на Аддзел Рынку Працы Народнага Камісарыяту Працы, КЗП даручыла НКПрацы падаць ёй проэкт новага палажэньня аб акруговых аб'яднаньнях, працоўных колектываў і іх кіраўніцтвах.

II.

8-га лютага ў Камісіі Заканадаўчых Проэктаў пры СНК БССР разглядаўся проэкт пастановы ЦВК

Саюзу ССР аб „маемасных правох мясцовых саветаў“.

Згодна гэтага проэкту маемасьцямі мясцовага значэньня лічацца дзяржаўныя маемасьці, якія не аднесены ва ўстаноўленым парадку да маемасьцяй рэспубліканскага і агульна-саюзнага значэньня, апошнія выдзяляюцца Ц. В. Камітэтамі Саюзу ССР і Саюзных рэспублік.

Разьмеркаваньне маемасьці мясцовага значэньня паміж саветаў розных ступеняў праводзіцца ў парадку законадаўства саюзных рэспублік і гэтым законадаўствам устанаўліваецца парадак інвэнтарызацыі гэтай маемасьці.

Мясцовым саветам надаецца права: а) эксплёатацыя дадзенай у іх распараджэньне зямлі, прадпрыемстваў і іншай маемасьці, як у бюджэтным парадку, гэтак і на падставах гаспадарчага разрахунку, а таксама здаваць у арэнду і ў канцэсію; б) арганізаваць новыя прадпрыемствы; в) збываць гэтаю маемасьць у парадку, у якім збываецца дзяржаўная маемасьць.

Парадак здачы ў канцэсію ўстанаўляецца законадаўствам СССР.

Мясцовым саветам, якія маюць уласны бюджэт, даецца права ўтвараць пазыкі як аблігацыйныя, гэтак пад вэксалі і іншыя абавязацельства, пры гэтым пазыкі павінны мець мэтавае прызначэньне і ня могуць утварацца для аплаты дэфіцыту па бюджэту.

Пазыкі, якія павінны аплачвацца ў бягучым годзе, утвараюцца беспасрэдна мясцовымі саветамі і ня могуць быць звыш 10 проц. прыбытковай часткі бюджэту. Іншыя пазыкі могуць утварацца толькі з дазволу вышэйстаячага савету і на тэрмін ня звыш 5 гадоў. Парадак дазволу пазыкі на тэрмін звыш 5 гадоў і звыш 10 проц. бюджэту ўстанаўліваецца законадаўствам саюзных рэспублік: аблігацыйныя пазыкі могуць утвараца толькі з дазволу СНК Саюзу ССР.

Мясцовыя саветы адказваюць па сваіх пазыках усімі свамі прыбыткамі і маемасьцю, і дзяржаўны скарб па гэтых пазыках не адказвае.

Пазыкі могуць утварацца пад спэцыяльныя забясьпекі паасобнымі прыбыткамі або маемасьцю са згоды вышэйстаячых саветаў іх прыбыткі і маемасьць таксама могуць быць забясьпекай ніжэйшых саветаў.

Мясцовым саветам таксама даецца права браць удзел у акцыйных і іншых таварыствах пры ўмовах, калі ў гэтых таварыствах зьяўляецца пераважным дзяржаўны капітал.

Камісія Законадаўчых Проэктаў, абмеркаваўшы гэты проэкт, знайшла, што парадак выдзяленьня рэспубліканскай і мясцовай маемасьці не адносіцца прама да маемасных правоў мясцовых саветаў. Гэтакія пытаньні як устанаўленьне парадку разьмеркаваньня маемасьці мясцовага значэньня паміж саветаў розных ступеняў і устанаўленьне парадку інвэнтарызацыі іх законадаўствам саюзных рэспублік, само сабой зразумела, межы праў і парадак эксплёатацыі маемасьці мясцовага значэньня, права і парадак утвараць пазыкі, права ўступаць у акц. і іншыя т-вы, устаноўлены палаженьнямі аб мясцовых саветах. Некаторыя пытаньні, як тэрмін, з каторага ўводзіцца ў дзейнасьць пастанова аб разьмеркаваньні мясцовай маемасьці паміж саветаў, паказаныя ў проэкце абмежаваньні праў саветаў утвараць пазыкі не закранаюць праў Саюзу ССР, а іншыя пытаньні, як напрыклад, уступленьне ў простыя таварыствы ужо разьвязаны спэцыяльнымі законамі.

Дзеля гэтага Камісія Законадаўчых Проэктаў падрабязна абасbuilt пастановай выказалася за адхіленьне паказанага проэкту.

# У НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯЦЕ ЮСТЫЦЫІ

## Рэзалюцыя

### па дакладу аб працы Аддзелу Законадаўчых Проэктаў.

Заслухаўшы даклад Загадчыка Аддзелу Законадаўчых Проэктаў тав. Гаўзе аб рабоце Аддзелу за 1926 г. і аб плянах далейшай дзейнасьці Аддзелу, Калегія НКЮ пастанаўляе:

1) Прызнаць, што работа Аддзелу Законадаўчых Проэктаў за справаздачны год упаўне адпавядае заданьням Наркамату ў галіне законадаўства, тлумачэньня і выданьня законаў.

2) Лічыць правільным ўзяты Аддзелам у сучасны момант напрамак работы ў бок сыстэматызацыі і кодыфыкацыі нашага законадаўства, у паасобку кодэксаў, і паставіць перад Аддзелам галоўнай яго задачай на бліжэйшы год канчатковую падрыхтоўку да выданьня на беларускай і расейскай мовах усіх нашых кодэксаў і астатняга дзеючага законадаўства БССР, праводзячы ў працэсе сыстэматызацыі і кодыфікацыі неабходнай зьмены у законадаўстве, выкарыстоўваючы законадаўчую ініцыятыву Наркамату.

Адзначаючы разам з тым, што правадзімая Аддзелам работа ў галіне сыстэматызацыі законадаўчых актаў, якія выданы з 1921 г. па 1926 г., затрымліваецца, дзякуючы несваечасоваму паступленьню адказаў ад ведамстваў на запытаньні аб дзеяньні таго, або іншага закону і аб неабходных у ім зьменах, прасіць усе наркаматы прыняць дэталёвы ўдзел у рабоце па сыстэматызацыі законадаўства.

3) Лічачы ўстаноўленым факт некаторай стабілізацыі нашага законадаўства, дзякуючы чаму няма неабходнасьці сьпешных і выпадковых зьмен у законадаўстве, адзначыць разам з тым, што нашы кодэксы, якія прыняты ў 1922—1923 годзе, г. зн., у пачатку НЭП'у, у некаторых частках сваіх ня зусім адпавядаюць умовам палітыка эканамічнага жыцьця краю, а таксама тое, што іх неабходна ўзгадніць шэрагам законадаўчых актаў Саюзнага Ураду. Прапанаваць у сувязі з гэтым Аддзелу Законадаўчых Проэктаў прыступіць да працы па паступовай паглыбленай рэвізіі нашых кодэксаў, прыцягваючы да гэтай працы як адпаведныя Аддзелы Наркамату, так і іншыя ведамствы і мясцовыя органы ўлады, у тым ліку і судовыя органы.

Работу па пераапрацоўцы К. К. і КПК ў адпаведнасьці з агульнасаюзным законадаўствам лічыць тэрміновай.

4) У сувязі з далучэньнем да БССР быўшых Гомельскага і Рэчыцкага паветаў тэрыторыі РСФСР паставіць чарговай задачай Аддзелу Законадаўчых Проэктаў прыняць у парадку законадаўчай ініцыятывы меры да уніфікацыі законадаўства БССР і РСФСР для далучанай да БССР тэрыторыі.

5) Далейшая правільная пастаноўка работы Аддзелу ў галіне законадаўства патрабуе знаёмства з практыкай прыстасаваньня законаў, каб выявіць цяжкасьці, якія ўзьнікаюць пры іх прыстасаваньні і тыя зьмены, якія жыцьцё патрабуе ўнесьці ў законадаўства. Адзначаючы, што ўсе даныя па прыстасаваньню законаў знаходзяцца ў п/аддзеле агульнага нагляду Пракуратуры, Аддзеле Судабуданіцтва, а таксама і ў Найвышэйшым Судзе лічыць неабходным узмацніць сувязь паміж гэтымі органамі юстыцыі і Аддзелам Законадаўчых Проэктаў.

6) Адзначыць, што Наркаматы і іншыя Цэнтральныя органы, якія

карыстаюцца правам законадаўчай ініцыятывы, ня выконваюць запатрабаваньняў аб узгадненьні проэктаў з Аддзелам Законадаўчых Проэктаў НКЮ, што прыводзіць да непажаданых вынікаў, прасіць кіраўнікоў ведамстваў прыняць меры да зьнішчэньня гэтага зьявішча ў далейшым.

7) Прыняць меры да таго, каб тлумачэньне законаў па запытаньням ведамстваў, зьмяшчалася ў друку з тым, каб вытлумачэньні былі вядомы ўсім органам, якія сустракаюцца з адпаведным законам Разам з тым лічыць зусім мэтазгодным наладжваньне пры Аддзеле Законадаўчых Проэктаў эпізатычных нарад прадстаўнікоў аддзелаў НКЮ і Найвышэйшага Суду для вытлумачэньня складаных запытаньняў Аддзелу Законадаўчых Проэктаў, якія не ўваходзяць у компэтэнцыю Пленуму Навышэйшага Суду.

8) Прыняць меры да хутчэйшага апублікаваньня законадаўчых актаў і да зьнішчэньня сустракаючыхся памылак у апублікаваных актах. Прасіць законадаўчыя органы прыняць меры да сваечасовай прысылкі законаў, падлягаючых апублікаваньню і да строгай зьверкі іх з першатворам.

9) Лічыць неабходным хутчэйшае выданьне законаў аб адначасовым уступленьні ў сілу на тэрыторыі БССР ўсіх законадаўчых актаў БССР.

10) Прыдаючы вялікае значэньне ў справе праздзеньня рэвалюцыйнай законнасьці, кваліфікацыі юрысконсультаў ведамстваў і лічачы неабходным установіць правільнае разуменьне і прыстасаваньне нашых законаў юрысконсультамі, лічыць неабходным сканцэнтраваць работу па аб'яднаньню і напрамку дзейнасьці юрысконсультаў пры Аддзеле Законадаўчых Проэктаў, для чаго ўтварыць спэцыяльнае Бюро юрысконсультаў пры Аддзеле пад старшынством Загадчыка Аддзелам і з прыцягненьнем прадстаўнікоў п-аддзелаў Агульнага Нагляду і Нагляду Пракуратуры.

## У Аддзеле Судабудаўніцтва і Нагляду НКЮ БССР.

У аддзеле Судабудаўніцтва і Нагляду Н.К.Ю. распрацоўваюцца адзіныя формы дзелаводства для ўсіх судовых органаў Рэспублікі, а таксама вядзецца падрыхтоўчая праца да нарыхтаваньня кніг і блянкаў у рэспубліканскім маштабе. З прычыны гэтага запытваюцца месцы, каб яны выказалі свае думкі аб мэтазгоднасьці гэтага мерапрыемства, таксама аб каштоўнасьці кніг і блянкаў за мінулы год і аб патрэбнасьці іх для Нарсудоў, Акрсудоў і іх упаўнаважаных і судовых выканаўцаў.

Апроч гэтага на падставе навуковай тэхнікі працы ўсяго дзелаводзтва Нарсудоў, Акрсудоў, судовых выканаўцаў, натарыяльных кантор і калегій абаронцаў вядзецца распрацоўка картачнай сыстэмы. У бліжэйшы час проэкты картачнай сыстэмы будуць разасланы на мясцы для азнаямленьня мясцовых судовых працаўнікоў і ўнясеньня адпаведных паправак. Картачную сыстэму ў органах Юстыцыі дапушчаецца ўвесьці з 1-га студзеня 1927 году.

Распрацоўваецца проэкт арганізацыі Цэнтральнага бюро пры НКЮ па кіраваньню працай акруговых і раённых юрыдычных гурткоў і па кіраваньню працай па папулярызацыі права.

Заканчваецца прапрацоўка пытаньня аб ўпарадкаваньні судовай экспэртызы і судовых перакладчыкаў. Па проэкту судовыя экспэрты і перакладчыкі будуць строга цэнтралізаваны. У кожнай акрузе будзе мецца філіял перакладчыкаў і экспэртаў; таксама заканчваецца прапрацоўкай інструкцыя аб парадку выкліканьня судовых экспэртаў і аб выплаце ім узнагароды.

## 4-ты Ўсебеларускі Зьезд членаў Калегіі Абаронцаў.

15—16 студзеня гэтага году адбыўся 4-ты Ўсебеларускі Зьезд членаў Калегіі Абаронцаў. На гэтым зьезде ўдзельнічала 39 дэлегатаў ад усіх акруг.

Зьезд адчыніўся прывітальным словам тав. Сегаля, у каторым ён адзначыў вялікія дасягненьні Калегіі Абаронцаў у напрамку заваёвы давер'я мас. Калегія заваявала сабе належнае месца ў савецкай грамадзкасьці і надалей трэба паглыбляць гэту работу шляхам пашырэньня сеткі юрыдычных кансультацый усямерна прыблізіцца да мас. Асабліва затрымаўся тав. Сегаль на неабходнасьці няўхільнага правядзеньня ў жыцьцё нацыянальнай палітыкі. Заканчваючы прывітаньне тав. Сегаль выказаў поўную ўпэўненасьць у тым, што гэтыя задачы Калегіяй будут выкананы.

З дакладам аб дзейнасьці Цэнтральнага Прэзыдыуму Калегіі Абаронцаў выступіў тав. Слонім.

Дакладчык адзначыў, што Калегія параўнаўча з мінулым годам зрабіла вялікі крок уперад і стала ўпаўне савецкай грамадзкай арганізацыяй.

Дзейнасьць Калегіі значна разгарнулася як у адносінах аказаньня юрыдычнай дапамогі, так і ў адносінах культработы.

За год праз усе кансультацыі прапушчана 68647 чалавек, парад дадзена 33012, складзена папер 35635, бясплатных абарон праведзена 6458. Юрыдычных кансультацый мелася ўсяго 101. Выездаў у вёскі зроблена 134. На 1-га студзеня 1927 году ўсяго абаронцаў было 204, у мінулым-жа годзе іх было 155, такім чынам за год лік абаронцаў вырас на 72 чалавекі. Раёны паступова запаўняюцца: за год запоўнена 9 раёнаў, засталося незапоўненых 10 раёнаў. Нельга не адзначыць і некаторых адмоўных момантаў некалькі павялічылася за гэты год лік этычных парушэньняў. Паступіла скаргаў на членаў Калегіі Абаронцаў—37 і нататак у газэтах—4. У выніку гэтага было паднята 22 дысцыплінарных справы; рэшта-ж аказалася нягрунтоўнымі. Невыстарчальна таксама і дысцыпліна сярод абаронцаў, на што неабходна зьвярнуць увагу.

Дакладчык затрымаўся таксама на пытаньні аб падпольнай адвакатуры. Рост яе ідзе няўхільна ўперад, ня гледзячы на тое, што Калегіяй зроблена ўсё магчымае ў напрамку пашырэньня юрыдычнае дапамогі насельніцтву. Неабходна, значыцца, умяшацельтва Н. К. Ю.

З дакладам, які выклікаў вялікі інтэрас у зьезду, выступіў т. Эднэрал, каторы ў сваю чаргу адзначыў рост аўтарытэту Калегіі, што ў Калегіі адбыўся вялікі зрух уперад і зьмяніліся таксама і ўзаемаадносіны з судовымі працаўнікамі.

Расьце Калегія і колькасна. Неабходна толькі папаўненьне яе шэрагаў з рабочых і сялян. Але ёсьць і шмат недахопаў: адсутнічаньне ўнутранай спайкі, невыстарчальная сувязь з іншымі арганізацыямі, парушэньне этыкі і дысцыпліны, адсутнічаньне ініцыятывы ў галіне выпрацоўкі законапроэтаў, невыстарчальнае высьвятленьне работы Калегіі ў друку, адсутнічаньне плянавасьці ў стасунку арганізацыі юрыдычнай дапамогі, невыстарчальная сувязь з месцамі.

Далей дакладчык адзначыў, што шмат гаварылася аб падпольнай адвакатуры, але канкрэтных мерапрыемстваў з боку Калегіі ня было прадпрынята. Затым дакладчык затрымаўся аб неабходнасьці ўнесьці сыстэму і плянавасьць у грамадзкую работу, увязаць яе з работай іншых арганізацый і тады толькі яна будзе працякаць больш прадукцыйна. Усе гэтыя недахопы аднак такія, што Калегія іх выжыве, бо ў рабоце сваёй стала на правільны шлях.

Трэцім быў заслуханы даклад тав. Сідлярэўскага аб падпольнай адвакатуры. Дакладчык адзначае,

што падпольная адвакатура ёсьць бытавое зьявішча сацыяльна-небясьпечнага парадку і на гэта трэба зьвярнуць вялікую ўвагу. Сутнасьць падпольнае адвакатуры заключаецца ў тайным аказаньні юрыдычнай дапамогі за плату ў відзе промыслу асобамі ня маючымі на гэта права. І вот, гэта патаемнасьць робіць яе бескантрольнай і асабліва шкоднай. Затым дакладчык затрымаўся на дзейнасьці Канторскіх Бюро, якія займаюцца юрыдычнай працай, пры чым аказваюць дапамогу людзі ў большасьці юрыдычна мала пісьменныя. Канкрэтнымі мерамі барацьбы па думцы дакладчыка зьяўляецца: 1) шырокая кампанія па растлумачэньню аб шкодзе падпольнае адвакатуры, 2) выяўленьне падпольных адвакатаў, 3) утварэньне пры кожным Прэзыдыуме Калегіі Абаронцаў асобай ячэйкі па барацьбе з падпольнай адвакатурай, 4) скасаваньне канторскіх бюро і паасобных кансультацый розных назваў, 5) шырокая арганізацыя кансультацый, прадугледжаных абежнікам Н К.Ю., 6) выданьне акрвыканкомам абавязковых пастаноў аб забараненьні займацца юрыдычнай дапамогай асобам ня маючым на гэта права, або, што яшчэ больш жадана, выданьне СНК БССР асобнага дэкрэту аб тым-жа аналёгічна з дэкрэтам аб барацьбе з незаконным лячэньнем.

Пасьля дакладаў і спрэчак Зьездам быў абабран новы склад Усебеларускага Прэзыдыуму Калегіі Абаронцаў, у склад якога ўвайшлі: т. т. Слонім, Васкабойнікаў, Сідляроўскі, Бялян, Малкін, Залманава, Казакевіч, Парыбок і Даўгаполаў. У кандыдаты: т. т. Кадэр, Лявітан, Чысьцякоў і Корсак.

Па ўсіх дакладах былі прыняты наступныя рэзалюцыі:

Па дакладу Старшыні Калегіі т. Слоніма Зьезд прызнаў лінію, узятую Цэнтральным Прэзыдыумам правільнай і работу яго здавальняючай. У частковасьці адзначан шэраг дасягненьняў у галіне арганізацыйнага і ідэйнага кіраўніцтва, а іменна: значнае ўзмацненьне аўтарытэту Калегіі, як Савецкай грамадзкай арганізацыі; узмацненьне сувязі з працоўнымі масамі шляхам павялічэньня сеткі кансультацый. Павялічэньне ліку выездаў у вёску, запаўненьне раёнаў членамі калегіі; жывы ўдзел у культурна-асьветнай рабоце і г. д.; адзначаны таксама дасягненьні ў адносінах беларусізацыі Калегіі і абслугоўваньня нацыянальных камер суду. Адзначаны і некаторыя дэфэкты: невыстарчальная сувязь Цэнтральнага Прэзыдыуму з месцам, невыстарчальнае вывучэньне вопыту практыкі Акруговых калегій і слабае абслугаваньне і кіраўніцтва даведачнымі сталамі пры хатах-чытальнях.

У адносінах далейшай работы Зьездам дадзены наступныя дырэктывы: захаваньне Цэнтральнага Прэзыдыуму ў якасьці кіраўнічага органу; узмацненьне інструктаваньня ім месц шляхам выезду членаў Прэзыдыуму на месцы; узмацненьне барацьбы з парушальнікамі этыкі з боку абаронцаў; узмацненьне тэмпу беларусізацыі Калегіі і работы па абслугоўваньню юрыдычнай дапамогай нацменшасьцяй; узбуджэньне пытаньня аб уваходзе членаў Калегіі Абаронцай у прафсаюзы.

Па дакладу т. Эднэрала, Зьезд прызнаў упаўне правільнымі і мэтазгоднымі прынятыя НКЮ меры, накіраваныя ў бок пашырэньня грамадзкіх функцый Калегіі ў сэнсе поўнага ахапленьня працоўных мас гораду і вёскі ўсімі відамі юрыдычнай дапамогі. Узаемаадносіны НКЮ і яго органаў з Калегіяй Абаронцаў прызнаны працякаючымі ў адмасфэры ўзаемнага давер'я, дапамагаючага ўзмацненьню аўтарытэту забароны і пашырэньню кругу яе грамадзкай работы. Побач з гэтым Зьезд адзначыў, што ў паасобных выпадках з боку членаў Калегіі Абаронцаў, а таксама судовых працаўнікоў нізавой сеткі заўважана не ўпаўне правільнае

ўяўленьне дырэктыў Н.К.Ю. і Цэнтральнага Прэзыдыуму па пытаньню аб грамадзкай ролі абароны ў сыстэме органаў савецкай юстыцыі; у мэтах зьнішчэньня падобных зьявішчаў Зьезд прызнаў неабходнай папярэднюю сумесную прапрацоўку Аддзелам Судабудаўніцтва з Прэзыдыумам Усебеларускага аб'яднаньня калегіі абаронцаў мерапрыемстваў, высоўваемых у адносінах абароны.

## В юридической секции научного общества белорусского государственного университета.

20-го января состоялось заседание правовой секции научного общества Белорусского Государственного Университета, на котором юрисконсульт Особой Коллегии Высшего Контроля т. Вишневский прочитал доклад на тему „Развитие русского водного законодательства и основные положения проэкта водно-мелиоративного кодекса БССР“.

Докладчик сообщил, что еще в 70-х годах в русской литературе поднят был вопрос о необходимости обращения болот путем осушки в сельско-хозяйственные угодия в виду недостатка сенокосов у крестьян. Для осуществления мелиорации было признано необходимым издать закон о проведении канав через чужие земли. Только в 1902 г. был издан такой закон. Однако пользоваться им могла казна и помещики, но не крестьяне в виду того, что он не предусматривал возможности кооперирования мелких землевладельцев путем образования мелиоративных товариществ.

Затем когда в 90-х годах работы земств выявили упадок водного хозяйства в стране, научная экспедиция, образования в 1894 г. для изучения состояния главнейших рек Европейской России, пришла к выводу о необходимости издания общего водного закона в целях регулирования водного хозяйства. Указания экспедиции, однако, выполнены не были.

В дореволюционном законодательстве законы о водах были разбросаны по различным уставам 12 томов свода законов в соответствии с действовавшим тогда функциональным принципом построения законодательства и правительственных учреждений.

Октябрьская революция дала прежде всего разрешение земельного вопроса. Тем не менее уже в основном Законе о социализации земли, изданном 19-го февраля 1918 года, имеется указание в ст. 5 о том, что порядок пользования водами будет определен особым законом.

У нас в БССР вслед за ее образованием в 1919 г. сразу же проводится в Конституции принцип национализации вод, подтвержденный затем 2-м Всебелорусским С'ездом Советов в резолюции его от 17-го декабря 1920 г. по аграрному вопросу. Управление всеми без исключения водами в республике С'езд передал земельным органам.

Перечислив затем, какие законы в области водного права были у нас созданы за истекшие годы, докладчик подчеркнул, что развитие водного хозяйства вызвало в последнее время усиленное использование природных свойств воды, причем, так как один и тот же водоем может служить для удовлетворения разнообразных потребностей транспорта, промышленности, торговли, сельского и домашнего хозяйства, то в действительности происходит иногда столкновение интересов различных водопользователей. Для увязки этих интересов, для регулирования водного хозяйства и содержания водоемов в исправности необходимо издание общего водного закона.

Необходимость эта выявилась не только у нас, но и в союзных республиках. В РСФСР, УССР и ЗСФСР идет разработка водного кодекса. У нас проект водно-мели-

оративного кодекса представлен на рассмотрение IV сессии Центрального Исполнительного Комитета VII созыва.

В основу проекта положены следующие принципы: а) национализация вод, б) признание, что воды могут быть об'ектом только пользования, в) признание, что совокупность всех вод в республике составит единое водное хозяйство и г) классификация вод.

Поскольку воды составляют государственную собственность, они из'яты из гражданского оборота.

Об'ем пользования водами не одинаков. Наиболее полным будет такое, когда основной водопользователь может устранить от пользования данным водоемом других лиц. В частном пользовании находятся колодцы, пруды, криницы и другие незначительные водоемы, целиком входящие в пределы данного хозяйства как в городе, так и вне его. Остальные водоемы состоят в общем пользовании всего населения. В водоемах этих государство предоставляет иногда отдельным лицам право на определенный вид водопользования. Таким образом получается частное, общее и особое пользование водами.

Признание, что совокупность вод в республике составляет единое водное хозяйство, ставит на очередь вопрос о заведывании им. Проект кодекса в соответствии с постановлением 2-го Всебелорусского С'езда Советов передает общее управление водным хозяйством Народному Комиссариату Земледелия и образуемым при нем и его окружным органам водно-мелиоративным комитетам. На рассмотрение последних должны представляться все мелиоративные проекты, кем бы они не составлялись. Против этого, однако, возражают другие ведомства, находя что означенный принцип не согласован с действующим союзным законодательством.

Приведенная в проекте кодекса правовая классификация вод является не обоснованной.

Прочитанный доклад вызвал много вопросов и оживленные прения, причем были подвергнуты критике, как некоторые принципиальные вопросы, так и отдельные статьи кодекса. Между прочим, было указано на неправильное соединение 2-х отдельных кодексов водного и мелиоративного под одним несоответствующим содержанию заглавием водно-мелиоративный, на необходимость упростить водно-мелиоративный процесс и т. п.

## У Бюро Юрысконсультаў.

2-га лютага гэтага году адбылося пасяджэньне Бюро Юрысконсультаў дзяржпрамысловасьці пры ВСНГ БССР, на якім былі заслуханы 2 даклады: 1) аб фондзе палепшаньня быту рабочых і служачых дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў і 2) аб адказнасьці дзяржорганаў згодна парукі па рабочаму крэдыту.

У сваім дакладзе першы дакладчык тов. Левін пастунова праводзіў асноўную думку аб тым, што фонд палепшаньня быту, як частка яго (75 проц.), вызначаная для жыльлёвага рабочага будаўніцтва, таксамаж і астатняя частка зьяўляецца спэцыяльным капіталам трэсту рэспубліканскага значэньня і якім ён можа распараджацца па свайму пагляду па ўзгадненьні з адпаведным прафсаюзам (пр. ВСНГ БССР за 9 IV—1924 г. № 258). З гэтай прычыны зьяўляецца няправільным, што адлічэньні для жыльлёвага будаўніцтва залічваюць у агульны фонд Камунальнага банку і што распараджаецца фондам Камітэт дапамогі рабочаму будаўніцтву. Найбольш мэтазгаднай формай скарыстаньня гэтых адлічэньняў дакладчык лічыць уласнае будаўніцтва трэстаў рабочых кватэр і эксплёатацыю іх адпаведна мясцовых умоў. Для пашырэньня форм эксплёатацыі названых будынкаў неабходна, згодна думкі дакладчыка,

у законадаўчых парадку даць жылбудаўнічай коопэрацыі набываць, жыларэнднай-жа-арандаваць будынкі, якія пабудованы за кошт названага фонду.

Дакладчык адзначае, што напрамак ВСНГ БССР і ЦСПСБ не зьяўляецца зусім ясным і некаторыя загады ВСНГ БССР ня зусім адпавядаюць агульнасаюзнаму палажэньню аб фондзе, бо з іх магчыма зрабіць вынікі аб тым, што гэты фонд ёсьць агульны фонд прамысловасьці, а не спэцыяльны фонд паасобных трэстаў, таксама-ж і роля Беларускага Камітэту дапамогі жыльлёваму будаўніцтву надта шырокая.

У срэчках па дакладу выявілася агульная думка ўсіх прысутных аб тым, што фонд палепшаньня быту зьяўляецца капіталам, каторы мае спэцыяльныя мэты, які прымацован да адпаведнага трэсту і выдаецца згодна адпаведных інструкцый і правіл.

Другі дакладчык тав. Залескі высьветліў, што парука дзяржорганаў па рабочаму крэдыту зьяўляецца беспадстаўнай, калі асноўным даўжніком па абавязнасьці перад крэдытуючым органам зьяўляецца Мясцком адміністрацыя-ж даручыцелем, дык абавязнасьць Мясцкому ня мае юрыдычнае моцы (паводле абежніку НКЮ РСФСР і УЦСПС № 83, Мясцкомы не зьяўляюцца юрыдычнымі асобамі), і значыцца парука ёсьць несапраўдная (249-а Г. К.). Далей, у БССР дзейнічае форма абавязкаў кіраўнікоў дзяржорганаў, якія існуюць на падставе бюджэту і вэксалёў дзяржаўных трэстаў; першая форма таксама ня мае сілы, як не адпаведная да бюджэту; вэксэлі-ж у гэтым выпадку зьяўляюцца фармальнымі абавязнасьцямі, але-ж угоды, з каторых яны выцякаюць, пярэчаць статутам гэтых трэстаў.

Практыка ВС і БАК РСФСР і ЗСФСР паказвае, што выдача парукі зьяўляецца толькі абавязкам дзяржоргану фактычнага спагнаньня сум з сваіх супрацоўнікаў і перадачы крэдытуючаму органу у выпадку-ж сьмерці працаўніка або адыходу ад пасады, усе абавязкі дзяржорганаў спыняюцца.

Дакладчык робіць наступныя вынікі: вышэйпамянёная практыка ВС і АК грунтуецца на законе і ніякі від крэдытаваньня рабочых і служачых ня можа быць прадметам парукі дзяржорганаў.

У выніку спрэчак выявілася неабходнасьць удакладненьня палажэньня аб крэдытаваньні і парукі адпаведна патрабаваньням жыцьця.

## У Габінэце па вывучэньню злачынства і злачынца.

У сучасны момант вядзецца работа па даабсталяваньню Габінэту. У хуткім часе закончыцца пабудаваньне рэфлексолёгічнай Лябараторыі.

Габінэтам прыступлена да масавага абсьледваньня асуджаных за хуліганства і забойства (176, 142—149, 76 і 184 арт. КК). Абсьледваньне гэта павінна ахапіць усю БССР, прычым крымінальна-соцыялёгічную частку яго дапушчана ў акругах правесьці праз Вучэбна-Выхаваўчыя часткі Справіцельных Дамоў, а ў Менску—сіламі студэнтаў і юрыстаў, якія працуюць пры Габінэце.

У Менску абследваньне ўжо праводзіцца і, мяркуючы па ўжо атрыманых даных, анкеты гэтага абследваньня будуць прадстаўляць багаты і каштоўны матар'ял для навуковай распрацоўкі, праграма якой ужо таксама распрацавана Габінэтам.

Неабходна адзначыць жывы ўдзел у рабоце Габінэту і пастаянную дапамогу з боку Крымінальнага Вышуку і Вучэбна-Выхаваўчай часткі Менскага Цэнтральнага Справіцельнага Дому. Крымінальным Вушукам дасланы каштоўныя калекцыі фатаграфічных здымак

найбольш выдатнейшых правапарушнікаў.

Бібліатэка Габінэту папаўняецца новаю літаратураю: выпісана цэлы шэраг замежных часопісаў і манаграфій, частка якіх ужо атрымана.

# У САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІКАХ.

## Украінская ССР.

### Адміністрацыйны Кодэкс.

Чацьвертая сэсія IX склікаRня Ўсеўкраінскага Выканаўчага Камітэту, якая адбылася ў лістападзе 1926 году, разглядала ўнесены ўрадам проэкт „Адміністрацыйнага Кодэксу“ і даручыла ўраду зацьвердзіць гэты кодэкс, абвясьціць і ўнесьці на канчатковае зацьверджаньне наступнай сэсіі.

Гэты Кодэкс не зьяўляецца новым законам, а зьмяшчае ўсе існуючыя законы ў галіне адміністрацыйнага права. Першапачаткова ён быў унесен у СНК у 24 годзе, пасьля чаго ў яго ўнесены адпаведныя законы, якія вышлі ў 24—26 гадох. Гэты кодэкс мае практычныя мэты аб‘яднаць у адным кодэксе ўсе законы ў галіне адміністрацыйнага праца і тым даць магчымасьць усім працаўніком лягчэй азнаямляцца з гэтымі законамі і зрабіць іх для прыстасаваньня.

У склад гэтага адміністрацыйнага кодэксу ўваходзіць законадаўства, якое датычыць дзейнасьці адміністрацыйных органаў, як выданьне абавязковых пастаноў, асабовае затрыманьне, вобыскі, выняткі, ужываньне зброі, узысканьне грошай у адміністрацыйным парадку, рэквізіцыі, конфіскацыі; апроч таго ў кодэкс ўваходзяць законы аб працоўнай павіннасьці пры стыхійных няшчасьцях і іншыя натуральныя павіннасьці як абавязак ўтрымоўваць дворнікаў, начной варты, павіннасьць быць сельскім выканаўцам: законадаўства аб парадку карыстаньня дзяржаўнай пячаткай і ўжываць сьцяг УССР, аб вучоце насельніцтва, аб парадку набыцьця грамадзянства УССР і выхаду з яго, аб вобчаствах і саюзах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, аб адлучэньні царквы ад дзяржавы, аб надзвычайных мерах аховы рэвалюцыйнага парадку, аб адміністрацыйным наглядзе ў галіне прамысловасьці і гандлю, аб наглядзе за паліграфічнымі прадпрыемствамі, за вытворчасьцю паляўнічай зброяй і выбуховымі матар‘яламі прыватнымі прадпрыемствамі і аб парадку абскарджаньня дзеяньняў мясцовых органаў улады. Сэсія Ўсеукраінскага ЦВК прызнала неабходным уключыць у кодэкс закон аб барацьбе з сацыяльным паразытызмам.

Гэты кодэкс зьяўляецца першым адміністрацыйным кодэксам у законадаўстве саюзных рэспублік.

## Туркмэністанская ССР.

### Пытаньні быту на 3 сэсіі Ц.В.К.

Пастановы трэцяй сэсіі ЦВК ТуркССР па дакладу аб пытаньнях быту прадстаўляюць аграмадную цікавасьць.

Гэтыя пастановы разьбіваюцца на чатыры рубрыкі: аб многажонстве, аб шлюбным узросьце, аб разлуцы сярод карэннага насельніцтва і аб калыме.

Сэсія канстатавала, што ў Туркмэніі да апошняга часу захаваліся яшчэ старыя формы шлюбных адносін, якія зьмяншаюць вольнасьць і зьневажаюць асабістую вартасьць жанчыны, што асабліва праяўляецца ў многажонстве, зьвязаным з купляй і продажам жанчыны. Сэсія канстатавала, што многажонства зьяўляецца прывілеяй выключна заможных кляс—кулацкіх і байскіх элемэнтаў, што многажонства шырока стымуліруе разь-

віцьцё каліму. На падставе ўсяго гэтага трэцяя Сэсія ТуркССР. пастанавіла: забараніць з дню апублікаваньня гэтай пастановы новае многажонства, г. зн. ўступленьне ў шлюб жанатым асобам карэннага насяленьня.

У стасунку шлюбнага ўзросту III Сэсія ЦВК ТуркССР забараніла заручэньне і ўступленьне ў шлюб асобам карэннага насельніцтва жаночага полу да 16 гадовага ўзросту і мужчынскага да 10 гадовага ўзросту. Разам з тым у гэтай-жа сваёй пастанове трэцяя Сэсія ЦВК ТуркССР дала права кожнай асобе — дзяўчыне, юнаку, незалежна ад заручэньня іх бацькамі або родзічамі, па дасягненьні імі шлюбнага ўзросту адмаўляцца ад жаніцьбы або выхад замуж, которыя гэтым заручэньнем прызначаны.

У стасунку разводу карэннага насельніцтва трэцяя сэсія ЦВК ТуркССР, прымаючы пад увагу, што патрабаваньні аб разлуцы ў шмат якіх выпадках ня маюць падстаў і тлумачацца цемрай і неадукаванасьцю жанчын карэннага насельніцтва і што ва ўмовах Туркмэніі факт разлукі цягне за сабою няўхільнае разбурэньне гаспадаркі, — пастанавіла ўвесьці ў Крымінальны Кодэкс новыя артыкулы аб тым, што справа аб разлуцы сярод мясцовага карэннага насельніцтва разглядаецца выключна ў судовым парадку і што прынука да разлукі замужняй жанчыны карэннага насельніцтва, з асабістых відаў яе бацькоў, родзічаў або пабочных асоб, цягне за сабою, пазбаўленьне волі да трох год, і што ў такіх выпадках разлука не дапускаецца.

Па пытаньню аб калыме трэцяя сэсія ЦВК ТуркССР канстатавала, што калым зьяўляецца найгрубшым парушэньнем вольнасьці жанчыны, уводзіць яе на прадмет куплі і продажу, адхіляе асабістае жаданьне, жаданьне саміх шлюбных у стварэньні ўласнай сям'і, утварае адносіны мужа і жонкі, як да сваей уласнасьці, і дзеля гэтага трэцяя Сэсія ЦВК ТуркССР пастанавіла, у мэтах скасаваньня гэтых зьявішч і абарона Туркмэнскай жанчыны і забеьспячэньня яе асабістай вольнасьці, атрыманьне калыму прызнаць не заснованым на законе абагачэньнем на аснове іншай асобы і ў адпаведнасьці з гэтым даць права асобам, якія заплацілі калым, падаваць іск аб яго ўзваротным атрыманьні.

## Запытаньні і адказы.

ЗАПЫТАНЬНЕ. Ці мае права жонка памоцніка Пракурора займаць пасаду сэкратара народнага суду, які знаходзіцца ў вучастку гэтага пам. пракурора?

АДКАЗ. Пастанова СНК за 21/XII—22 г. аб служба ў дзяржаўных установах (З.З. 23 г. № 1, арт. 8) забараняе быць на дзяржаўнай службе асобам, якія знаходзяцца ў блізкім сваяцтве, у тым ліку жонцы і мужу, у аднэй установе або прадпрыемстве і ў выпадках, калі сумесная іх служба зьвязана з падпарадкаваньнем, або падкантрольнасьцю аднаго з іх другому. Паводле гэтага няма законнае забароны займаць пасаду сэкратара нарсуду жонцы пам. пракурора, хоць бы нарсуд знаходзіўся ў вучастку гэтага пам. пракурора, аднак, у выпадках, калі гэты пам. пракурора бярэ ўдзел у судзе па крымінальнай справе, яго жонка ня можа быць у гэтым пасяджаньні сэкратаром на падставе арт. арт. 43 і 48 Крымінальнага Процэсуальнага Кодэксу.

# Частка афіцыйная.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў

АБ ЗАБАРОНЕ РАЁННЫМ ВЫКАНАЎЧЫМ КАМІТЭТАМ, МЕСТАЧКОВЫМ І СЕЛЬСКІМ САВЕТАМ ПРЫЙМАЦЬ ДЛЯ ЗАСЬВЕДЧАНЬНЯ ЗЬДЗЕЛАК, ДАГАВОРАЎ І ДАКУМЭНТАЎ АБО ПОДПІСАЎ НА ІХ, ЯКІЯ ПАДЛЯГАЮЦЬ ЗАСЬВЕДЧАНЬНЮ Ў НАТАРЫЯЛЬНЫХ КАНТОРАХ.

*Усім Акруговым Выканаўчым Камітэтам і Акруговым Судом.*

Копіі: Акруговым Пракурорам, Народным Судзьдзям, Натарыяльным Канторам, Раённым Выканаўным Камітэтам, местачковым і сельскім саветам.

Пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 5 сакавіка 1926 г., апублікаванай ў З. З. і З. Ураду № 12—1926 г., арт. 45, на Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы, якія знаходзяцца ў мясцовасьцях, у якіх няма натарыяльных кантор, ускладзена частковае выкананьне натарыяльных дзеяньняў.

А. На сельскія і местачковыя саветы ўскладаецца:

1. Засьведчаньне даверанасьцяй, якія выдаюцца:

а) на атрыманьне грашовае і пасылачнае корэспондэнцыі:

б) на вядзеньне спраў у судовых і ў іншых урадавых ўстановах працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі (а таксама пачатковымі коопэратывамі) вытворчымі, спажывецкімі, крэдытнымі і г. д.) і сялянскімі камітэтамі ўзаемадапамогі;

в) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі дагавораў працоўнае арэнды зямлі;

г) на заключэньне працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі дагавораў арэнды дзяржаўнае зямельнае маемасьці;

д) на падпісаньне абавязнасьцяй пры куплі працоўнымі землякарыстальнікамі і іх аб'яднаньнямі ў розьніцу, выплатаю ратамі сельска-гаспадарчых машын і прылад;

2. Пасьведчаньне асобы атрымальнікаў паштовае корэспондэнцыі і засьведчаньне подпісаў на заявах, павестках і на іншых дакумэнтах, якія маюць характар зьдзелак.

3. Засьведчаньне копій дакумэнтаў, калі самыя дакумэнты засьведчаны дзяржаўнымі ўстановамі або выдаюцца імі.

Арт. 2. Вышэйзазначаныя засьведчаньні за выняткам памянёных пад літ. „а“ у п. 1, арт. 1 гэтае пастановы, робяцца сельскімі або местачковымі саветамі толькі ў тым выпадку, калі ў гарадох і ў пасяленьнях, дае гэтыя саветы знаходзяцца, няма натарыяльных кантор.

Б. На Раённыя Выканаўчыя Камітэты ўскладаецца засьведчаньне зьдзелак у выпадках, спэцыяльна зазначаных у законе, як: зьдзелак па дзяржаўнай насеннай пазычцы, якія заключаюцца беспасрэдна з насяленьнем (увага 2 да арт. 137 Грам. Код.), дагавораў аб працоўнай арэндзе зямлі (арт. 31 і 32 Зям. Код.).

Ня гледзячы на гэткае бязумоўнае паказаньне закону, усё-ж з паступаючых з месц матар‘ялаў відаць, што шмат якія Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы прыймаюць да пасьведчаньня зьдзелкі і дагаворы ў тых выпадках, калі гэтакія па закону ўскладаюцца на натарыяльныя канторы, або нават сьведчаць подпісы на актах—дагаворах аб продажы жылых будынкаў. Тады-як, паводле арт. 185 Грам. Кодэксу, купля-продаж будынкаў і права забудоўкі пад страхам несапраўднасьці прадугледжанай арт. 29 Грам. Код., павінна быць учынена толькі ў натарыяльных канторах з наступнай рэгістрацыяй ў адпаведным камунальным Аддзеле.

Таксама Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы няправільна засьвядчаюць подпісы на ўсякага роду дакумэнтах, маючых характар зьдзелак, тады-як РВК зусім не павінны засьвядчаць сапраўднасьць подпісаў на заявах і другіх якіх-небудзь дакумэнтах, а сельскія і местачковыя саветы могуць сьведчыць сапраўднасьць подпісаў толькі на заявах, позвах і другіх дакумэнтах, ня маючых характару зьдзелак.

Дзеля гэтага Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Ўнутраных Спраў прапануюць паказаць Раённым Выканаўчым Камітэтам, сельскім і местачковым саветам, што гэтыя дзеяньні не ўваходзяць у круг іх абавязкаў пры выкананьні імі некаторых натарыяльных дзеяньняў, і што сельскія і местачковыя саветы абавязаны прымаць да засьведчаньня толькі дакумэнты, паказаныя ў арт. 1 вышэй паказанай пастановы ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1926 г., а Раённыя Выканаўчыя Камітэты сьведчаць зьдзелкі, якія зазначаны ў арт. 3 гэтай пастановы.

Пры выкананьні натарыяльных дзеяньняў, Раённыя Выканаўчыя Камітэты, местачковыя і сельскія саветы павінны строга і няўхільна захоўваць вымаганьні, якія ўстаноўлены пастановай ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1926 г., а пры не захаваньні гэтых вымаганьняў, вінаватыя службовыя асобы будуць прыцягнуты да адказнасьці, у залежнасьці ад акалічнасьцяй, па арт. арт. 105 або 108 Крымінальнага Кодэксу.

Разам з гэтым, прымаючы пад увагу не падрыхтаванасьць Раённых Выканаўчых Камітэтаў, сельскіх і местачковых саветаў да выкананьня натарыяльных дзеяньняў, апошнія павінны зварочвацца за растлумачэньнем па няясных і па малазразумелых для іх пытаньнях, якія ўзьнікаюць пры выкананьні натарыянальных дзеяньняў, да таго натарыусу або народнага судзьдзі, які знаходзіцца бліжэй, або да якога больш выгадна зварочвацца ў кожным паасобным выпадку.

Натарыусы і Народныя Судзьдзі абавязаны даваць зварочваючымся да іх службовым асобам РВК і Сельсаветаў дапамогу пры разьвязаньні паасобных пытаньняў, якія ўзьнікаюць у іх натарыяльнай практыцы.

Апрача гэтага, натарыусы, адначасна пры службовых выездах у раёны і Народныя Судзьдзі без асобных упаўнаважаньняў, а толькі па прад‘яўленьні сваіх службовых пасьведчаньняў, павінны праводзіць

абсьледаваньне і інструктаваньне РВК і Сельсаветаў, выконваючых натарыяльныя дзеяньні ў парадку пастановы ЦВК і СНК за 5 сакавіка 1926 г. і інструкцыі па дапасаваньню гэтай пастановы (З. З. Б. № 12, арт. 45 і Бюл. СНК № 7 (16)—26 г. Аб усіх парушэньнях, якія будуць выяўлены, павінны быць коратка выкладзены ў акце рэвізіі кіраўнічыя паказаньні і растлумачэньні, пры чым першы экзэмпляр акту павінен захоўвацца ў абрэвізаваным РВК або Сельсавеце, а другі прадстаўлен, у сямідзённы тэрмін, які лічыцца з дню абсьледаваньня, у адпаведны Акруговы Суд дзеля праверкі правільнасьці таго, што было растлумачана РВК, местачковым і сельскім саветам у часьці, якая датыкаецца натарыяльных дзеяньняў.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Е. Кроль.*

Член Калегіі НКЮ *С. Эднэрал.*

НКЮ № 3 за 12 студзеня 1927 г.
НКУС № 14825 за 16 сьнежня 1926 г.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

Аб аплаце гэрбавым зборам абавязнасьцяў грамадзян на імя НКЗС аб дазволу ўезду з заграніцы родзічам іх у БССР.

*Усім Акруговым Судом і Натарыяльным Канторам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі, па згаджэньню з Народным Камісарыятам Грашовых Спраў, растлумачвае Натарыяльным Канторам, што абавязнасьці грамадзян узяць на ўтрыманьне сваіх родзічаў па прыезьдзе іх з заграніцы ў БССР, якія выдаюцца на імя ўпаўнаважанага НКЗС, хоць і прадстаўляюць сабою аднабокія абавязнасьці, але аплачваюць іх гэрбавым і натарыяльным зборам як дагаворы на неазначальную суму нельга, бо па прыродзе сваей яны зьяўляюцца ні чым іншым як падпіскамі, выданымі паасобнымі грамадзянамі ўрадавай ўстановай аб тым, што выпісаныя з заграніцы родзічы іх ня будуць зварочвацца за сацыяльнай дапамогай да дзяржавы.

Абавязнасьці (падпіскі) павінны аплачвацца гэрбавым зборам, паводле літары „а“ пункту 17, № 40 падрабязнага пераліку гэрбавага статуту, у 1 р. 65 к., а ў адносінах аплаты іх натарыяльным зборам, яны падыходзяць пад пункт „а“ арт. 13 таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў, і павінны аплачвацца натарыяльным зборам у разьмеры 5 рублёў.

Гэтакія абавязнасьці (падпіскі) не падлягаюць дадатковай аплаце гэрбавым і натарыяльным зборамі.

Распараджэньні, якія былі дадзены да гэтага часу па натарыяту (10 кастрычніка і 9 сьнежня 1925 г. №№ 1163 і 1226) з выданьнем цяперашняга абежніку скасоўваюцца.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *М. Сегаль.*

Член Калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

12 студзеня 1927 г.
№ 4.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

аб парадку натарыяльнага пасьведчаньня зьдзелак, якія датыкаюцца маемасьці польскіх грамадзян.

*Усім акруговым судом, натарыяльным канторам і народным судзьдзям, якія выконваюць натарыяльныя дзеяньні.*

Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім Натарыяльным Канторам і Народным Судзьдзям, якія выконваюць натарыяльныя дзеяньні, у выпадку паданьня для натарыяльнага засьведчаньня зьдзелак, якія датыкаюцца маемасьці грамадзян Польскай Рэспублікі, якою яны ўладалі да 18 сакавіка 1921 г. праўдажаюць уладаць, пасьвядчаць гэтакія зьдзелкі ў натарыяльным парадку толькі пры ўмове прадстаўленьня па кожнай зьдзелцы пасьведчаньня НКЮ БССР аб тым, што з боку Ураду няма супярэчаньняў да ўчыненьня зьдзелкі.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Член Калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

24 студзеня 1927 г.
№ 5.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

аб пасылцы ў Управу Упаўнаважанага Народнага Каісарыяту па Замежных Справах пры Урадзе БССР копій прыгавораў і рашэньняў па ўсіх справах, у каторых у якасьці стараны выступаюць чужаземныя грамадзяне, або чужаземныя юрыдычныя асобы.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

У сваёй працы на перамаўленьнях аб устанаўленьні тых або іншых праўных і эканамічных ўзаемаадносін з чужаземнымі дзяржавамі і паасобнымі чужаземнымі арганізацыямі Народны Камісарыят Замежных Спраў адчувае неабходнасьць мець у сваім распараджэньні матар'ялы аб адпраўленьні нашага правасудзьдзя адносна чужаземных грамадзян.

З прычыны вышэйпамянёнага Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

Пачынаючы з 5-га лютага 1927 году падаваць штомесячна, кожнага 5-га чысла, у Управу Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту па Замежных Справах пры Урадзе БССР (г. Менск) копіі, уступіўшых у законную сілу прыгавораў і рашэньняў, па ўсіх крымі-

нальных і грамадзянскіх справах, разгледжаных у пэрыяд часу з 1927 г., у каторых у якасьці стараны выступалі чужаземныя грамадзяне або чужаземныя юрыдычныя асобы.

Выкананьне гэтага абежніку ўскласьці пад асабістую адказнасьць Старшынь Акрсудоў і Народных Судзьдзяў.

Народны Камісар Юстыцыі і
Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Член Калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

25 студзеня 1927 г.
№ 6.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі

АБ ПАРАДКУ ВЫНЯСЕНЬНЯ ПАСТАНОЎ АБ СПАГНАНЬНІ ГЭРБАВАГА ЗБОРУ І ШТРАФУ І АБ ХАРАКТАРЫ АДКАЗНАСЬЦІ ПРЫВАТНЫХ АСОБ ЗА ГЭРБАВЫЯ ПАРУШЭНЬНІ.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

На запытаньне Віцебскага Акруговага Суду аб тым, у якім парадку павінны выносіцца пастановы аб спагнаньні гэрбавага збору і штрафу, згодна арт. 21 гэрбавага статуту і арт. 147 ГПК,—Нарсудзьдзёй *самотна* або ў складзе з двумя Народнымі Засядацелямі, а таксама аб тым, якой адказнасьці падлягаюць прыватныя асобы за парушэньні правілаў аб гэрбавым зборы *далявой* ці згоднай (салідарнай), Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае наступнае:

1. ГПК ня ведае ва ўсіх выпадках строгага разьмежаваньня паняцьцяў „Народны Судзьдзя“ і „Народны Суд“, што напрыклад, магчыма бачыць з параўнаньня артыкулаў 86 і 91 ГПК, а таксама—з артыкулаў 31, 48, 66, 81 і іншых таго-ж кодэксу, у якіх гэтыя паняцьці не адрозьніваюцца.

Дзеля гэтага паказаньне арт. 147 ГПК аб тым, што пастановы аб спагнаньні гэрбавага збору і штрафу пастанаўляюцца судом, яшчэ не дае права лічыць, што гэтыя пастановы абавязкова павінны выносіцца Народным судзьдзёй у складзе з двумя Народнымі Засядацелямі і ня могуць быць вынесены ім самотна.

Па дакладнаму сэнсу арт. 147 ГПК, азначэньне аб спагнаньні гэрбавага збору і штрафу павінны пастанаўляцца судом зараз-жа пасьля прадстаўленьня дакумэнтаў, пры чым, згодна ўвагі да гэтага артыкулу, дакумэнты, якія не аплачаны гэрбавым зборам, не падлягаюць звароту, пакуль яны ня будуць аплачаны гэрбавым зборам, што не магчыма было-б выканаць у некаторых выпадках, як напрыклад, пры прыёме іскавых заяў, або пры звароце дакумэнтаў, якія ня былі аплачаны гэрбавым зборам па заяве стараны да разьвязаньня справы ў судовым пасяджэньні, каб права вынясеньня пастаноў па гэрбавым парушэньні ня было-б дадзена аднаму Нарсудзьдзі, бяз удзелу Народных Засядацеляў.

Апроч таго, паводле арт. арт. 21 і 22 ГПК, Народны Суд разгледжвае справы як у складзе аднаго судзьдзі, так і ў складзе Народнага судзьдзі і Народных Засядацеляў, і каб арт. 147 ГПК разумець

у тым сэнсе, што азначэньні па гэрбавых парушэньнях павінны выносіцца ў поўным складзе Народнага Суду (Народнага Судзьдзі і двух Народных Засядателяў), то выкананьне патрабаваньня арт. 147 ГПК аб вынясеньні азначэньняў па гэрбавых парушэньнях зусім зьявілася-б не магчымым пры разгледжаньні спраў, якія прадугледжаны арт. 22 ГПК, і якія разглядаюцца Нарсудзьдзёй самотна.

З прычыны ўсяго вышэйпамянёнага трэба прыйсьці да вываду, што пастановы суду аб спагнаньні гэрбавага збору і штрафу паводле арт. 21 Гэрбавага Статуту і арт. 147 ГПК могуць выносіцца, як Нарсудзьдзёй самотна так і ў складзе з Народнымі Засядателямі ў залежнасьці ад таго, у якой стадыі працэсу былі прадстаўлены дакумэнты і заўважаны гэрбавыя парушэньні, або ў якім парадку разглядаецца справа, да якой прадстаўлены дакумэнт належыць.

2. Што-ж датычыцца да пытаньня аб тым, якой адказнасьці падлягаюць прыватныя асобы за парушеньне правілаў аб гэрбавым зборы далявой ці згоднай (салідарнай), то на гэта пытаньне дакладна адказваюць артыкул 16 Статуту аб Гэрбавым зборы і 39-ы інструкцыі аб ужываньні статуту аб гэрбавым зборы, паводле якіх адказнасьць прыватных асоб за паказаныя парушэньні прадугледжваецца не далявая, а згодная (салідарная), з прычыны чаго ў разалюцыйнай частцы пастановы, форма якое далучана да абежніку НКЮ за 27/28 верасьня 1926 г. № 118, трэба зьмяніць фармуляваньне, выключыўшы з яго пасьля слоў „спагнаць з .............. у прыбытак дзяржавы гэрбавага штрафу“ *) „па .......... кап. з кожнага“.

Народны Камісар Юстыцыі БССР
і Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Член Калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

25 студзеня 1927 г.
№ 1.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Цэнтральнага Дзяржаўнага Архіву БССР

аб парадку і тэрмінах перадачы архіўных матар‘ялаў судовых і іншых установаў Народнага Камісарыяту Юстыцыі Цэнтральнаму Архіву і яго аддзяленьням на мясцох.

*Усім Акрсудом і Акруговым Пракурорам.*

У разьвіцьцё § 6 пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 13 сьнежня 1922 г. (З. З. і Заг. БССР за 1922 г. №15, арт. 197) і ў зьмену інструкцыі Наркамюсту і Цэнтраархіву БССР за 25 сакавіка 1925 г. (Зб. Зак. і Заг. БССР № 21, 1925 г., арт. 202), Народны Камісарыят Юстыцыі і Цэнтральны Архіў БССР прапануюць усім судом і акруговым пракурорам:

1. Архіўныя матар‘ялы, акія маюцца ў органах НКЮ, як у цэнтры, так і на мясцох здаць органам цэнтраархіву ў наступныя тэрміны:

а) усе справы, якія былі скончаны да 1 студзеня 1921 г. здаць да 1-га мая 1927 г.;

б) усе скончаныя справы за час 1921-1923 г. г. здаць да 1-га студзеня 1928 г.;

в) справы, скончаныя ў 1924 г. і 1925 г. здаць да 1-га ліпеня 1929 году.;

г) усе скончаныя справы 1926 г. здаць да 1-га ліпеня 1930 г., скончаныя справы 1927 г. здаць да 1-га ліпеня 1931 г. і г. д., гэта значыць не пазьней 1-га ліпеня чацьвертага году ад часу скончаньня спраў.

2. Архіўныя справы належыць здаваць цалкам за кожны год паасобна.

Здача спраў аднаго і таго-ж году па частках не дапушчаецца. Таксама не дапушчаецца здача архіўных спраў наступных гадоў, калі ня былі зданы тыя-ж справы папярэдніх гадоў.

3. Усе здаваемыя архіўныя справы павінны быць згуртаваны па іх адміністрацыйных адзінках і па гадох.

Усе паперы павінны быць ушыты ў папкі з надпісамі на папцы назвы ўстановы, зьместу справы, дзелаводнага № справы, № па здатачным сьпісу, калі была пачата справа і калі яна скончана.

4. Пры здачы спраў органам цэнтраархіву, на ўсе справы належыць скласьці здатачныя сьпісы ў 2-х экзэмпл., згодна прыкладаемай пры гэтай інструкцыі формы.

Як надпіс на папках спраў, так і тэкст сьпісу павінны быць складзены з захаваньнем афіцыйнай наменклатуры бяз усякіх скарачэньняў і зьмен.

Здатачныя сьпісы падпісваюцца загадчыкам установы, сэкратаром тэй-жа ўстановы і асобай, якая кіравала ўпарадкаваньнем архіўных спраў і здачай іх цэнтраархіву.

5. Архіўныя справы ўстаноў Народнага Камісарыяту Юстыцыі Цэнтральнага тыпу, як архівы Наркамату Юстыцыі, Найвышэйшага Суду, Сьледчых пры НКЮ і інш. перадаюцца на захову беспасрэдна ў архіва-сховы Цэнтральнага Архіву БССР (г. Менск), а архіўныя справы Акрсудоў, Акрпракаратуры, Нарсудоў, Нарсьледчых, вучастковых пампракурораў усіх акруг, у тым ліку і Менскай, перадаюцца адпаведным аддзяленьням Цэнтраархіву Акруговых Выканаўчых Камітэтаў на мясцох.

6. Архіўныя справы расфарміраванага Вышэйшага Суду Рэспублікі перадаюцца ў Цэнтральны Архіўны фонд БССР (г. Менск) тымі органамі Юстыцыі ў распараджэньні якіх знаходзяцца памянёныя справы.

7. Перадача і перавозка архіўных матар'ялаў, якія здаюцца органам Цэнтраархіву, праводзіцца сродкамі і за кошт тых органаў НКЮ, якія перадаюць памянёныя матар'ялы.

8. У выпадку знахаджэньня па якіх-небудзь прычынах у органах НКЮ архіўных матар'ялаў дарэвалюцыйных судова-сьледчых устаноў, органы Савецкай Юстыцыі паведамляюць аб гэтым бліжэйшаму ад месца хаваньня гэтых матар'ялаў аддзяленьню цэнтраархіву, якое прымае меры да перадачы памянёнага матар'ялу Цэнтраархіву.

9. Адказнасьць за запільнаваньне ўстаноўленых правіл у часьці ўпарадкаваньня, хаваньня, падрыхтоўкі, да здачы і за здачу архіўных матар'ялаў ускладаецца на кіраўнікоў адпаведных органаў Юстыцыі.

10. Згодна абежніку ЦВК БССР за 19 мая 1926 г. № 351.852 ўсе справы органаў Наркамюстыцыі, пачаўшы з 1924 г. павінны быць

прыведзены ў парадак, як гэта паказана ў правілах „постановки архивной части делопроизводства в государственных, профессиональных и кооперативных учреждениях и предприятиях“, якія правілы прыняты цэнтраархівам.

Апроч таго, пры здачы архіўных матар‘ялаў органам Цэнтраархіву, належыць дакладна прытрымоўвацца інструкцыі ЦВК БССР за 13 сьнежня 1922 г. (З. З. і Заг. БССР № 15, 1922 г., арт 197).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі

і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *Г. Нямытых.*

Загадч. Цэнтральнага Архіву БССР *Мялешка.*

Член Калегіі НКЮ БССР С. *Эднэрал*

25 студзеня 1927 г.
№ 7.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

аб вызваленьні ад гэрбавага збору пасьведчаньняў, якія выдаюцца дзяржаўнымі ўстановамі, на перавозку пасажыраў па чыгуначных ільготных тарыфах.

*Усім органам Юстыцыі.*

Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць да ведама і кіраваньня ніжэйнаступную пастанову Наркамфіну СССР за 17 сьнежня 1926 г. за № 37 аб вызваленьні ад гэрбавага збору пасьведчаньняў, якія выдаюцца дзяржаўнымі ўстановамі, на перавозку пасажыраў па чыгуначных ільготных тарыфах.

Народны Камісар Юстыцыі і
Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Член Калегіі НКЮ БССР *Эднэрал.*

31 студзеня 1927 г.
№ 9

## Постановление Наркомфина СССР

об освобождении от гербового сбора удостоверений на льготную перевозку пассажиров

На основании § 79 Перечня из‘ятий по гербовому сбору Наркомфин Союза ССР постановляет: освободить от гербового сбора выдаваемые государственными учреждениями удостоверения на перевозку пассажиров по железнодорожным льготным тарифам.

Зам. Наркомфин СССР *Фрумкин.*

Начальник Управления Гос. Налогами *Полюдов.*

17-го декабря 1926 г.
№ 37.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

АБ СПЫНЕНЬНІ САМАСТОЙНЫХ СПРАВАВЯДЗЕНЬНЯЎ ПА КАСАЦЫЙНЫХ СПРАВАХ І АБ СКАСАВАНЬНІ КАРТАК ПА ПАДЛІКУ КАСАЦЫЙНАГА МАТАР'ЯЛУ ЎСТАНОЎЛЕНЫХ ЦЫРКУЛЯРАМ НКЮ ЗА 15 МАЯ 1926 г. № 62.

*Усім Акрсудом.*

Практыка вядзеньня Акруговымі судамі самастойных касацыйных справавядзеньняў на працягу некалькіх гадоў выявіла, што гэты спосаб справавядзеньня ня толькі не выклікаецца неабходнасьцю, але нават, у вядомых адносінах, зьяўляецца нязручным, бо ён разьдзірае без здавальняючых асноў справавядзеньне па аднэй справе на дзьве часткі (справавядзеньне Акрсуду і справавядзеньне Нарсуду) і выклікае дарэмную трату часу і сродкаў на завядзеньне паказаных спраў. Апроч таго, скасаваньне самастойных касацыйных справавядзеньняў, пры ўмове захаваньня ў Акрсудзе належным парадкам засьведчаных копій пастаноў касацыйных калегій можа ў значнай меры палегчыць вядзеньне падліку касацыйнай практыкі, устаноўленае абежнікам НКЮ за 15 мая м. г. за № 62, адсунуўшы неабходнасьць запаўненьня даданых да гэтага абежніку спэцыяльных картак.

Аднак, скасаваньне самастойных справавядзеньняў толькі касацыйных інстанцый можа даць здавальняючыя вынікі пры ўмове найашчаднейшых і найакуратнейшых адносін Акрсудоў да захаваньня копій пастаноў касінстанцый, якія застаюцца ў Акрсудзе.

З прычыны вышэйпамянёнага Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць да выкананьня і кіраваньня ніжэйнаступнае:

1. Спыніць з 1-га студзеня 1927 г. завядзеньне паасобных касацыйных справавядзеньняў па касацыйных скаргах і пратэстах, як па крымінальных, так і па грамадзянскіх справах.

2. Касацыйныя скаргі або пратэсты і ўсе матар'ялы па справе, якія будуць паступаць у Акрсуд, а таксама і ўсе паперы, якія датычацца да судаводзтва, з арыгіналам азначэньня касацыйнай інстанцыі і копіі апошняга, надрукаванай на пішучай машынцы прылучаць з паказанага часу да справавядзеньня першай інстанцыі, на якім пры паступленьні яго ў Арсуд з касацыйнай скаргай або пратэстам азначаць № справавядзеньня касацыйнай інстанцыі па настольным рэестры.

3. Наадмен самастойных касацыйных справавядзеньняў, якія скасоўваюцца гэтым абежнікам, хаваць у Акрсудох па кожным касаддзяленьні, крымінальным і грамадзянскім і па кожным Нарсудзе паасобна, у парадку хронолёгічнай паступовасьці, па часу вынясеньня азначэньняў, старанна і чытальна перапісаныя (па магчымасьці 1-ыя экзэмпляры перапісаныя на пішучай машыне) копіі азначэньняў касацыйных інстанцый, правераныя і належным парадкам засьведчаныя сэкратарамі адпаведных Аддзелаў Акрсуду.

4. Паказаныя ў папярэднім пункце копіі азначэньняў каскалегій скарыстоўваюцца дзеля падліку і прапрацоўкі касацыйнага матар'ялу ў парадку абежнікаў НКЮ за 15 мая 1926 г., № 62, наадмен устаноўленых гэтым абежнікам картак, вядзеньне якіх з 1-га студзеня 1927 г. спыніць.

5. Скарыстаныя дзеля прапрацоўкі касацыйнага матар'ялу копіі пастаноў касінстанцый падкладваюцца, па кожным касаддзяленьні, крымінальным і грамадзянскім, паасобна ў адну агульную папку, або скрынку ў парадку №№ настольнага рээстру касінстанцыі, а потым у паасобныя папкі, на якіх учыняецца надпіс з паказаньнем: 1) найменьня касаддзяленьня Акрсуду і 2) году і №№ па настольных рээстрах захаваных азначэньняў касінстанцыі, у якім парадку гэтыя адзначэньні і хаваюцца ў далейшым у Акрсудзе.

6. На кожнай копіі пастановы касінстанцыі, захаванай у Акрсудзе, павінны быць паказаны: 1) № і год справавядзеньня па настольным рээстры касінстанцыі і 2) кароткая адзнака аб часе падліку пастановы пры распрацоўцы касацыйнага матар'ялу як, напрыклад, „1-ая чвэрць 1927 г.".

7. Непасрэднае нагляданьне за дакладным выкананьнем гэтага абежніку ўскласьці на загадчыкаў крымінальнага і грамадзянскага Аддзелаў.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі *М. Сегаль.*

Член Калегіі НКЮ *С. Эднэрал.*

5 лютага 1927 г.
№ 11.

## Абежнік Найвышэйшага Суду БССР.

Растлумачэньні па пытаньню ці падлягаюць іскі аб высяленьні з жылых памяшканьняў аплаце судовай пошліны.

Іскі аб высяленьні з жылых памяшканьняў асноўваюцца ці на заканчэньні дагавору найму памяшканьня ці на неабходнасьці датэрміновага скасаваньня дагавору на падставах, прадугледжаных артыкулам 171 ГК. Пагэтаму такія іскі, як маючыя ў сабе маемасны характар, падлягаюць пад дзеяньне п. „д" арт. 36 ГПК і, значыцца, як неяўляючыеся іскамі маемаснага характару (якія паводле арт. 35 ГПК ад абкладаньня судовымі пошлінамі звальняюцца) падлягаюць у сілу гэтага артыкулу аплаце судовай пошлінай.

Між тым, растлумачэньнем Пленуму Найвышэйшага Суду за 27 верасьня 1925 г. пратакол № 11, § 11 іскі па справах аб высяленьні ў выпадках, прадугледжаных пунктамі „в" і „д" арт. 171 ГК (калі наймальнік наўмысьля або па нядбайнасьці пагоршвае становішча маемасьці, калі наймальнік жыльлёвага памяшканьня сваім трыманьнем робіць дзеля другіх жыльцоў немажлівым сумеснае з ім жыцьцё ў пакоі або ў кватэры), калі сумесна з патрабаваньнем аб высяленьні няма патрабаваньня аб адплаце страт або іншых грашовых разрахункаў, якія прызнаны іскамі не маемаснага характару, ад аплаты судовай пошлінай вызвалены.

Практыка разгледжаньня спраў паісках або высяленьні паказвае, што шмат якія, як прыватныя домаўладальнікі, так і жылішчныя таварыствы падаюць іскі толькі аб высяленьні, жадаючы гэтым прадвырашыць і пытаньне аб самай кватэрнай плаце, а таксама і яе разьмерах, якое палажэньне бясспрэчна зьяўляецца сьвядомым абыходам п. „д" арт. 36 ГПК, бо падаваньне іскаў аб высяленьні з жылых памяшканьняў мае ў сваей падставе патрабаваць аб зьвярненьні знаходзячайся ў найме маемасьці і зьмяшчае ў сабе спыненьне сілы папярэдняга дагавору на гэту маемасьць і, такім чынам, такія іскі падлягаюць аплаце судовай пошлінай.

Па выкладзеных падставах лічу неабходным дзеля зьмены растлумачэньня Пленуму Найвышэйшага Суду за 27 верасьня 1925 г. пратакол № 11, § 11, растлумачыць усім судовым органам Рэспублікі ніжэйнаступнае:

1) Прымаючы пад увагу, што іск аб высяленьні асноўваецца або на падставе аканчэньня дагавору найму памяшканьня (або іншага права наймальніка на спрэчнае памяшканьне), або на неабходнасьці датэрміновага скасаваньня дагавораў на падставах, прадугледжаных арт. 171 Г. К., дзеля чаго такі іск нельга прызнаць за іск, як ня маючага маемаснага характару, бо ён мае на ўвазе ажыцьцяўленьне маемаснага права ісца—наймадальніка, а іменна—права карыстаньня і распараджэньня памяшканьнем, якое занята наймальнікам.

2) Дзеля гэтага іскі аб высяленьні падлягаюць аплаце судовай пошлінай на агульных падставах, паводле арт. 36 ГПК, пры чым, калі дагавор заключан на нявызначаны тэрмін, і цана іску ня можа быць азначана па іншых падставах (наёмная кватэрная плата, каштоўнасьць рамонту па дагавору, і г. д.), то ў такіх выпадках цана іску ўстанаўляецца наёмнай платай паводле арт. 155 ГК за 3 месяцы.

3) Што ў выпадку, калі іск аб высяленьні падае нездаючы ў наём памяшканьня (гаспадар дому, арандатар, адказны наймальнік), а іншыя зацікаўленыя асобы (напр. суседзі, у выпадку п. „д“ арт. 171 ГК і г. д.), то гэты іск, калі ён не зьмяшчае ў сабе патрабаваньняў страт або іншых грашовых разрахункаў, зьяўляецца іскам не маемаснага характару, бо распараджэньне аслабаняючымся пры высяленьні памяшканьнем да ісцоў не пераходзіць і такі іск паводле арт. 35 ГПК аплаце судовай пошлінай не падлягае.

Старшыня Найвышэйшага Суду БССР *Варашылаў*.

8 лютага 1927 г.
№ Ц. 37.

---

Узгоднены з Народным Камісарыятам Грашовых Спраў.
Народны Камісар Грашовых Спраў (подпіс).

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

АБ ПАРАДКУ РАЗГЛЕДЖВАНЬНЯ СПРАЎ АБ ПРЫЗНАНЬНІ ГР-Н НЯ МАЮЧЫМІ ДОСЫЦЬ СРОДКАЎ НА ВЫПЛАТУ ГЭРБАВАГА І ІНШЫХ ЗБОРАЎ ПА НЯСУДОВЫХ СПРАВАХ.

*Усім Агруговым і народным судом.*

У сувязі з апублікаваньнем пастановы ЦВК і СНК БССР за 6-е лістапада 1926 г. аб зьмене артыкулу 1-га пастановы ЦВК і СНК БССР за 29 мая 1925 г. аб пазбаўленьні Народных судоў ад разгляду некаторых катэгорый спраў, разглядаемых у парадку гэтага грамядзянскага судаводзтва (З. З. БССР 1926 г. № 46, арт. 174), на мясцох узьнікае пытаньне аб тым, хто павінен разглядаць справы аб прызнаньні грамадзян ня маючымі досыць сродкаў на выплату гэрбавага і іншых збораў па нясудовых справах, ад разгляду якіх Нарсуды раней, згодна зьмененага артыкулу 1-га вышэйпамянёнай пастановы ЦВК і СНК БССР за 29 мая 1925 г. (З. З. БССР 1925 г. № 29, арт. 273), таксама былі вызвалены.

З прычыны вышэйпаказанага Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае, што са зьменай артыкулу 1-га пастановы ЦВК і СНК

БССР за 29 мая 1925 г., згодна пастановы іх за 6 лістапада 1926 г., справы аб прызнаньні грамадзян ня маючымі досыць сродкаў на выплату гэрбавага і іншых збораў па нясудовых справах, па дакладным сэнсе § 10-га дадатку 2-га да Гэрбавага Статуту і цыркуляру НКЮ за 12 мая 1924 г. № 33 (З. З. БССР 1924 г. № 5, арт. 72), павінны разгледжвацца Народнымі Судамі, дапасоўна да арт. арт. 191—193 ГПК, у парадку гэтых артыкулаў, пры гэтым трэба мець на ўвазе, што разглежджваньне гэткіх спраў судом можа быць толькі у тым выпадку, калі у справавядзеньні тэй або іншай установы маецца якая небудзь вызначаная справа, па якой патрабуецца прадстаўленьне гэрбавага або іншага збору, і што прыймаць гэткія справы да свайго справавядзеньня Народныя Суды павінны ледзь пры ўмове патрабаваньня аб тым тэй або іншай установы, або хадайніцтва грамадзян і прадстаўленьня імі пасьведчаньня ці даведкі ад належнай установы аб справе, якая знаходзіцца ў справавядзеньня гэтай установы і аб тых зборах і разьмеры іх, аб вызваленьні ад якіх яны хадайнічаюць.

Хадайніцтвы грамадзян аб прызнаньні іх ня маючымі досыць сродкаў на выплату гэрбавага і іншых збораў па нясудовых справах, якія, згодна гэтаму растлумачэньню, павінны падавацца імі ў Народны Суд, а таксама і вышэйпаказаныя пасьведчаньні і даведкі, якія выдаюцца грамадзянам установамі для прадстаўленьня ў Народны Суд на прадмет разьвязаньня пытаньня аб вызваленьні іх ад гэрбавага і іншых збораў, згодна § 17 і § 15 дадатку 2 да Гэрбавага Статуту, ад аплаты гэрбавым зборам вызваляюцца.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Член Калегіі і Загадчык Аддзелу Судабудаўніцтва
і Нагляду НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

16 лютага 1927 г.
№ 15.

*Цыркулярна.*

*Усім Акрсудом і Акрпракурорам.*

Маюцца выпадкі, калі Нарсьледчыя і Нарсуды пры неабходнасьці выкліку для допыту альбо ў Суд ваеннаслужачых выбіраюць адносна іх у якасьці меры прасячэньня ўтрыманьне пад вартай. Пры гэтым яны ня толькі паводле арт. 146 і 160 Крым. Прац. Код. не паведамляюць аб гэтым Вайсковага Пракурора, а за адсутнасьцю яго—грамадзянскага Пракурора, але самы выклік і арышт робяць міма камандаваньня таго ваенна-служачага, якога аддаюць пад варту.

З прычыны гэтае прапануецца:

1. Пры неабходнасьці абраньня адносна ваеннаслужачых у якасьці меры прасячэньня ўтрыманьне пад вартай абавязкова своечасова паведамляць аб гэтым вайсковага пракурора, а ў выпадках адсутнасьці такога на тэрыторыі акругі,—грамадзянскага пракурора.

2. Самы арышт ваеннаслужачых, таксама і ў выпадках неабходнасьці дастаўленьня іх у суд для разгляду спраў, рабіць толькі праз камандаваньне гэтых ваеннаслужачых.

3. Самы арышт ваеннаслужачых рабіць толькі ў выпадках, выключнай неабходнасьці, калі бяз гэтага ніякім чынам нельга абыйсьціся.

4) У выпадках неабходнасьці выкліку ў суд ваеннаслужачых позвы неабходна таксама пасылаць не непасрэдна таму ваеннаслужачаму, якога выклікае, а абавязкова праз яго камандаваньне.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Г. Нямытых.*

4 сакавіка 1927 г.
№ 1.

---

## УСІМ ПРЭЗЫДЫУМАМ АКРУГОВЫХ КАЛЕГІЙ АБАРОНЦАЎ.

Аб арганізацыі сыстэматычнага інструктаваньня справачных сталоў пры хатах-чытальнях раённымі членамі калегіі абаронцаў.

### ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Барацьба Савецкае ўлады за ўзмацненьне асноў рэвалюцыйнай законнасьці сярод насельніцтва выклікала з боку НКЮ цэлы шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку арганізацыю юрыдычнай дапамогі, як у гарадох, так і на весцы, первястковым зьвяном якой зьяўляюцца справачныя сталы пры хатах-чытальнях.

Арганізацыя гэтых сталоў пры хатах-чытальнях мае сваёй галоўнай і асноўнай задачай учыненьне юрыдычнай дапамогі беднейшаму насельніцтву і адхіленьне яго ад зварочваньня да падпольнае адвакатуры.

Дзеля гэтага, правільная пастаноўка працы справачных сталоў пры хатах-чытальнях мае вельмі важнае значэньне.

Трэба арганізаваць гэтыя сталы так, каб кожны селянін знайшоў у іх сабе параду па тым пытаньні права, якое яго цікавіць або правільны напрамак і паказаньне аб тым, дзе ён можа знайсьці пэўны адказ на сваё запытаньне.

Гэта задача справачных сталоў можа быць выканана толькі тады, калі яны атрымаюць неабходнае ім кіраваньне і сыстэматычнае інструктаваньне з боку раённых членаў калегіі абаронцаў, на якіх гэтыя абавязкі ўскладзены інструкцыяй НКЮ за 27 верасьня 1926 г., № 127.

Здавальняючае выкананьне раённымі членамі калегій абаронцаў сваіх абавязкаў адносна справачных сталоў пры хатах-чытальнях можа быць толькі ў тым выпадку, калі раённыя члены калегіі абаронцаў будуць пэрыядычна даведвацца да справачных сталоў і даваць ім адпаведныя паказаньні, як у галіне арганізацыі іх, так і ў галіне спосабаў і мэтадаў учыненьня юрыдычнае дапамогі насельніцтву.

Застаўленьне справачных сталоў бяз гэтага кіраваньня і інструктаваньне можа дыскрэдытаваць іх у вачох насельніцтва і дасьць магчымасьць падпольнай адвакатуры, барацьба з якой шляхам правільнай і шырокай пастаноўкі юрыдычнай дапамогі зьяўляецца найлепшым і пэўным сродкам яе зьнішчэньня, ня гледзячы на тыя вынікі, якія ўжо дасягнуты ў гэтай барацьбе, зноў яшчэ вышэй падняць сваю галаву.

Між тым, па зьвестках, якія маюцца ў НКЮ, справачныя сталы у шмат якіх сельсаветах не атрымалі яшчэ належнае арганізацыі і адпаведнага інструктаваньня і не заваявалі сабе поўнага давер'я ў насельніцтва. Праўда, як відаць з справаздач акруговых калегій аба-

ронцаў, перашкоды на шляху ажыцьцяўленьня раённымі членамі калегій абаронцаў сваіх абавязкаў па кіраваньню і інструктаваньню справачных сталоў стаіць недахоп сродкаў на выезды іх у сельсаветы, але па думцы НКЮ, гэта перашкода можа быць адхілена, як шляхам асыгнаваньня неабходных сродкаў акруговымі калегіямі абаронцаў з фонду ад процантных адлічэньняў, які маецца ў іх распараджэньні, так і шляхам зносін членаў калегій абаронцаў з адпаведнымі Райвыканкомамі, сельсаветамі іншымі мясцовымі органамі, якія, будучы зацікаўлены ў прадастаўленьні насельніцтву юрыдычнай дапамогі, ня могуць не пайсьці насутрэч і, напэўна, не адмовяць раённым членам калегій абаронцаў у прадастаўленьні ім неабходных сродкаў перасоўваньня.

Паведамляючы Вас аб вышэйпамянёным і зварочваючы яшчэ раз Вашу ўвагу на вельмі важнае значэньне правільнай пастаноўкі працы справачных сталоў пры хатах-чытальнях, Народны Камісарыят Юстыцыі і Ўсебеларускае Аб'яднаньне калегій абаронцаў, спадзяюцца што Прэзыдыумамі Акруговых калегій абаронцаў, зараз жа па атрыманьні гэтага ліста, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці і перашкоды будуць прыняты адпаведныя меры да таго, каб справачныя сталы пры хатах-чытальнях у хутчэйшым часе атрымалі неабходныя ім кіраваньне і інструктаваньне з боку раённых членаў калегіі абаронцаў, дзеля чаго трэба арганізаваць сыстэматычныя, у плянавым парадку, выезды іх у хаты-чытальні, пры якіх гэтыя сталы арганізаваны, і арганізаваць іх пры тых хатах-чытальнях, дзе яны яшчэ не арганізаваны, у адпаведнасьці з вымаганьнем вышэйпаказанай інструкцыі НКЮ 1926 г.

Аб прынятых Вамі ў выкананьне гэтага ліста мерапрыемствах паведаміце НКЮ не пазьней 5-га мая г. г. ў паасобным дакладзе.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сегаль.*

Старшыня Прэзыдыуму Ўсебеларускага Аб'яднаньня
Калегіі Абаронцаў *Слонім.*

Член Калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

3 сакавіка 1927 г.
№ 3 г.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

Галоўлітбел № 24.856. Тыраж—1500 экз. Друкарня Менспраўдому

Цана 80 кап.